# СТУДЭНЦКАЯ DУМКА

#11-12 [2001]



комікс ад Лявона Вольскага с. 48





BJORK / ВІКЦЮК / FINAL FANTASY / НАСТРАДАМУС / SEX / ДЖЫНСЫ

**Студэнцкая думка № 11-12 (71-72) 2001 г.**

Заснавальнік: грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
Выдавец: рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

**Рэдактар**
Ірына Віданава
**Намесьнік рэдактара**
Мікола Шакель
**Стыль і карэктура**
Алена Клікунова
**Дызайн, вёрстка й афармленьне**
Уладзімер Пакацілаў

**Адрэса рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск,
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр :** 206-75-75, абанэнт 1823
**Адрэса для допісаў:** 220030, г. Менск 30, п/с 90
**Адрэса ў Інтэрнэце:**
www.studumka.com
**E-mail:** studumka@tut.by

Часопіс выходзіць з 1924 г.
Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.
Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.
Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.
Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.

Надрукавана ў ТАА "Палікрафт"
220113, г. Менск, Я.Коласа,73
Ліцэнзія ЛП № 394
Фармат 60х84 1/8
Папера афсетная 65 г/м2
Падпісана ў друк 19.12.2001
Замова № 665
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны


Ірына Віданава

З пачаткам зімы студэнты амаль не адыходзяць ад люстэрка. Ня тое каб у іншы час гэны прадмет не карыстаўся ў іх папулярнасьцю (хоць ёсьць і такія кадры), але недзе ў сярэдзіне сьнежня кожны нармалёвы студэнт з асаблівай пільнасьцю пачынае ўглядацца ў люстэрка, спрабуе там нешта разгледзець... Чаму? Ды таму што сэсія на носе!

Здароў быў (ёсьць і будзеш), шаноўны калега! У этэры... цьфу, у шапіку і ў прыватных распаўсюднікаў - падвойны нумар "Студэнцкай Думкі" (бурныя, працяглыя аплядысмэнты). І табе пашанцавала - ты яго набыў (адарваўся-ткі ад люстэрка)! Ты яшчэ ня ведаеш, якія інфабомбы тут схаваныя. Таму мы проста абавязаныя падрыхтаваць цябе да інфармацыйнага CD-выбуху!

Такім чынам, сваю сапэрскую ўвагу ў першую чаргу зьвярні на бомбу пад назвай **"Сэсія для "чайнікаў"**. Гэта тое, чаго табе не хапае, каб замест троек на іспытах атрымліваць пяцёркі. Тут ты прачытаеш пра тысячы спосабаў прафэсійна зрабіць шпору, пра перадэкзамэнацыйныя рытуалы, пра правілы карыстаньня бібліятэкай (ёсьць такое месца), пра зноў-ткі "правільны" лад жыцьця падчас сэсіі і г.д.

Як ні дзіўна, ёсьць у сэсіі і прыемны момант. Гэта тое, што перад ёю нас чакаюць сьвяты - цэлыя **Дзьве тоны (+2 кг) сьвятаў!** Якія таксама трэба перажыць... І калі гэтая праблема турбуе цябе болей за іспыты - нішто ня можа перашкодзіць табе залезьці ўпярод бацькі ў пекла, то бок пачаць чытаць гэты двайнік "CD" зь ягонай другой паловы і пераключыцца на сьвяточную тэматыку (правільна, ну іх, гэтыя іспыты!). Прынамсі, у цябе зьявяцца варыянты адказу на вельмі няпростае пытаньне, як на адну стыпэндыю забясьпечыць усіх сваіх прагна-бедна-галодных сябрукоў падарункамі. А заразом падорым нешта і дэкану.

Апроч таго, толькі ў "CD" і толькі ў гэтым нумары ты даведаесься, за што **Б'ёрк** атрымала Ордэн Заслугі, што агульнага маюць **джынсы** з Зыгмундам Фройдам, што ядуць у **Сэрбіі**, чаму ў амэрыканцаў **няма грошай** і як жыць бязь іх (грошай) беднаму беларускаму студэнту. Такім чынам, цябе чакае прыемны вечар (ноч, раніца - патрэбнае падкрэсьліць) з адзінаццата-дванаццатым нумарам "CD": падвойная доза інфармацыі і файнага настрою!

ЗЬМЕСТ



# Як добра жыць бяз грошай

*Некалі нашыя дзяды й бацькі марылі жыць пры камунізьме. Гэтая (анты-) утопія абавязкова характарызавалася адсутнасьцю грошай. Маўляў, яны проста ня будуць патрэбныя: прыходзь у краму і бяры што хочаш. Сёньня, гледзячы па адсутнасьці грошай у нашых кішэнях, камунізм ужо надышоў. Адзіная праблема - з крамамі. Прадавачкі па-ранейшаму ня хочуць нічога даваць задарма. Такія вось "несазнацельныя"! Што рабіць, калі ў тваёй кішэні поўны камунізм, а наўкола - капіталізм зь нечалавечым тварам? Ты, магчыма, будзеш зьдзіўлены, але жыць бяз грошай (ці амаль бяз грошай) можна. І можна жыць вельмі добра. Такім чынам, запрашаю на лекцыю па альтэрнатыўнай палітэканоміі.*

## Дома

Калі ты жывеш з бацькамі, то твой дом - проста невычэрпная крыніца той самай эканоміі. Ёсьць, як той казаў, чым сагрэцца, ёсьць дзе й схавацца. Да таго ж калі тваім бацькам надакучыць соты раз паўтараць сакрамэнтальную фразу: "Зірні на сябе! Ну ў чым ты ходзіш?", яны зробяць сякія-такія манэтарныя захады па паляпшэньні твайго зьнешняга выгляду.

Іншая справа, калі бацькі далёка. Але не бядуй. Калі ты жывеш у інтэрнаце, то ведай, што гэта таксама залатое дно. Пачнем з раніцы. Ты прачынаесься і адразу сутыкаесься з матэрыяльнымі праблемамі: трэба папіць гарбаты-кавы. Калі ні таго, ні другога ў цябе на дадзены момант няма, пазыч у суседа. Пытацца ў яго зусім не абавязкова - карыстайся прынцыпам: камунізм у кішэні - камунізм ва ўсім! Цяпер ідзем у лазенку. Чысьцім зубы. Здагадаўся, чыёй пастай? Пену для галеньня таксама вазьмі на палічцы. І забудзься на згрызоты сумленьня: як мяркуеш, хто пад'еў усю тваю бульбу? Прусакі?

Дзяўчатам з ранішнім туалетам давядзецца цяжэй: трэба напарфуміцца й падфарбавацца. І тут, прабачце, я вам не дарадца: ніколі фарбавацца, дзякуй Богу, не спрабаваў. Так што выкручвайцеся, як хочаце... А тым пекным паненкам, якім у гэтай справе не пашанцуе, давядзецца суцяшаць сябе тым, што парфума - рэч даволі-ткі шкодная: яна забівае натуральныя атрактаны (гэта такія штучкі, якія прыцягваюць процілеглы пол).

Ну вось, цяпер ты ўкамплектаваны й гатовы да дзеяньняў. А каб усе твае папярэднія захады не выглядалі задужа нахабна, ствары ілюзію, што ты таксама клапоцісься пра "гаспадарку". Купі са стыпэндыі якую-небудзь дробязь. Скажам, лямпачку, якая перагарэла ўжо з тыдзень таму. Няхай будзе сьвятло! Такім чынам, маральнае права на гарбату табе гарантаванае...



## Транспарт

Не купляй праязны! Завядзі ў партманэце асобную кішэньку, куды будзеш складаць талёнчыкі таго маршруту, якім ты заўсёды едзеш у інстытут. Пазначай іх па нумарах тралейбусаў (аўтобусаў і г.д.). На збор калекцыі пойдзе максымум тыдзень, а карысьць ад яе ты будзеш адчуваць яшчэ доўга.

Калі ж купляць талёнчыкі нават для калекцыі няма за што, набудзь адзін-два. Застанецца толькі своечасова заўважыць набліжэньне кантралёра. Але памятай пра дысьляксыю ў транспарце. Калі ты беражлівы (талёнчык - нацыянальнае багацьце!) і маеш хуткія ногі - станавіся ля дзьвярэй. Калі ж ня хочаш нарывацца - пасоўвайся да кампостэра. З усяго вышэйсказанага, мяркую, ты й сам зробіш адпаведныя высновы пра выгоды наземнага транспарту ў параўнаньні з мэтро.

## На вучобе

Вось тут пачынаецца самае складанае. Давай вызначымся дзеля пачатку з асноўнымі матэрыяльнымі патрэбамі студэнта ў часе навучальнага працэсу. Першае - гэта піва. Каму ня хочацца папіць піва замест таго, каб ісьці на наступную пару, альбо пасьля заняткаў?! Тым болей на халяву. Але на любую халяву трэба працаваць! Таму зоймемся бізнэсам загадзя, яшчэ ў часе заняткаў. За што можна стрэсьці піва? Вядома, за нейкую паслугу! Таму стань чалавекам, карысным для грамадзтва. Разьбярыся ўрэшце зь якой-небудзь тэарэмай і рашай зь яе дапамогай задачкі да практычных заняткаў. Нацягай рэфэратаў з нэту, вазьмі ў суседняй групе пытаньні да заўтрашняга тэсту, зрабі так, каб перад іспытам у цябе аднога быў поўны канспэкт, загадзя вазьмі самыя рэдкія кнігі ў бібліятэцы... І на ўдзячныя воклічы аднагрупнікаў адказвай сьціпла: "Ну, з вас піва!" Потым застанецца толькі інтэлігентна нагадаць.

Патрэба нумар два: абед. Есьці нармальнаму студэнту хочацца заўсёды, а стыпэндыі хапае хіба што на трохразовае харчаваньне: панядзелак, серада, пятніца. Але і ў іншыя дні ня варта пасьціцца па сыстэме Парфірыя Іванова. Паспрабуй скарыстацца з папулярнага ў студэнцкім асяродку прыёму "за кампанію". Памятаеш амэрыканскую прымаўку пра тое, што ў самоце ядуць толькі дурні? Дзейнічай! Зрабіся цікавым суразмоўцам, начытайся анэкдотаў ці (для дзяўчат) модных часопісаў, сьмела заводзь гутарку, а потым, завабіўшы цікавасьць, прапануй дараспавесьці за абедам. Правіла пра "глух і нем" для цябе дзейнічаць не павінна. Што лепей: згубіць некалькі калёрыяў ці наагул іх не атрымаць? Так вось...

## Тусьня

Застаецца яшчэ адно складанае пытаньне: як бавіць час пасьля заняткаў. Вядома, можна пайсьці ў бібліятэку (хоць яны ў нас бясплатныя!). Але падумай, ці гэта табе будзе цікава. Лепей - дыскатэка, клюб, рок-канцэрт. Для дзяўчат гэта ўвогуле не праблема - варта толькі часова забыцца на сусьветныя дасягненьні фэмінізму і міласьціва дазволіць вырашаць праблему моцнаму полу. Да прыкладу, калі мая дзяўчына кажа мне, што неяк стала сумна і хочацца сьвята, я ўжо прывучаны ўспрымаць гэта як прапанову набыць торцік ці схадзіць у якую кавярню.

Хлопцам тут цяжэй. Але азірніся: вакол столькі цікавых людзей - паэтаў, мастакоў, музыкаў, дыджэяў і г.д. Трэба зводзіць зь імі знаёмствы. Хіба адмовіцца твой сябар-гітарыст запрасіць цябе на канцэрт у які-небудзь "Рэактар", калі ты праявіш належную ўвагу да ягонай творчасьці й захапленьне ягонай манэрай ігры? У мяне гэта праходзіла шмат разоў. Так што падыходзь да праблемы творча, і тусоўка сама цябе знойдзе!




Ну, вось і распавёў я табе сёе-тое з уласнага досьведу. Далей - уключай фантазію. А калі яна чамусьці не ўключаецца... Што ж, тады выйсьце адно - *ЗАРАБЛЯЙ ГРОШЫ!*

# Кароткія піўныя навіны




Нарэшце дачакаліся. Лідзкі бровар выпусьціў піва "Студэнцкае". Аднаўленьне старых традыцыяў - гэта заўсёды добра. Але ёсьць у нашай бочцы піва і лыжка пральнага парашку.

Крыўдна, калі студэнт каціруецца ніжэй за партызана. Ня верыце? Калі ласка. Параўнайце "Студэнцкае" і "Партызанскае". Ну добра, наконт калёрыяў спрачацца ня будзем: 70 ккал супраць 42-х на карысьць партызанаў - ім у лесе трэба болей. Добра. Мы людзі з паняціямі. Але па алькаголі! 3,7% аб. для студэнтаў і 5,6% аб. для партызанаў. Ім жа ваяваць! Страляць з-пад рукі, скідаць цягнікі! Мала гэтага, дык у іх яшчэ "...с мягкой хмелевой горечью и ароматом, возможен винный вкус"!

Нічога, мы яшчэ паглядзім, як адрэагуе кіраўніцтва краіны на такую вэрбоўку студэнтаў у партызаны.

"Студэнцкага" няма

# Менск Слэнгавы

Алеська

***Каракаціца.*** Яшчэ адна назва выстаўнага павільёну БелЭКСПА на пр. Машэрава,14. Відаць, надта ўжо ня ўпісваецца хвалістая архітэктура будыніны ва ўрбаністычны ляндшафт.

***Партызаны.*** Жыхары Партызанскага праспэкту.

***Маякоўка.*** Вуліца Маякоўскага. Хоць ён і рускі савецкі паэт, але адзначыўся бунтарскаю дзейнасьцю. Гнеўна пратэставаў. Патасна высьмейваў. Выкрываў антычалавечую прыроду капіталістычнага сьвету. І г.д...

***Мнімск.*** Гэты варыянт назову сталіцы прыдумаў цікавы фотамастак Баразна, па сумяшчальніцтве прарэктар Акадэміі мастацтва. Абыгрываецца расейскае слова "мниться" - гораду, маўляў, няма.

***Бамбук.*** Суперніцтва дзьвюх "мастацка-культурніцкіх" ВНУ - БАМу (Беларускай акадэміі мастацтва) і БУКу (Беларускага ўнівэрсытэту культуры, цяпер, да таго ж, яшчэ й дзяржаўнага) - пэрыядычна нараджае чуткі пра тое, што варта было б аб'яднаць іх пад адным дахам. Лёгіка назвы - элемэнтарная: БАМ+БУК="бамбук".

***Нямецкі цэнтар.*** Цэнтар IBB на Паўднёвым Захадзе (быў бы на Поўдні - наагул назвалі б "Паўднёвым цэнтрам").

***Сучасьнік.*** Музэй сучаснага і выяўленчага мастацтва.

***Тры багатыры.*** Тры велічэзныя дамы на вуліцы Каліноўскага, 54 (карпусы, адпаведна, 1, 2 і 3).

***Скрыня.*** Палац мастацтваў. Таму што занадта квадратны.

***Школка.*** Беларускі дзяржаўны пэдагагічны ўнівэрсытэт імя М.Танка ідзе на першым месцы па колькасьці нефармальных назваў. Нагадаем папярэднія, якія былі надрукаваныя на старонках "CD" (2001, № 8-9): Пэдун, Пядуха, Танк, Бранятанкавы. Відаць, назва гэтай ВНУ ёсьць крыніцаю для адмысловае творчасьці.

***Труна.*** Палац Рэспублікі, што на Кастрычніцкай плошчы, асацыюецца ў народу паспалітага чамусьці зь нечым злавесным (нагадаю ўжо друкаваныя ў "CD" назовы - Саркафаг, Маўзалей). Усе тры назвы зьвязаныя зь ня надта прыемнымі для чалавека рэчамі. А сама плошча, як кажуць, - гэта своеасаблівая рэтраспэктыва гісторыі мастацтва: ёсьць Палац прафсаюзаў, збудаваны а la Парфэнон, ёсьць маленькая эгіпэцкая пірамідка - цэнтар-помнік пачатку ўсіх дарог. Ёсьць і Палац Рэспублікі, таксама ў эгіпэцкім стылі.



# ТЭМА



## сэсія для чайнікаў =>

Натальля Лазука

# Мастацтва шпораЎ

## Сэсія! І здараецца ж такое...

### Варыянт #1

Стомлены, ты адкладаеш білеты... Твой дух распраўляе крылы ведаў, а ў мазгох раіцца мноства геніяльных думак. Ты спакойны і мудры. Быццам талмуд Вялікіх, ты закрываеш канспэкт, і сусьвет, здаецца, сьціскаецца між старонкамі. Ён падпарадкаваны тваёй волі. Існасьць рэчаў і зьяваў спасьцігнутая: кола замыкаецца заклёнам - Я ВЕДАЮ!!!

Раптоўна пераварочваеш ліст з пытаньнямі... (мэтафізіка сусьвету распадаецца)... і бачыш яшчэ столькі ж зусім ня ўлічаных і, адпаведна, НЕВЯДОМЫХ табе білетаў! Рэчаіснасьць за імгненьне праносіцца ў цябе перад вачыма, мроіцца пякельны сьмех Прэпода, пагардлівы віск выдатніцаў і спачувальны позірк дэмана ў строі Дэкана... Усё перамешваецца. Гарсць сінім полымем стол, канспэкты і кніжкі. Праз гэтую какафонію прарываецца крывавая дата іспыту... ЗАЎТРА!

Адвечнае пытаньне: што рабіць?! У пошуках адказу звычайны піпл не складае свае мазолістыя рукі, а пачынае корпацца ў загашніку падсьвядомага (як уласнага, так і суседзкага). Пашанцавала, калі ты жывеш у інтэрнаце: тут не дадуць упасьці ў дэпрэсію. Заўсёды знойдзецца спагадлівая душонка, якая накіруе цябе на "шпорны" шлях. Шпоры ёсьць ва ўсіх, асабліва ў студэнтаў апошніх курсаў. Выцісь зь сябе талент актора, разыграй "паміраючага лебедзя" перад адным з такіх "выкапнёвых" экзэмпляраў. Толькі ня кінься да выдатніцаў, тут яны табе не сябры.

...І вось ты вядзёны няцьвёрдай, але багатай рукой пяцікурсьніка, які памахвае перад тваім носам пляшкай піва і ўсьміхаецца, нібыта балаганны Мэфістофэль... Ягоная фізіяномія адлюстроўвае абсалют упэўненасьці і спакою Буды. Быццам чараўнік, ён адчыняе табе Куфэрак з казкамі - пакрыты попелам, спрэс у падпалінах і ліпкіх плямах ад піва... На палічках, сярод пляшак і іншай брыдоты, што памнажаецца з кожным годам навучаньня, клапатлівай рукой пяшчотна і далікатна складзеныя стосам шпоры... Вось ён - гатовы рэцэпт шчасьця!

### Варыянт #2

Што яму, спрактыкаванаму, загартаванаму ў бойках за "заліковы ўраджай" пяцікурсьніку? Спрытна, нібы коміваяжэр, ён абвалакае твой мозг салодкімі словамі спакусы, а пальцы ягоныя спрытна пералістваюць стосік шпорак, дэманструючы геніяльную прастату і лёгкасьць у эксплюатацыі. Вось гэта на І курс, гэта па спэцдысцыплінах, тое - спэцкурс. Магічныя ягоныя пасы заварожваюць. І паступова, скрозь смугу здагадак і мрояў праступае вяршыня тэхнічнае думкі чалавецтва, яе апагей, пік, апафэоз - ШПОРА. І чаго тут толькі няма:



***"Звычайная".*** Паперка, на якой дробным шрыфтом тэзысна напісаныя адказы на адно альбо некалькі пытаньняў. Сьпісаць з такой шпоркі вельмі складана. Варыянт палягчэньня задачы - сесьці ў сярэдзіне аўдыторыі, за чыю-небудзь сьпіну, каб Прэподу цяжэй было кантраляваць твае рухі. Сьпішаш у 25-50% выпадкаў. Сьпішаш часткова - у 50-75%.

***"Бомба".*** Аркушык паперы з загадзя напісанымі дакладнымі адказамі. Падрыхтоўка такога "твору" вымагае часу, і таму ён дорага каштуе на рынку шпораў. Даць той цуд табе могуць толькі за грошы ці за вельмі прыгожыя вочкі. Але тое - найлепшы від шпоры. Калі сам яе робіш, схадзі на іспыт да папярэдняй групы і даведайся, на якой паперы яны пішуць адказы. На гэткай жа пішы і ты. У працэсе іспыту неабходна адразу ж знайсьці патрэбны адказ, выцягнуць яго з агульнага стосіка. Для спакою сумленьня Прэпода накалякай штонебудзь на сваім аркушыку, а пасьля падмяні паперкі. Посьпех - 70-90%.

***"Нябачная бомба".*** Робіш, як і звычайную "бомбу" (кожны адказ на асобным аркушы), але ў часе падрыхтоўкі падкладаеш пад верхнюю паперку чысты аркуш. На асадку націскай як мацней. Першы аркушык (на якім пісаў) захавай: будзе час - спатрэбіцца. На іспыце выцягваеш другі - нібыта чысты - аркуш і абводзіш хатнюю нарыхтоўку!



***"Плэерная".*** Гэта запіс адказаў на аўдыёкасэце. АЛЕ: доўга шукаць патрэбнае пытаньне, навушнікі занадта "сьвецяцца" на іспыце, сьпісаць магчыма толькі пры пасадцы бліжэй да канца аўдыторыі і каля вакна. Вельмі, вельмі складана выкарыстоўваць. Гэта ўжо ўчорашняе слова тэхнікі. Посьпех - 15%.



**"Кніжная"** (для вандалаў, якім пальцы трэба адрэзаць!). Не, ня буду пісаць, бо толькі пашкодзяць бібліятэчныя фонды. Хто? Варвары! Якія ня ведаюць, што такое ксэракс! Лянівыя пітэкантрапы, што вырываюць аркушы з кніг :-(

**"Рулонная"** ;-). Раздрукоўка на туалетнай паперы. Інгрэдыенты: дробны шрыфт, шчыльная туалетная папера. На маленькім кавалачку зьмесьціцца ўсе пытаньні! Калі цябе заўважылі й ідуць на вобыск, рабі зьнямоглы твар, адпрошвайся і выбягай у прыбіральню, дзе й вучы пытаньне. Сьпісаць магчыма ў 50-70% выпадкаў. Не перабльтай і не скарыстайся такой шпорай па прызначэньні. Хаця б да іспыту...





**"Hands free"**. Для мабілістаў (уладальнікаў мабілаў). Купляй да свайго маленькага сябра прымочку "Hands free" - навушнік, які падключаецца да тэлефона. Да таго ж на провадзе навушніка ёсьць мініятурны мікрафон. Але патрэбны вольны піпл, які б зь іншага тэлефона дыктаваў адказ (на папярэдні твой шэпт у мікрафон). Найбольш зручна выкарыстоўваць дзяўчынам з доўгімі валасамі (там і чорта схаваць можна). Вельмі прыдасца ўзімку - правады й мікрафон камуфлююцца швэдрам.



**"Цыгарэтная"**. Для тых, хто smoking: шпорку хаваеш у цыгарэты замест тытуню, а пачак на іспыце кладзеш на стол. На кожнай цыгарцы пішаш нумар білета. Галоўнае - ведаць, ці паліць Прэпод. Калі так, патрэбныя самыя танныя цыгарэты, каб не пакваліўся. Зусім не падыходзіць той варыянт, калі Прэпод - старая жанчына са сталінскімі замашкамі ў пляне дысцыпліны: можа завісьнуць над табой і прачытаць лекцыю пра небясьпеку паленьня. Яшчэ й імідж сабе сапсуеш!



**"Калькулятарная"**. Гэта знаёмы да болю электронны нататнік з уведзенымі загадзя адказамі. Сьпісаць такім чынам - асабліва на іспытах, дзе патрэбны калькулятар, - можна ў 95% выпадкаў.

**"Дадатковая літаратура"**. Прыдасца толькі на іспытах у сур'ёзных установах, дзе карыстаньне плянамі разьлікаў, дамовамі, кодэксамі, даведнікамі, слоўнікамі й г.д. будзе звычайнай рэччу. Забарыкадуйся кніжкамі, і чым больш іх вакол цябе, тым лягчэй схаваць шпорку. Альбо абкладзіся паперкамі - "чарнавікамі" - і хавай шпоркі паміж імі.



**"Пэйджэрная"**. Скідай загадзя тэкст на пэйджэр (вядома, не праз апэратарку). Такім тэхнічным сродкам Прэподы ўжо ня дзівяцца. Але часам бываюць і праколы. У залежнасьці ад тыпу пэйджэра туды магчыма ўпіхнуць 1,5-3 аркушы памеру А4. Посьпех - у 70-85% выпадкаў.

**"На гумцы"**. Рэцэпт нашых дзядоў. Пішаш на вузкай палосцы паперы адказы, мацуеш яе на канец гумкі, а другі канец прывязваеш да рукі ці на пояс. Пры небясьпечным наблізжэньні "Скліфасоўскага" паперку трэба адпусьціць, і яна імгненна стрэльне ў рукаў (альбо пад спадніцу, але падумай пра суседзяў-хлопцаў: ім цяжкавата будзе сканцэнтравацца, калі прыгожая дзяўчына побач "гульвіва" памахвае спадніцай ;-)).

*У аўдыторыю, дзе йдзе іспыт, заходзіць Сымпатычная дзяўчына. Робіць некалькі крокаў да стала, і раптам, пасьля рэзкага гуку, з-пад кароткай ейнай спадніцы рассыпаюцца шпоры, усьцілаючы падлогу навокал у радыюсе 5 мэтраў. Са спакойным і нават па-філязофску задуменным тварам дзяўчына зьбірае іх па адной у заплечнічак. Ігнаруючы весялосьць выкладчыка, яна цягне руку за білетам. Тут - яшчэ адзін кароткі рэзкі гук, і зноў сыплюцца шпоркі. Экзамэнатар, адаючы залікоўку, курчыцца ў сутаргах: "Прыйдзеце наступным разам". "А ў мяне яшчэ ёсьць", - помсьліва агрызаецца дзяўчына, выцягваючы з кішэні стос сьпісаных паперак, і, памахваючы імі, з гонарам пакідае поле бітвы.*

Калі ж замучыць сумленьне - памятай: шпорамі карыстаецца 98% студэнцтва (дадзеныя сацыялягічных службаў). Кожны грашыў ;-) І потым, грэе адчуваньне, што калі ты й будзеш "у нуль" па пытаньні, дык за нешта магчыма будзе зачапіцца - за шпору.



**"Дыскетная"**. Бярэш дыскету (лепей старую: яны больш шыя). Там у яе ёсьць жалязка, якая рухаецца. Разьбіраеш дыскету на дзьве часткі, выцягваеш магнітны дыск і клеіш на яго паперку са шпоркай. Зьбіраеш і карыстаешся: калі трэба, гуляючыся адцягваеш жалязку і пачынаеш паварочваць дыск. Каб усё было ОК, можаш на дыскету зьверху наляпіць нейкія малюнкі, а збоку зрабіць разьметку, як на лінейцы. І калі Прэпод запытаецца: "Шо цэ такое?", ты зможаш упэўнена адказаць: "Новая лінейка". Праўда, магчымыя і іншыя вар'яцкія пытаньні: "А навошта лінейка ў Кулінарнай акадэміі?"

Стася Куніцкая

# Дзе ня цэняцца "пяцёркі"?

*Не адкрыю Амэрыку, калі нагадаю, што набліжаецца самы напружаны час для студэнтаў - сэсія. За некалькі тыдняў моладзь мусіць перакапаць блізу дзясятку выкладчыкаў у глыбіні сваіх ведаў па тым ці йншым прадмеце. Звычайна гэта робяць толькі для адзнакі ў залікоўку, каб працягваць шлях да дыплёму.*

Рэйтынгавая сыстэма сталася нейкім падабенствам больш дасканалых правілаў ацэнкі, што прымяняюцца ў краінах па абодва бакі Атлянтыкі. Пасьпяховасьць засвойваньня новага матэрыялу правяраецца там сыстэмай тэстаў. Пры гэтым максымальны бал не абмяжоўваецца сотняй, а перавышае часам 960, як у SAT (тэст для англамоўнае моладзі, які дазваляе вызначыць падрыхтаванасьць як па гуманітарных, так і па зьнітаваных з матэматыкай дысцыплінах). SAT - міжнародна вядомы і выкарыстоўваецца як выніковы іспыт, аднак па такой жа схеме пабудаваная і бальшыня ўнутрыўнівэрсытэцкіх прамежкавых залікаў. За кожны слушны адказ на пытаньне налічваюцца балы. Іх сума ў адсоткавым выражэньні ад максымальна магчымага выніку адпавядае адной зь пяцёх першых літараў лацінскага альфабэту. А - найлепшы паказьнік, Е - найгоршы. У некаторых краінах, прыкладам у Нямеччыне, замест літараў можна ўбачыць знаёмыя лічбы. Адзінка адпавядае A-mark, двойка - B-mark і г.д. Гэта па сутнасьці тая ж пяцёхбальная сыстэма, якая дазваляе хутка разабрацца ў студэнцкай пасьпяховасьці выкладчыкам і наступным экзамэнатарам. Аднак колькасьць балаў, што хаваецца за кожнай літарай, пакідае магчымасьць для больш дэталёвага кантролю й ацэнкі навучэнцаў.

Сыстэма тэстаў ня мае канкурэнтаў па аб'ектыўнасьці. Яна дазваляе ацаніць падрыхтаванасьць навучэнца адразу па ўсім курсе. Складальнікі тэстаў разумеюць, што ўсё вывучыць немагчыма. Таму яны ўнікаюць недарэчнасьцяў зь нездавальняючымі адзнакамі з-за адзінага нявывучанага пытаньня. Выехаць на адзіным шчасьлівым білеце таксама не атрымаецца. Пры гэтым тэсты не выключаюць вусных сумоўяў і часта дапаўняюцца патрабаваньнямі напісаць эсэй. Зрэшты, яго таксама можна ацаніць ня толькі лацінскай літарай.

**ЯНЫ**



Не кажыце мне, што ў часе сэсіі студэнты зацікаўленыя ў атрыманьні фундамэнтальных ведаў. Цікавымі для сябе рэчамі яны займаюцца калі заўгодна, толькі не напярэдадні іспытаў. Рыхтуючыся да адказу на білеты, яны думаюць толькі пра адзнакі.

Бальшыня беларускіх выкладчыкаў, пастаўленая перад патрэбай ацаніць веды студэнта, ня мае з чаго абіраць. Жорстка памыляецца той, хто лічыць, што ў Беларусі прынятая пяцёхбальная сыстэма. Насамрэч існуюць толькі тры становучыя адзнакі. Студэнт можа адтарабаніць білет на "выдатна". Адна-дзьве малаістотныя памылкі - і ён задавальняецца "чацьверкай". "Трояк" ёсьць адзнакай унівэрсальнай. Выкладчык ставіць яго і калі адказ студэнта не дацягвае да "добрага", і калі ёлуп ня ведае зусім нічога, аднак бачыць яго зноў - ламае.

**МЫ**

"Адзінак" у большасьці беларускіх ВНУ ня ставяць наагул. "Лебядзёў" у дыплёмах таксама не сустрэнеш. Схапіўшы "пару", студэнт або вымушаны падвучыць і прыйсьці здавацца наступным разам, або зусім пакінуць унівэрсытэт, акадэмію ці інстытут. Такая малая варыятыўнасьць не дазваляе ацэньваць моладзь аб'ектыўна і індывідуальна. Гэта ўсё адно, што сартаваць вішні: якія на кампот, а якія зусім прэч.

Зь непрымальнасьцю такога падыходу ўжо сутыкнуліся ВНУшныя прыёмныя камісіі. Калі конкурс на спэцыяльнасьць вельмі вялікі, а абітурыент ідзе як на падбор галавасты, дык вызначальны можа стаць кожная палова балу. Ды што палова! Калі б можна было ставіць чацьвертыя ці восьмыя, сытуацыя наўрад ці спрасьцілася б. Разумеючы гэта, у прыёмных камісіях БДУ ўжо ўсталявалі дзесяцёхбальную сыстэму адзнак. Верагодна, у бліжэйшы час гэткім жа чынам будуць ацэньваць і студэнтаў.

Пакуль жа БДУшныя навучэнцы адчуваюць на сабе жорсткасьць рэйтынгавае сыстэмы. "CD" ужо пісала пра тое, чым ёсьць гэтая прыдумка. Нагадаем: выкладчык прызначае вартасьць таго ці іншага віду працаў, выкананых студэнтам (прысутнасьць на лекцыі - 0,5-2 балы, падрыхтоўка рэфэрату - 5-10 балаў). Ідэальны студэнт можа набраць цэлую сотню. Але такіх у прыродзе няма. Таму для атрыманьня заліку аўтаматам дазваляецца выконваць праграму адсоткаў на 80. Пры меншым выніку прадугледжаная адпрацоўка. Усё б нічога: хто як стараецца, той так і атрымлівае. Аднак у дзеяньнях адміністрацыі назіраецца непасьлядоўнасьць. Іспыты БДУшным студэнтам даводзіцца здаваць усё па той жа трохбальнай сыстэме незалежна ад таго, як яны вучыліся цягам сэмэстру.



ТЭМА

**Дар'я Сітнікава**

*Нашая стратэгічная мэта - здаць яе. Нашае паталягічнае жаданьне - зрабіць гэта зь мінімальнымі стратамі. Яна - сэсія, якая "ціхай сапай" дабралася да ўсіх і кожнага. "Крыжовы паход" па стыпэндыю пачынаецца! Ты з намі?*

# Халяву замаўлялі?

Карацей, мы тут па-студэнцку падумалі, што кідаць цябе ў такі адказны момант нельга. Таму як сабе хочаш, а атрымаць ад "CD" колькі парадаў усё-ткі давядзецца.

Перш за ўсё адкінем убок канспэкты й развагі на тэму маралі. Ты думаеш, што звісаньне над стосам падручнікаў - лепшы спосаб "разьвесьці" дзяржаву на тое, што яна на поўным сур'ёзе называе стыпэндыяй? Ня вер! Унівэры ж узьніклі ня ўчора. Таму было б наіўна меркаваць, што ўсе прэтэндэнты на льготны праезд у транспарце толькі тое і робяць, што прыклейваюцца да крэслаў у чыталцы. Статычнае марнаваньне часу - ганьба для сапраўдных прадстаўнікоў віду studiosus halavus.

Тым больш што **сэсія** - справа правальная, і сваімі сіламі, без дапамогі "вышэйстаячай" інстанцыі, усё роўна не абысьціся. Таму 24 гадзіны да дня "Хэ" проста неабходна прысьвяціць некалькім абавязковым рытуалам.

Асноўнай задачай ёсьць уваходжаньне ў панібрацкія стасункі зь яе вялікасьцю Халявай. Каб павярнуць ганарлівую асобу да сябе тварам (іншыя часткі, думаю, табе не патрэбныя), роўна ў нуль-нуль гадзінаў нуль-нуль хвілінаў высунься з разгорнутай залікоўкай у фортку. Экстрэмалам падыдзе гаўбец, дзе абавязкова павінны быць схаваныя - ад пражэрлівых суседзяў па пакоі - сушкі (сушэце сухары!). І немым голасам крычы: "Халява, прыйдзі!" Калі на іншых паверхах забубняць: "Шчаз!" - лічы, што ўсё "ў ажуры", і хутка зачыняй залікоўку. Нікому не паказвай і не адчыняй яе да здачы, інакай Халява пакрыўдзіцца і пакіне цябе сам-насам з канспэктам і экзамэнатарам. Таму для дадатковай упэўненасьці перавяжы яе, радзімую, крыж-накрыж ніткамі (урачыстае "абразаньне" потым дзеля прыколу можна даверыць выкладніку). Пасьля гэтага запхні дакумэнт у лядоўню - залікоўку трэба падаваць халоднай. "Закусь" абломіцца заўтра.

А сёньня... Замест "дагрызаньня недагрызенага" лепш... выпіць да страты пульсу. Для тых, хто не дагаляе, - валяр'янка і карвалол не падыходзяць, хоць там таксама "нешта" ёсьць. (Будзь чалавекам, пакінь іх бацькам на заўтра). Пры гэтым трэба добра "перабраць". Пасьля з пачуцьцём глыбокага задавальненьня й выкананага абавязку зымітуй бервяно і - у люлю. Прычым за цьвярозай памяцьцю пакладзі пад падушку канспэкт (калі такі атавізм маецца ў наяўнасьці). Веды павінны самі прабіцца ў твае шэрыя клеткі. Занадта разумныя тлумачаць неабходнасьць "канспэктавага спаньня" тэарэтычным узьдзеяньнем мулкага прадмету на першы пазванковы аддзел цела індывіда, што вядзе да наўпроставага запамінаньня матэрыялу. Раніцой наступнага дня паглядзіся ў люстэрка, пабач там абавязкова няголеную (дзяўчат ня тычыцца) "фэйсіну" і не забудзь у чарговы раз сказаць "дзякуй" дзядзьку Мэндзялееву за карыснае вынаходніцтва! Такім скамечана-перакамечаным і топай на іспыт. Не адна генэрацыя студыёзусаў гарантуе выдатны вынік. Але могуць быць і нэгатыўныя наступствы... Напрыклад, адзін "прэп"-юрыст Гарадзенскага ўнівэру любіў паэкспэрымэнтаваць наступным чынам. Студыёзусы запускаліся ў аўдыторыю, якая абіралася па прынцыпе "чым вышэй, тым лепш". Выкладчык задаволена зьбіраў ва ўсіх залікоўкі і на вачох у студэнтаў... выкідаў іх - залікоўкі - у фортку. І па-садысцку прасіў прынесьці назад. Першыя пяць спрытнягаў атрымлівалі "аўтаматы". Так што ў такіх выпадках табе не дапаможа нават абачліва прыхопленая з сабою пляшка піва (таксама прыкмета). Але гэта зусім не азначае, што яе трэба выжлукціць дома. Яна можа прыдацца выкладніку - у іх жа таксама свае забабоны. Увогуле памятай: халява - рэч абстрактная. А вось экзамэнатар - жывы чалавек, яго паважаць трэба. Практыка паказвае, што самы верны спосаб пасьпяхова здаць - гэта наведаць выкладніка "перад тым, як". І вядома (усе мы людзі культурныя), не з пустымі рукамі. Для негуманных асобаў прыкмячаем: такія атрыбуты, як рыдлёўка і насілкі, жаданага выніку не забясьпечаць.

Дасьведчаныя людзі таксама раяць прыхапіць з сабой грошыкі наміналам у 5... ну, далей вырашаць табе. Піхаць папяровыя тугрыкі можна куды заўгодна.Толькі ўважліва сачы, каб яны не апынуліся пад пільнай увагай экзамэнатара. Выкладнік можа "ня тое" падумаць і на цябе, жадзюгу скнарыну, пакрыўдзіцца.

Карацей, калі твая паважная асоба з доўгімі пазногцямі, нямытым хаерам, хвігай у кішэні і правай рукой на сэрцы ўваліцца з правай жа нагі ў аўдыторыю, скрыжуе пальцы на руцэ, цягнучы білет, і ня будзе хаміць "экзэкутару" - будзь упэўнены, **"5"** табе гарантавана!

І пройдзе ноч, і надыдзе дзень, і прыйдзе сэсія, і жывыя пазайздросьцяць памерлым...

**Народная мудрасьць сьцьвярджае: сэсія пройдзе гладка, калі котка (кот) або сабака прынясе табе ў зубах залікоўку. Зь "сябрамі чалавека" ўсё зразумела, але ўявіць за такім заняткам котку?.. Убачыўшы відавочную перавагу ў гэтай справе "сабачнікаў", студэнты палітэху вырашылі выправіць непаразуменьне. Выходзячы з прынцыпу, што й зайца можна навучыць паліць, дасьціпныя студыёзусы шляхам настойлівых спробаў і шматгадзінных трэніровак прымусілі-ткі аднаго беднага ката зрабіць унёсак у сьвятую справу здачы сэсіі.**





# Тэма

# Сэсія "у законе"

***"Хто і на падставе якіх дакумэнтаў вызначае правілы пераздачы залікаў/іспытаў - тэрміны пераздачы, колькасьць іспытаў, якія можна пераздаваць і г.д.?"***
*Уладзімер Сьцішкевіч, Віцебск*

Парадак здачы іспытаў, залікаў і курсавых працаў рэгулюецца Палажэньнем "Аб курсавых, іспытах і заліках у вышэйшых навучальных установах" (зацьверджана загадам міністра адукацыі № 235-А ад 22 жніўня 1994 г.). У ім адлюстраваны парадак вызначэньня колькасьці сэсіяў (гэта вызначае рэктар ВНУ, але ня болей за 4 сэсіі на год) і тэрмінаў здачы сэсіяў. У гэтым жа дакумэнце агавораныя магчымасьці датэрміновай здачы (са згоды дэкана), адтэрміноўкі іспытаў, а таксама састаўленьне раскладаў іспытаў. Зазначым, што гэты дакумэнт у большасьці выпадкаў выконваецца ВНУ, а калі і парушаецца, то на карысьць студэнтаў: згадайма дазволы студэнтам пераздаваць іспыты зь нездавальняючай адзнакі падчас сэсіі болей за 2 разы, дазволы пераздаваць здавальняючыя адзнакі (у адпаведнасьці з п.26 Палажэньня гэта можна рабіць у выключных выпадках і толькі з дазволу дэкана, а ў нас такое практыкуецца даволі шырока) і г.д.

Тэрміны сэсіі вызначаюцца вучэбнымі плянамі, якія зацьвярджае рэктар ВНУ.

Пераздача іспыту, па якім атрыманая нездавальняючая адзнака, падчас сэсіі, як правіла, не дазваляецца. Аднак пры наяўнасьці грунтоўных падставаў дэкан факультэту мае права дазволіць пераздаць адзін іспыт у часе сэсіі.

Пераздача іспыту, па якім атрыманая станоўчая адзнака, дазваляецца - як падчас сэсіі, так і па-за сэсіяй - толькі ў выключных выпадках дэканам факультэту.

Для студэнтаў, якія маюць акадэмічную запазычанасьць (г.зн. атрымалі падчас сэсіі ня болей за дзьве нездавальняючыя адзнакі), дэкан факультэту вызначае індывідуальныя тэрміны здачы іспытаў. Пасьля зімовае сэсіі гэтыя тэрміны мусяць доўжыцца ня болей за месяц, пасьля летняе - ня болей як да першага дня фактычнага пачатку заняткаў на наступным курсе.

Пераздача іспыту зь нездавальняючай адзнакі дазваляецца па адной і той жа дысцыпліне ня болей за два разы.

***"Калі я паступала на платнае навучаньне, мне сказалі: будзеш вучыцца на выдатна – пераведзем на бясплатнае. Я выдатніца, але пра перавод – ні гу-гу. Ці магу я патрабаваць хаця б зьмяншэньня аплаты?"***
*Юлька, Менск*

Студэнты плацяць за навучаньне на падставе дамовы, якая заключаецца паміж імі і ВНУ. У гэтай дамове і можа быць прадугледжаны перавод студэнтаў з платнай формы навучаньня на бясплатную. Так што ўдакладніце гэты нюанс. Калі ж дамова гэтага не прадугледжвае, то пытаньне рэгулюецца Статутам і іншымі ўнутранымі актамі ВНУ. У большасьці ВНУ такія пытаньні знаходзяцца ў кампэтэнцыі рэктара, які па прадстаўленьні дэкана зьніжае плату за навучаньне студэнтам, якія пасьпяхова здалі сэсію.

***Вашыя крывуліны чыталі Зьміцер і Сяргей Зікрацкія***

**P.S. Дасылайце нам свае пытаньні ў любым выглядзе з пазначкай "Права" (можна "Лева"). Каардынаты – на першай старонцы.**

# Асаблівасьці Нацыянальнай... бібліятэкі

**Таццяна Сапега**

*Падчас сэсіі Бібліятэка становіцца для студэнта родным Домам, дзе ён праводзіць значную частку свайго часу. У бібліятэцы можна прачытаць тое, што праспаў на лекцыях, альбо адшукаць такое, чаго ня ведае сам Выкладчык. Часам становіцца шкада, што ў бібліятэках няма начной зьмены. Студэнту даводзіцца губляць столькі каштоўнага часу на шлях дадому - а пасьля, назаўтра зранку, ізноў у бібліятэку, - колькі якраз не хапае для бездакорнай падрыхтоўкі да іспыту. Але, як заўсёды, пра бясспраўнага студэнта ніхто не клапоціцца, і бібліятэкі настойліва працягваюць зачыняцца тады, калі праца для студэнта толькі пачынаецца.*



## "Посторонним в..."

Улюбёнай бібліятэкай менскіх студэнтаў зьяўляецца Нацыяналка. І нездарма. Па-першае, гэта найбуйнейшая бібліятэка па велічыні кніжнага фонду, па-другое, працуе штодзень да 21.00, за выключэньнем нядзелі (да 18.00). Магло быць і трэцяе, але Кавярня, дзе раней можна было падсілкавацца хаця б разнастайнымі пірозівамі, зачыненая. Абурае таксама тое, што запісваюць у Нацыяналку студэнтаў толькі з трэцяга курсу. Выключэньнем зьяўляюцца студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Акадэміі міліцыі і Міжнароднага дзяржаўнага экалягічнага ўнівэрсытэту імя А. Сахарава. На маю думку, па-першае, гэта вялікая несправядлівасьць: каму, як не руўженькаму першакурсьніку, поўнаму энтузіязму й натхненьня, працаваць у бібліятэцы? Па-другое, прывучаць студэнта да працы ў бібліятэцы неабходна з першага дня навучаньня. На трэцім курсе студэнт павінен ужо грунтоўна (!) займацца навуковай працаю, а ён часам яшчэ ня ведае, што такое Каталёг.

## Ініцыяцыя

Для таго каб стаць Чытачом Нацыянальнай бібліятэкі, неабходна мець студэнцкі білет, пашпарт, фотакартку і 300 беларускіх рублёў. Табе выдадуць чытацкі Квіток, якім пры ўваходзе ў бібліятэку ты павінны засьведчыць сваё зьяўленьне на электронным Прыстасове. У адказ табе нешта пікне (запэўніся, што гэта той самы прыстасоў, а не кабета-Вахтэрка). Гэта азначае, што ты зарэгістраваны і можаш пачувацца вольна. Але быць вольным і самастойным у Нацыяналцы цяжкавата. Бібліятэка складаецца з трох Карпусоў, па якіх раскіданыя Аддзелы. Калі ты атрымаў чытацкі квіток і радасна пранік у галоўны корпус, а табе неабходная літаратура на беларускай мове і пра Беларусь - можаш выцерці нос і вяртацца ў гардэроб: "Беларускі аддзел" месьціцца на трэцім паверсе ў другім корпусе бібліятэкі, што па вуліцы Кірава. У тым жа корпусе на пятым паверсе знаходзіцца выстава новых паступленьняў, якая зьмяняецца адзін раз у тры тыдні і прэзэнтуе тое, што паступіла ў бібліятэку за апошні час. Па ёй лёгка сачыць за навінкамі беларускага і замежнага друку, бо выстава зарганізаваная па галінах ведаў. У гэтым жа корпусе на чацьвертым паверсе месьціцца чытальная заля. Стой, куды пабег? Там чытаюць толькі выкладчыкі і асьпіранты...

Студэнцкая чытальная заля знаходзіцца ў галоўным корпусе бібліятэкі. Ты яе пазнаеш адразу - вялікая і халодная. Але перад тым як ісьці туды, трэба вызначыцца, што ты будзеш чытаць, выпісаць Шыфры кніг, затым замовіць кнігі і пачакаць прыкладна дзьве гадзіны, пакуль твая Замова будзе выкананая.

## Вызначаемся

Самым складаным ёсьць пошук Інфармацыі. Прасьцей, калі ты маеш надыктаваны выкладчыкам дакладны сьпіс літаратуры. Ты зможаш па аўтару ці назьве знайсьці кнігі ў каталёзе, выпісаць шыфры і замовіць кнігі. Калі ж ёсьць толькі тэма, то давядзецца крыху папацець. У абодвух выпадках кіруйся на другі паверх у пакой № 29 з шыльдаю "Даведачна-інфармацыйны аддзел". "Навічка" ў бібліятэцы лёгка пазнаць. Першым часам ён ветліва грукаецца ў дзьверы. Але твая ветлівасьць тут не да месца: адказу не дачакаесься. Адразу сьмела адчыняй дзьверы. Там сустрэнуць цябе шматлікія Каталёгі і Картатэкі. Не пужайся іх. Насупраць уваходных дзьвярэй знаходзіцца працоўнае месца дзяжурнага Бібліёграфа, працаю якога ёсьць табе дапамагаць. Зьвяртай увагу на Шыльды і Надпісы - яны таксама дапамогуць зарыентавацца.

Перад тваімі зьдзіўленымі вачыма паўстане вялікі альфабэтавы каталёг кніг. Тут адлюстраваны расейскамоўны фонд з 1960-га па бягучы год. Для кніг на іншых замежных мовах створаныя асобныя каталёгі. Калі табе трэба праверыць на наяўнасьць у бібліятэцы і зашыфраваць кнігу, то ў альфабэтавым каталёзе знаходзь літару, зь якой пачынаецца прозьвішча Аўтара кнігі (калі такога няма - Назва кнігі), выцягвай скрыню і шукай унутры запаветную Картку. Знайшоў? Малайчына! Толькі не выцягвай яе са скрыні, а занатоўвай Шыфар, што напісаны звычайна зь левага боку карткі. Калі шыфраў некалькі, то не палянуйся і выпішы ўсе. Робіш ты гэта не для добрага дзядзькі: калі адзін асобнік кнігі будзе заняты, ты атрымаеш другі. Калі неабходная кніга, выдадзеная пасьля 1993 году, то пошук можна ажыцьцяўляць па Кампутары ў электронным каталёзе. Праграма дазваляе шукаць і па аўтару, і па назьве. Таму калі забыўся аўтара, але памятаеш назву - кнігу ты знойдзеш.

## Вучымся "прасякаць тэму"

Прынцыпова іншым будзе пошук інфармацыі па Тэме. У электронным каталёзе ты можаш шукаць па ключавых словах і пэрсаналіях у базах кніг, артыкулаў, аўтарэфэратаў і інш. Але памятай, што ў электронным каталёзе ўлічаныя кнігі і іншыя дакумэнты толькі з 1993 году. Калі маеш жаданьне пакапацца храналягічна глыбей, то давядзецца пазнаёміцца яшчэ і з картхавымі каталёгамі. У сыстэматычным каталёзе кнігі прадстаўленыя па Галінах ведаў. Унутры галіны - падрабязнае дзяленьне. У прадметным каталёзе шукай па прадметных Рубрыках. Гэты каталёг найбольш нагадвае прынцып электроннага каталёгу. У сыстэматычным і прадметным каталёгах кнігі адлюстраваныя з 1960-га па бягучы год. Калі ты пачаў пошук, напрыклад, з сыстэматычнага каталёгу, то інфармацыя будзе часткова дубляваца ў прадметным і электронным каталёгах. Але для ачысткі сумленьня лепш выкарыстаць усе магчымыя варыянты пошуку.

## Калі хочаш ад жыцьця болей

Існуюць і іншыя каталёгі й картатэкі: карткавы каталёг пэрыёдыкі і картатэка артыкулаў, Базы пэрыёдыкі і артыкулаў у электронным выглядзе, альфабэтны і сыстэматычны каталёгі кніг на замежных мовах, асобны альфабэтны каталёг кніг на польскай мове і інш. Калі цябе цікавяць кнігі і пэрыёдыка ранейшага за 1960-ы году выданьня, то лепш параіцца зь дзяжурным бібліёграфам, які падкажа шлях пошуку. Калі маеш дакладнае апісаньне кнігі XIX - першай паловы XX ст., то можаш замовіць кнігу бяз шыфру. Бібліёграфы самі зашыфруюць і дадуць табе адказ. Па кнігі XVI - XVIII ст., а таксама па рэдкія кнігі XIX - XX ст. і рукапісы зьвяртайся ў аддзел Рэдкай кнігі. Гэты аддзел асаблівы, са сваімі правіламі, патрабаваньнямі і раскладам працы.

## Што дзе ляжыць

Карысна ведаць, што шыфар, які пачынаецца з магічнае камбінацыі 1Ар, азначае, што кніга знаходзіцца ў Падсобным фондзе (у дужках будзе пазначана, якога аддзелу). Адсюль вынікае, што табе ня трэба замаўляць кнігу: можна проста пайсьці ў пазначаны аддзел і адразу яе атрымаць. Кнігі замаўляюцца па кампутары з шыльдаю "Заказ дакумэнтаў". Праграма заказу зусім простая ў карыстаньні, і табе не давядзецца браць з сабою сябра-хакера. У адзін дзень замовіць можна толькі пяць кніг. Часопісы замаўляюцца не па кампутары, а на адмысловых папяровых Блянках. Захоўваецца твой заказ дзесяць дзён. Калі табе стрэліць у галаву працягнуць тэрмін, то ты цалкам маеш на гэта права. Трэба толькі папярэдзіць бібліятэкара.

## "Гэй, грамадзяніна!.. Ты сюда хадзі!"

Раю завітаць у пакой № 32 з шыльдаю "Сэктар даведачна-бібліяграфічнага абслугоўваньня", што месьціцца на другім паверсе насупраць "Даведачна-інфармацыйнага". Тут знаходзіцца вялікая колькасьць разнастайных даведачных і бібліяграфічных выданьняў. Гэты аддзел зьяўляецца скарбніцай для студэнтаў правазнаўства, якія могуць карыстацца паўнатэкставымі базамі нарматыўных дакумэнтаў, нарматыўнымі выданьнямі, картатэкай нарматыўна-прававой інфармацыі і інш. На трэцім паверсе бібліятэкі - аддзел Мастацтва са сваім фондам, каталёгамі і картатэкамі. Гэта месца працы для студэнтаў Акадэміі музыкі, Акадэміі мастацтва, Унівэрсытэту культуры, студэнтаў факультэту культуралёгіі розных ВНУ. У трэцім корпусе на трэцім паверсе знаходзіцца аддзел Аўтарэфэратаў і Дысэртацыяў са сваімі каталёгамі.

## Калі "не дарос"

Калі ж ты вучысься на першым ці другім курсе (а такіх чамусьці "не бяруць у касманаўты") - можаш паспрабаваць узяць даведку ў дэканаце, што ты вылучаесься асаблівымі разумовымі і навуковымі здольнасьцямі і жыць ня можаш без Нацыяналкі, а пасьля прабіць сабе квіток праз "нацыянальнае" начальства. Не атрымалася - ідзі ў іншае месца: там таксама няблага кормяць. Зь нядаўняга часу Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (вул. Сурганава, 15) гасьцінна адчыніла дзьверы і для першакурсьнікаў - праўда, толькі дзяржаўных ВНУ (дыскрымінацыя!). Бібліятэка працуе да 20.00. Прэзыдэнцкая бібліятэка прымае студэнтаў з чацьвертага курсу і працуе да 18.00. Студэнтаў усіх курсаў прымаюць Цэнтральная гарадзкая бібліятэка імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16), Менская абласная бібліятэка імя А. Пушкіна (вул. Гікалы, 4), галіновыя бібліятэкі: Рэспубліканская навукова-тэхнічная (пр. Машэрава, 7), Рэспубліканская навукова-мэдычная (вул. Фабрыцыуса, 28), Беларуская сельскагаспадарчая (вул. Казінца, 88), Рэспубліканская навукова-пэдагагічная (вул. Захарава, 59) і іншыя бібліятэкі.



© Т.Конюх

# ШТО ДАПАМОЖА НАМ?

© РР

## Піва, dance & rock'n'roll ці веды, сэкс & вітаміны

У кожнага студэнта з набліжэньнем часу іспытаў паволі рытм жыцьця ў той ці іншай ступені церпіць зьмены. І хаця ў дробязях гэтыя зьмены могуць розьніцца, галоўная мэта аднолькавая. Гэтая мэта - з дапамогай дыетаў, хітрыкаў, забабонаў, практыкаваньняў ды, у пэўнай ступені, ведаў з найменшымі стратамі для цела й розуму перажыць навалу пад назвай СЭСІЯ.

Каб кожнаму з вас не марнаваць дарма часу на пошук гэтых патаемных сродкаў, прапаную невялічкі "курс маладога байца", тым больш што аблегчыць чалавеку пакуты - сьвяты абавязак кожнага лекара.

Сёньняшнія парады носяць не зусім звычайны характар. У пэўнай ступені яны ліквідуюць гістарычную несправядлівасьць у дачыненьні да досыць вялікай групы студэнтаў. Гэтыя дзіўныя, але ў пэўнай ступені гераічныя людзі не зьбіраюцца корпацца дзень і ноч у кніжках і канспэктах, недаядаць, недасыпаць і тым больш недапіваць. Ім - па барабану. Але з-за гэтага мы ня можам не працягнуць ім руку дапамогі.

Кожны вольны абіраць для сябе свой стыль жыцьця!

### І. Асаблівасьці пабудовы працы

Спадарства! Нават калі вы ўпэўненыя ў тым, што іспыты - гэта яшчэ не нагода ўсё кінуць і ламануцца да падручнікаў, расклад дня падчас сэсіі скарэктаваць усё ж такі варта. Давядзецца трошкі парупіцца. Асноўная праца павінна быць накіравана на збор агентурнай інфармацыі. Хто будзе прымаць? Якія ў яго схільнасьці і густы? Бо адзін марыць, што выпускае будучую эліту, прадстаўнік якой, дарэчы, ніколі не зваліцца на іспыт у джынсах і бяз гальштука. А для другога - сапраўдны навуковец не губляе час на такія дробязі, як уласны выгляд. Што зробіш... Давядзецца паспаць разок у гарнітуры. Памылкай было б зьвяртаць увагу толькі на настаўнікаў. Малодшы пэрсанал катэдры, на якой вы здаяце іспыт, ваш самы галоўны саюзьнік. Таму калі ўсё роўна асноўная падрыхтоўка праходзіць па клюбах ці дыскатэках, дык чаму б не запрасіць туды маладую прыгажуню, якая будзе друкаваць, а яшчэ лепей - раскладаць па століку вашыя экзаманацыйныя білеты. Галоўнае - памятайце: хаця б у ноч перад іспытам варта адпачыць.

У які час і як доўга працаваць?Дзеля аптымальнай пабудовы навучаньня трэба памятаць, што чалавечая памяць ня ўвесь дзень працуе аднолькава. Кароткачасовая памяць актывізуецца да абеду. Доўгатэрміновая памяць лепей працуе пасьля абеду, а разумовыя характарыстыкі лепей спрацоўваюць пад вечар. Таму калі вы хочаце лепшага засваеньня, плянуйце заняткі на другую палову дня. Паўтараць вывучанае лепей празь 2-4 гадзіны (не раней), але не пазьней як за 12. Добра таксама ў дзень перад іспытам прабегчыся вокам па самых цяжкіх месцах, тым самым "загрузіўшы" іх на гадзінку ў "апэратыўную памяць".Матэрыял даўжэй захоўваецца ў памяці, калі вывучаецца пасьлядоўнымі порцыямі на працягу пэўнага пэрыяду, а ня ўвесь адразу. Чытайце матэрыял невялікімі, але закончанымі па сэнсе кавалкамі. Абавязкова намагайцеся зразумець тое, што вучыце. Добра, калі вы можаце сваімі словамі пераказаць камусьці тое, што прачыталі. Памятайце: завучваньне таго, што вам незразумела, патрабуе ў 10 разоў большых разумовых высілкаў.Зьвядзіце да мінімуму ўзьдзеяньне новай інфармацыі на працэс прыгадваньня раней засвоенай. Не вучыце разам тэмы, падобныя паміж сабой. Цяжкі матэрыял лепей вучыць перад сном, а сон, дарэчы, павінен быць рэгулярны й дастатковы.Памятайце: вучыць трэба сытым і ў камфортных умовах. На забываньне вывучанага могуць уплываць больш моцныя раздражняльнікі - холад, голад, недасыпаньне. Забываецца найперш тое, што зьвязана з нэгатыўнымі эмоцыямі.

### ІІ. Асаблівасьці пабудовы адпачынку (сон, сэкс, сьмех)

Лепшы адпачынак - гэта зьмена дзейнасьці. Таму, каб сапраўды адпачыць перад іспытам, неабходна час ад часу акунацца ў цішыню бібліятэчнай чыталкі ці патусавацца сярод аднакурсьнікаў на якой-небудзь кансультацыі. Станоўчых момантаў - безьліч. Па-першае, можна проста фізычна адпачыць ад скокаў ды гулянак. Па-другое, даведацца час іспыту і яго "тэму". Па-трэцяе, такія-сякія веды патрапяць да вас у памяць у найбольш адпаведных абставінах. Бо, згодна з "фэномэнам настраёвай памяці", веды, якія мы засвойваем у той ці іншай сытуацыі (у гуморы ці радасьці, цьверозыя ці п'яныя), прыгадваюцца лягчэй, калі мы зноў знаходзімся ў гэткіх жа ўмовах. Пагадзіцеся, ня кожны выкладчык будзе сядзець з вамі ў абдымку і пацягваць піўко пад гукі "Ramstein" дзеля таго, каб вы прыгадалі нешта па тэме. Ну і апошняе. Вы ж не зубрылка якаянебудзь! Вы ж тут ня можаце вучыць, як усе астатнія. Вы тут так, адпачываеце!

Не шкадуйце часу на сон і адпачынак.Падчас падрыхтоўкі да іспытаў неабходна добра высыпацца. Асабліва ў ноч напярэдадні. Лепей нешта недавучыць, чым пасьля нічога не ўзгадаць.Чаргуйце вучэньне з адпачынкам. Абавязковая ўмова - расслабленьне цягліцаў (рэляксацыя). Выбар спосабаў - на ваш густ. Вельмі добра на аднаўленьне разумовай актыўнасьці ўплывае актыўнасьць фізычная. Лепей за ўсё практыкаваць спартовыя гульні, танцы, працэдуры, якія паляпшаюць адчуваньне (душ, праходка). Добра час ад часу пераключацца на справу, якая прыносіць вам задавальненне. А калі сюды дадаць вынікі досьледаў заходніх псыхолягаў (Emmons&others), што самыя шчасьлівыя студэнты - тыя, што задаволеныя адносінамі са сваімі каханымі, дык робіцца зразумелым, што меркаваньне пра "шкоднасьць" сэксу падчас сэсіі - памылковае і нават шкоднае. Уявіце, колькі псыхічнай энэргіі спажывае арганізм, каб заціснуць такое моцнае пачуцьцё, як каханьне! Хопіць на пару іспытаў.Штодзень патрэбная порцыя сьмеху. Можаце ўзгадаць колькі сьмешных эпізодаў, пажадана зьвязаных з прадметам, які вы вывучаеце. Напярэдадні іспыту, як ні дзіўна, варта паглядзець камэдыю ці наведаць вясёлую (без алькаголю) кампанію. Незалежна ад сваіх ведаў ды іншых акалічнасьцяў вы павінны быць упэўненыя ў сваім кантролі над сытуацыяй.

ТЭМА



### ІІІ. Асаблівасьці харчаваньня (пра шкоду дыетаў і карысьць чакаляду)

Харчаваньне падчас іспытаў мусіць быць трохі зьмененае. Рацыён павінен быць каларыйны і разнастайны. Прашу толькі не падыходзіць да гэтага пункту банальна. Я разумею, што 0,7 "Два буслы" па калёрыях пакрывае дзённую норму чалавека. Але ж алькаголь - гэта энэргетычны сурагат, а не субстрат: на жаль, гэтыя калёры ня могуць назапашвацца.Лепей ужо перайсьці на піва. Яно карыснае і на выгляд прыгожае. Акрамя таго, што яно дзейнічае як мяккі транквілізатар, яно ўтрымлівае багата вітамінаў групы В. Асабліва гэта тычыцца піва нефільтраванага.Наконт ежы. Павінна быць менавіта ежа, а не закуска. І памятайце: кілька "прянага пасола" - не зусім рыба, а бульба ўсё ж такі не садавіна.

Харчавацца падчас сэсіі трэба без абмежаваньняў. Адмыслова для дзяўчат нагадваю, што любыя дыеты падчас сэсіі забароненыя. Не хвалюйцеся за хвігуры. Разумовая дзейнасьць патрабуе энэргіі ня меней за фізычную. У горшым выпадку - пазьдзекуецеся зь сябе пасьля, на вакацыях. А падчас падрыхтоўкі чакаляд (які добра стымулюе нэрвовую сыстэму) - ваш лепшы сябра. Карысна спажываць садавіну й гародніну. Абавязкова ўжывайць морапрадукты - рыбу, марскую капусту й г.д. Добра мець у рацыёне прадукты, якія ўтрымліваюць вітамін А (жаўткі, малако, вяршкі, сьмятана, марскія рыбы - палтус, траска, акунь), вітамін В1 (соя, зярняты, гарох, рошчына) і вітамін С (цытрусавыя, гародніна, кроп, капуста). Падчас харчаваньня памятайце, што прадукты, якія ўтрымліваюць шмат вугляводаў (бульба, макароны, хлеб), спрыяюць расслабленьню і ўсоньваньню. А калі нам патрэбная ежа для актывізацыі мысьленьня, то прадукты зь нізкім утрыманьнем вугляводаў і высокім адсоткам пратэіну павысяць засяроджанасьць і ўзбадзёрыць. Нядрэнна падчас сэсіі ўжываць зялёную гарбату: па-першае, падвышае адаптацыю, па-другое, стымулюе дыўрэз (мочавыдзяленьне). І не засьнеш, і дзяўчынкі хвігуру падтрымаюць. Раю таксама суданскую ружу (каркадэ).

### IV. Стымулятары, адаптагены (пігулкі, зёлкі, практыкаваньні)

Ужываць пігулкі забаронена. Пагладзіце рэклямную сэрыю "Без наркотыкаў" - гэта ўсё праўда. Наконт сьмеху. Хачу запэўніць, сьмех бывае ня толькі пасьля пыху.Наступнае. Як бы гэта больш далікатна сказаць... Настойка "Жэньшэневая", "Граф Чапскі зь ядлоўцам" і "Лекерт з жэньшэнем" - гэта ўсё не зусім мэдычныя прэпараты. Лепей ужываць гэтыя зёлкі (жэньшэнь, аралія, элеўтэракок) у выглядзе мэдычных настоек і экстрактаў. Тым больш што некаторыя зь іх - на сьпірце! Бурштынавая кісьля таксама лепей у пігулках, "Бурштынам Беларусі" яе не заменіш.

Ніколі не пачынайце з модных пігулак (антыдэпрэсантаў, транквілізатараў). Фармацэўтычнымі сродкамі ўвогуле трэба карыстацца толькі па прызначэньні лекара. Для падтрыманьня арганізму ў баявым стане досыць і зёлкавых прэпаратаў.Да найбольш дзейсных расьлінных стымулятараў, якія могуць падтрымаць арганізм, можна аднесьці аралію манчжурскую (прадаецца ў кожнай зельні рублёў за 600-700). Эфэкт ад араліі пераўзыходзіць эфэкт жэньшэню ў шэсьць разоў! Пабочнага дзеяньня ня мае. Акрамя араліі, добры эфэкт даюць настойка жэньшэню ды экстракт элеўтэракоку. Ужываньне гэтых лекаў на працягу 2-4 тыдняў прыводзіць да меншай стамляльнасьці, падвышае разумовую працаздольнасьці, паляпшае апэтыт. Жэньшэнь узмацняе ўзьдзеяньне іншых стымулятараў - напрыклад, кафэіну - і мае рэзка акрэсьленую сэзоннасьць дзеяньня: восеньню і зімою дае найбольшы эфэкт. Побач зь пералічанымі, добры эфэкт даюць кітайскі лімоньнік, радыёла ружовая.Усе гэтыя зёлкі стымулююць нэрвовую сыстэму, але толькі праз 2-3 тыдні ўжываньня. З фармакалягічных прэпаратаў можна парэкамэндаваць тыя, якія ўтрымліваюць бурштынавую кісьлю - напрыклад, "Cogitum". Няблага стымулююць кава і добрая гарбата. Трэба ведаць, што добрая моцная гарбата бадзёрыць ня менш за каву. Ну, і не забывайцеся: адзін з самых моцных стымулятараў ды адаптагенаў - сэкс з каханым чалавекам, а пасьля цёплая ванна зь лявандай ці хвояй...

Зычу посьпехаў, чакаю водгукаў.

doc@bi p.by



© ВН

**Прадмет:** АСНОВЫ ІСПЫТАЛЁГІІ
**Тэма:** САМАКРЭАТУРА
**Лекцыя #1:** КРЭАТУРА ЗЬНЕШНЯГА ВЫГЛЯДУ
**Выкладчык:** Сяргей Сахараў

Нягледзячы на ўсе народныя закідоны - маўляў, толькі аліграфрэны пры зносінах з соцыюмам могуць спадзявацца адно на свой зьнешні выгляд, а разумнага чалавека выстаўляюць за дзьверы з улікам ягонага IQ, - вопытным шляхам было высьветлена зусім іншае. Па нашых назіраньнях, не аднаму студэнту / студэнтцы зь вялікімі блакітнымі вачыма, выразна сэксуальнымі абрысамі вуснаў і прапарцыйнай фігурай удалося даказаць экзамэнатару, што валоданьне прадметам гутаркі - гэта ня самая асноўная праблема ў іх пакуль што не агульным жыцьці... "O'k, а што рабіць мне, простаму студыёзусу з шарагова асэксуальнай зьнешнасьцю і да таго ж, як высьветлілася за дзень да іспыту, з "нуль-па-фазе" ведамі? Мне гамон?!" Э не, баценька! Калі сытуацыя перад іспытам у пляне падрыхтаванасьці патавая, ты маеш толькі адное выйсьце. **СТАНЬ КРЭАТЫЎНЫМ!**

Для асабліва адораных: крэатыўны, г.зн. модны, стылёвы, самадастатковы, прасунуты etc, etc, іншымі словамі, гэта - заўтрашні ты. І ў цябе няма часу задумвацца над тым, ці такі ты насамрэч, ці пра цябе гэта і інш. У цябе ёсьць толькі вечар і ноч, каб заўтра на іспыт прыйшоў ня ціхі студэнт з марай атрымаць дзяржадзнаку, а амбітны student з выразным намерам узяць патрэбны яму бал. Дык навошта губляць каштоўныя гадзіны над канспэктамі, на якія па іспыце ты забудзесься і больш не згадаеш, калі можна заняцца тым, што яшчэ тысячу разоў прынясе табе дывідэнды.




Іспытолягі небеспадстаўна сьцьвярджаюць, што працэс здачы іспыту - гэта вынік карпатлівай дзейнасьці студэнта, якому папярэднічае шмат стадыяў (гл. папярэднія артыкулы). Самая важная зь іх - выведка боем: пагадзіся, для перамогі варта ведаць сьветапогляд ворага, то бок выкладчыка. Тыпалягічна выкладчыкі клясыфікуюцца наступным чынам:

1. ***нармальны*** - досыць дэмакратычны ў сьветапоглядах, выдатна разумее, што яго прадмет для студэнтаў - як зайцу стоп-сыгнал, часам ён даяжджае, што яму кажуць студэнты (вось ён, пэдагагічны талент!!!), на іспытахваліць ці занадта тупых, ці занадта "даставучых";
2. ***ненармальны*** - вельмі кансэрватыўны, для яго выкладаньне ня сэнс жыцьця, а сродак выжываньня, адсюль спарадычныя прыступы псыхапатыі. Як ні дзіўна, апошнім часам такія сустракаюцца сярод маладых выкладчыкаў!!! На іспыце гатовы заваліць цябе і ўсіх астатніх па прычыне і без наяўнасьці такой;
3. ***ніякі*** - самы небясьпечны від, якому ўсё пофіг: і дысцыпліна, якую выкладае, і студэнты, якія ўяўляюцца для яго гэткімі інфузорыямі туфэлькамі, нявартымі ўвагі.

Паколькі гэтыя тыпы найбольш распаўсюджаныя, пры крэатарстве будзем арыентавацца менавіта на іх. Заўважым, што студэнты бываюць двух палоў, таму асобна спынімся на крэатуры **"м"** і **"ж"**.

## ПРЫЧОСКА

Памятай, што ўсе тры віды выкладчыкаў часцей за ўсё кіруюцца арыентырамі масавай культуры, таму твой валасяны экстрым будзе расцэнены імі як жуйка ва ўласнай "чосе".

**"Ж"**: арыентуйся на нешта спакойнае, ненагрувашчанае, вельмі зручнае і па-дзіцячы наіўнае (толькі без бантоў) з выкарыстаньнем зашпілек, невідзімак - гэта ацэняць 1-3 тыпы. Мэліроўка валасоў будзе спакойна ўспрынятая ўсімі тыпамі, а вось навамодныя каштанавыя кончыкі... Тут варта падумаць, ці не занадта. Цалкам выключаюцца: пахабная выфарбанавая бляндыністасьць, ідыёцкія чолкі казырком (alarm, мае вясковыя сябры!) і... лушпіньне.

Даўжыня валасоў: 1 тып - для яго паэкспэрымэнтуй з кароткай спартовай стрыжкай, можаш зрабіць укладку; 2 - што-небудзь вельмі клясычнае: хвост (да плячэй), каса (да пояса), але пастарайся бяз "гулі", 3 - для такіх галоўнае, каб перад імі сядзела не лахудра.

**"М"**: для male стварыць крэатыўную прычоску - адна з самых вялікіх праблемаў. Найбанальнейшае - кароткая бязь яўных выразных прыкметаў прычоска з элемэнтамі "бычарства". Цікавае - гэта чолка, укладзеная на лоб (як некалі ў Лагуценкі), чолка, укладзеная гэткай стоечкай - такія варыянты падабаюцца 1 тыпу ("глядзітка, і ў гэтай групе сустракаюцца штучкі"). Неактуальнае - валасы, зачасаныя набок ці назад, эфэкт "мокрых", "пыжыкі" і "вожыкі" - такія варыянты зацэняць толькі прадстаўнікі 2-га тыпу. Ні ў якім выпадку не рабі сабе нанач дрэды (ні-ні!!!). Варыянт творчай раскудлачанасьці пакаціць хіба "ніякаму" выкладчыку.

Паколькі грамадзтва ў нас збольшага гамафобнутае, то мэліроўка, якую параіла зрабіць твая дзяўчына, хутчэй за ўсё будзе ўспрынятая не зусім адэкватна. Дый з мужчынскай моды гэта выходзіць... Што да бакенбардаў, бародкі і вусоў (бывае і такое), дык тут думай сам: калі ты ствараеш вобраз цалкам дарослага чалавека - адрошчвай на твары ўсе валасы, што цягнуцца да сонца; калі ж твой вобраз з налётам інфантыльнасьці - галі!

## МАКІЯЖ

**"Ж"** - арыентуйся на мінімалізм. Магчыма, калі ў цябе для такога іспыту занадта квітнеючы выгляд, варта закцэнтаваць увагу асноўнага гледача на сіняках пад вачыма і запалых шчоках (тым больш, мода на нездаровы, а-ля дэкаданс, колер твару паціху адраджаецца - ты рызыкуеш стаць яе авангардам у сваёй групе). Калі іспыт ня самы тупы, падкрэсьлі свае вочы: апроч нянавісьці да праслуханага курсу лекцыяў, яны мусяць выпраменьваць жаночы розум - падкрэсьлі вейкі. Не забудзься на вусны, толькі не падмалёўвай іх занадта чырвоным колерам - лепш надай ім эфэкт вільгаці. Выкладчык 1-га тыпу аслупянее, а 2-га і 3-га падумаюць, што апроч адзнакі ты яшчэ ад іх нечага хочаш. Хаця гэты варыянт можа і справакаваць іх - так што падумай сама.

**"М"** - без камэнтараў. Адно што пастарайся, каб напярэдадні празь неабмежаваныя ўліваньні ці празь якую іншую трасцу на лобе ці (mein God!) на носе ня ўскочыў прышчык. Калі ж раптам лёс вырашыў пагуляць з табой так жорстка, не паддавайся на правакацыі: выціснуты прышчык - наўпроставы шлях да пераздачы! Прынамсі, для выкладчыка любога з прэзэнтаваных тыпаў, калі ў яго будзе кепскі настрой, твой фурункулападобны прышчык стане добрай чырвонай анучай.

## РУКІ

**"Ж" + "М"** - толькі манікюр!!!

Паважаны "М", калі ня дай Бог ты думаеш, што манікюр - марнаваньне часу, пакінь "Студэнцкую Думку" ў спакоі: яна не для такіх, як ты.

## АДЗЕНЬНЕ

**"Ж"** - падаецца, самае простае. Калі перад табой не маніяк, можаш апранаць усё, што падкрэсьлівае тваю хвігуру. Калі ж тая забаўляе ўсіх тваіх сябровак, лепей не апранай абцягвальнага. Самы ідэальны варыянт - гэта напаўдзелавы касьцюм з магчымымі вольнымі адступленьнямі: нейкая вадалазка, прыкольны швэдрык, хустачка і інш. Тут лягчэй казаць пра тое, чаго апранаць ня варта наагул.

Нічога ўльтрамоднага: паколькі выкладчыкі - адна з самых нізкааплочваных катэгорыяў нашага грамадзтва, тваё "фі" ў найлепшым выпадку выкліча ў яго неразуменьне, у прамежкавым выпадку - лёгкую непрыязь, у найгоршым выпадку - "двойку" ў залікоўцы. Між іншым, гэтая "двойка" лішні раз падкрэсьліць тваю нізкую ступень крэатыўнасьці. Як неаднойчы было адзначана, апрануцца з апошняй "ждановіцкай" калекцыі зможа любая дура, твая ж задача - прадэманстраваць у адзеньні, што ты сапраўдны sapiens. Бо ў ідэале твая вопратка падкрэсьлівае твой інтэлектуальны ровень.




Прасачы: у цябе не атрымліваецца падбіраць патрэбныя колеравыя гамы ў адзеньні - значыць ты недастаткова самарэфлексіўная, а гэта ўжо, выбачай, паказвае на здольнасьці псыхікі. Калі чалавек апранаецца модна, то, па вялікім рахунку, гэта заслуга СМІ, якія навязваюць стыль жыцьця, іншых інстытуцыяў рынкавага капіталізму, але ніяк ня густу чалавека. Homo застаецца такім жа безгустоўным. Калі ты насамрэч крэатыўная, то ўмееш рабіць так, каб любая рэч з калекцыі пяці-, дзесяцігадовай даўніны пасавала табе і ўсе гэта разумелі.

Што да тэмы - выбірай унівэрсальны стыль карпарацыяў (блуза, спадніца / штаны ад касьцюму), але з налётам студэнцкага вальнадумства (зьвяртайся да дэталяў).

Ні ў якім выпадку не апранай тое, у чым са спакойнай душой ходзіш дома ці на звычайныя лекцыі: незразумелай мадэлі джынсы, кандовыя кашулі і швэдры, закароткія спадніцы.

Абутак - адпаведны адзеньню.

**"М"** - і зноў-ткі карпарацыйныя стыль: касьцюм, сьветлая ці цёмная кашуля, гальштук пад тон. Наяўнасьць пінжака і камізэлькі неабавязковыя. Як і ў "ж", не вітаюцца джынсы і швэдры са спартовымі байкамі. У чым можа праявіцца крэатыўнасьць, калі ты апрануты ў касьцюм? У гальштуку! Ён ня мусіць быць пярэстым, але зь цікавым малюнкам; адна з прыкольных фішак - гальштук аднаго колеру з кашуляй (уяві, шэрая ці блакітная кашуля і адпаведны гальштук). Абавязкова зь вялікім вузлом - супэр! Паспрабуй... падцяжкі, але ня з нашых крамаў, а дабротныя імпартовыя.

Абутак - толькі туфлі, але не з пляскатым шырокім носам - ня будзь ідыётам, такое нармальныя людзі ня носяць. Што-небудзь вузканосае зь невялікім абцасам.

## ПАХ

**"Ж"** і **"М"** - нічога салодкага і па-летняму рэзкага. Ідэальнае - юнісэкс. З самага даступнага - мужчынскія і жаночыя "дэзікі" Fa. Запомніце, сустракаюць, а тым больш запамінаюць вас не па адзеньні, а па паху. Таму адшукайце што-небудзь эксклюзіўнае і сваё.

***Гэтыя парады прэтэндуюць толькі на тое, каб аказаць табе кароткатэрміновую дапамогу. Калі ты пакарыстаесься імі, дык убачыш, што ўсё ў тваіх не сьпісаных на лекцыях асадкай руках. І здаць іспыт – гэта не такая ўжо вялікая праблема. Запомні першае і асноўнае правіла самакрэатура – do it yourself.***

# Ці варта зайздросьціць завочніку?

**Алеська**

***Завочнае навучаньне ёсьць вельмі дзіўным параджэньнем савецкага часу. Нідзе ў сьвеце навучаньне працягласьцю 1,5–2 месяцы ў год ня лічыцца вышэйшай адукацыяй.***

*Усьведамляючы, што большасьць нашых чытачоў - студэнты дзённых аддзяленьняў, я наўмысна бяруся за гэтую тэму. Колькі разоў даводзілася назіраць, як студэнт-"дзённік", выскокваючы з аўдыторыі з чарговаю двойкай, лямантуе: "Усё! Пераводжуся на завочнае! Яны там нічога ня робяць!" Дык ці ўсюды добра, дзе нас няма?*

## Што гэта такое

Завочнае навучаньне ёсьць вельмі дзіўным параджэньнем савецкага часу. Нідзе ў сьвеце навучаньне працягласьцю 1,5-2 месяцы ў год ня лічыцца вышэйшай адукацыяй.

Завочныя сэсіі, як у той песеньцы, "бывают разные" - установачныя ды залікова-экзамэнацыйныя - і цягнуцца ад 10-ёх дзён да чатырох тыдняў. Пасьля паступленьня зазвычай мае месца ўстановачная сэсія: два тыдні напачатку навучальнага году (найчасьцей - пры канцы восені), калі начытваюцца ўводныя лекцыі, даюцца заданьні для самастойнай працы дома і, бывае, не адыходзячы ад касы здаюцца залікі. А пасьля на працягу некалькіх год ідуць залікова-экзамэнацыйныя сэсіі.

Спэцыфікай завочнае сэсіі ёсьць высокая канцэнтрацыя матэрыялу на адну бедную студэнцкую галаву. Уявеце: у панядзелак пачынаюцца лекцыі, а іспыт стаіць у раскладзе ўжо ў суботу таго ж тыдня. Тое, што для завочніка ёсьць рэчаіснасьцю, для студэнта-"дзённіка" выглядае як страшны сон.

Затое я цьвёрда ўпэўненая, што прымаўку "Ад сэсіі да сэсіі жывуць студэнты весела" прыдумалі менавіта пра завочнікаў. Мае яна і працяг: "А сэсія, агрэсія, усяго два разы ў год". Сапраўды, завочнікі звычайна маюць дзьве сэсіі: зімовую і летнюю (хоць па законе іх можа быць і чатыры). Прычым на чацьвертым-пятым курсах зімовая часта прыпадае на кастрычнік, а летняя - на сакавік ці красавік. Яно й зразумела - хутка дзяржіспыты, і патрэбны час, каб да іх падрыхтавацца.

## Кантрольныя

Завочнік мусіць самастойна працаваць над літаратурай, і да гэтага яго актыўна падштурхоўвае такая форма працы, як кантрольныя. Часьцей за ўсё кожны студэнт бярэ адно пытаньне са сьпісу і... сьпісвае яго, ня надта ўдумваючыся, з адной кніжкі. Гэта называецца самастойнай працай (гэты стогн у нас песьняй завецца). Безумоўна, студэнт не забывае падаць у сьпісе літаратуры 5 альбо 555 крыніцаў. Асабліва хітрыя з году ў год пішуць кантрольныя па адных і тых жа пытаньнях. Ведаю я адну такую асобу: навучаецца на псыхоляга і вось ужо тры гады піша кантрольныя паводле Фройда. Натуральна, пытаньні ўсіх псыхалягічных курсаў уключаюць бацьку псыхааналізу. Ну, можа, дзяўчынка хоць гэта вывучыць...

***Хочаш папрактыкавацца ў каліграфіі – паступай на завочнае!***

Ах, як жа ж мы любілі выкладніцу, якая ставіла аўтаматам пяцёрачкі за добрыя кантрольныя! Калі я пачынала вучыцца - тры з паловай гады таму - сканэры яшчэ толькі-толькі зьяўляліся. Таму сканаваньне матэрыялаў для тых, хто меў да іх доступ, не прадстаўляла асаблівай цяжкасьці. І гэта ў той час, калі астатнія ПЕРАПІСВАЛІ кніжкі. Высновы:

1. Хочаш папрактыкавацца ў каліграфіі - паступай на завочнае!
2. Купі сканэр і сьпі спакойна! (Тут магла быць вашая рэкляма).

## Кантынгент

У адрозьненьне ад дзённага навучаньня на завочнае прыходзіць народ, значна старэйшы за студэнтаў стацыянару. Гэта могуць быць і асобы пад 40 год. Яны ўжо a priori працуюць, некаторыя маюць пасады.

У нашай групе за адной партай сядзелі дзьве студэнткі: сяржант міліцыі і дырэктар музычнае школы. Натуральна, такія людзі могуць нават навучыць нечаму некаторых выкладнікаў (ня будзем паказваць пальцамі!). Гэткая стракатая публіка - ад постшкольнікаў да іхніх бацькоў - збольшага ладна кантактуе: старэйшы грузіць малодшага, як трэба (ці ня трэба) жыць.

***У нашай групе за адной партай сядзелі дзьве студэнткі: сяржант міліцыі і дырэктар музычнае школы.***

## Канспэкт

Згодна з раскладам завочнікі сустракаюцца раз на паўгоду. Затое сустракаюцца вельмі інтэнсіўна. Зазвычай сэсія ўключае заняткі - да пяці параў на дзень, іспыты і залікі (у другой палове дня) і практыку. Ну, як вам такі рэжымчык? Вытрымаць яго складана, калі наведваць усё. Некаторыя "адвінчваюць". Але большасьць ходзіць: ад таго, як ты наведваеш лекцыі, залежыць напаўняльнасьць канспэкту па ўсіх пытаньнях, а значыць, павялічваецца гарантыя пасьпяховае здачы.

Маюць завочнікі і свае хітрыкі ў пісаньні канспэктаў, якія ня грэх было б пераняць і вочнікам. Нармалёвы завочнік піша кожнае пытаньне на асобным аркушы. Навошта? Дык гэта ж гатовая "бомба"! Выкарыстоўваюцца найчасьцей сшыткі ў клетку, а не ў лінейку: калі пісаць дробным почыркам у кожны радок, то адказ на пытаньне мусіць улезьці на адзін аркуш. Завочнік заўсёды пазначае ў канспэкце нумар пытаньня, а таксама прадмет: можа здарыцца так, што праз паўгоду ён не згадае ня толькі найменьне прадмету, але й назву сваёй alma mater.

Здавалася б, трэба чытаць літаратурку, рыхтавацца да сэсіі... На першым курсе большасьць так і робіць. Але прынамсі нашу групу выкладнікі прывучылі да таго, што яны за 6-8 лекцыяў даюць асноўнае па ўсіх пытаньнях. Без пустых адцягненых філязофстваваньняў, тэзысна. Тое, што доктар прапісаў! Ёсьць, аднак, сярод выкладнікаў і непрызнаныя геніі, якія, насуперак няўмольнаму часу, нудна й падрабязна выкладаюць свае навуковыя сыстэмы. Адзін пэнсіянэр, не пасьпяваючы начытаць да канца курс лекцыяў, запрапанаваў пашукаць канспэкты ў студэнтаў вочнага аддзяленьня. Уявеце сабе памер нашых вачэй!

"Завочнік, будзь гатовы да рознага роду нечаканасьцяў!"
"Усягда гатовы!"

***"Завочнік, будзь гатовы да рознага роду нечаканасьцяў!"***
***"Усягда гатовы!"***

## Парады

Калі пасьля ўсіх гэтых страшылак нехта ўсё-ткі зьбіраецца пераводзіцца (паступаць) на завочнае - вось некалькі парадаў.

Вельмі пажаданай ёсьць праца па спэцыяльнасьці, паралельная навучаньню. Інакш гэтыя веды, якія актыўна ўбіваюцца ў галаву, да наступнага паўгодзьдзя папросту не дажываюць. Паміраюць сьмерцю храбрых.

Ёсьць спэцыяльнасьці, лягчэйшыя для "завочнага" засваеньня, ёсьць цяжэйшыя. Тыя, якія патрабуюць выпрацоўкі навыкаў (замежныя мовы, спорт, некаторыя віды мастацтва), падаюцца цяжэйшымі. Ну дзе ты за завочную сэсію, якая звальваецца раз на паўгоду, нармальна вывучыш якую-небудзь лацінку?

Ну, і пра набалелае. Завочнік (і вочнік таксама), калі качаеш курсавую зь інтэрнэту, ведай, што выкладнікі таксама ня імбрыкі. Памятаю выпадак, калі прыгожа раздрукаваную дыплёмную разьвярнулі на месцы. Тыл фронт!

## Рэальнасьць

Студэнт-завочнік мае права браць на месцы працы аплатны ці неаплатны адпачынак. Для гэтага яму выдаецца выклік з ВНУ, дзе пазначаны тэрмін здачы сэсіі. Напрыканцы сэсіі ў дэканаце завяраюць пацьверджаньне: студэнт, маўляў, сапраўды быў на сэсіі, а ня езьдзіў адпачываць на Канары альбо сядзеў увесь гэты час у інтэрнэце ці ў інтэрнаце са знаёмаю дзяўчынай.

Інтэрнатамі, дарэчы, студэнта-завочніка забясьпечваюць слаба. Едзе бядак зь іншага гораду з валізкаю кніжак на сэсію, а жыць няма дзе... Вось і ўся студэнцкая рамантыка.

Здараюцца й казусы. Ведаю выпадак, калі выкладнік ставіў залік свайму найлепшаму сябру. Першы на той момант ужо скончыў тую ВНУ, у якую паступіў на завочнае аддзяленьне другі. У прысутнасьці студэнтаў яны зьвярталіся адно да аднога на Вы...

***

З усяго сказанага робім выснову: калі вы хочаце мець па пяць параў і дзесяць залікаў штодня ў кожную сэсію, калі марыце палову сэсіі займацца пошукамі інтэрнату, а на занятках сядзець з кабетай перадпэнсійнага ўзросту - можаце сьмела зайздросьціць завочнікам!

А ўвогуле я б рэкамэндавала ісьці на завочнае тым, хто "правароніў" момант для паступленьня пасьля школы. Гэта лепей, чым нічога. Але самым выдатным варыянтам было б удасканаленьне ведаў пасьля вочнай спэцыяльнасьці па нейкай паралельнай ці блізкай, але ўжо завочнай. Толькі вось за другую адукацыю ў большасьці выпадкаў давядзецца аддаваць мілыя сэрцу амэрыканскія купюры...

***Адзін выкладчык юрыдычнага факультэту Гарадзенскага ўнівэру быў чалавекам гуманным, азартным, а галоўнае – справядлівым. Дзеля шчырай любові да навучэнцаў ён заўседы даваў шанец некаторым зь іх атрымаць "аўтамат". Каб было ўсё па-чэснаму, спадар юрыст дазваляў прымаць рашэньні Фартуне. Ён зьбіраў залікоўкі, сядаў перад дзьвярыма аўдыторыі і забаўляўся тым, што кідаў азначаныя дакумэнты ў шчыліну пад дзьвярыма. Уладальнікі тых заліковак, якія апыналіся па іншы бок дзьвярэй, без размоваў атрымлівалі "аўтаматы".***



***Аднойчы студэнты палітэху вырашылі здаць сэсію зь першага разу, а таму падрыхтаваліся належным чынам. Канспэкты да дзірак ніхто зачытваць не зьбіраўся. Прыдумалі больш дзейны спосаб... У графінчык, дзе павінна быць вада, прадпрымальныя студыёзусы налілі гарэлкі. Зразумела, піць экзамэнатару закарцела вельмі хутка, і ён наліў сабе поўную шклянку. Пасьля праглынаньня вадкасьці экзэкутар хуткімі рашучымі крокамі выйшаў за дзьверы. Народ абамлеў... А потым падумаў, што маралі рэктара – за якім, няма сумневу, накіраваўся "прэп" – зараз не да месца, і... выліў гарэлку (?!). Праз хвіліну вярнуўся выкладчык – як і чакалася, не адзін. Праўда, замест начальства ў дзьвярох паказалася асоба, усім вядомая як сябар экзамэнатара. Пара накіравалася да стала, ажыццявіла "разьліў" і... Гучныя словы, якія па цэнзурных меркаваньнях ня могуць быць надрукаваны, страсянулі паветра аўдыторыі. Сутнасьць была відавочная – разьюшаны экзамэнатар патрабаваў працягу банкету. Тэрмінова была сабраная дэлегацыя студэнтаў, якія, як ласі па кукурузе, ламануліся ў суседнюю краму. Іспыт прайшоў пасьпяхова.***

# Прагныя

*Яны сярод нас! Яны такія ж, як мы... яны не адрозьніваюцца нічым... акрамя аднаго: яны прагна бегаюць вачыма па аўдыторыях і калідорах роднага ўнівэру, шукаючы*, дзе б яшчэ зрабіць ГЭТА... Праўда, ёсьць яшчэ адна прыкмета: час ад часу яны заміраюць з загадкавай усьмешкай, паглядаючы на якое-небудзь непрыкметнае падваконьне, ці парту, ці...*

*Так-так! Правільна здагадаліся, гаворка пойдзе пра* ***сэкс***** *ва ўнівэры: хто, дзе, навошта. Хачу дадаць, што гэты артыкул - ня плод хворага трызьненьня, але вынік сэрыі глыбокіх інтэрвію.*

- Вы хочаце зрабіць гэта на трыбуне?!!
- Так, усё жыцьцё пра гэта марыў...

## Дзе...

У прадчуваньні расповедаў пра нешта, што ўзрушае фантазію, мы пачалі распытваць няшчасных - у асноўным няшчасных з БДУ, каб далёка ня поўзаць, - якія мелі неасьцярожнасьць пахваліцца, што, маўляў, было, чаго там хаваць, было... І тут нас чакала расчараваньне. Прагныя, як апынулася, звычайна прытрымліваюцца 2-3 клясычных варыянтаў, якія амаль не зьмяняюцца ў залежнасьці ад будынку: пустыя аўдыторыі, ціхія пыльныя месцы на самай верхняй пляцоўцы лесьвіцы і пад ніжнім пралётам, ва ўсялякіх кладоўках і іншых падсобных памяшканьнях, у распранальнях падчас уроку фізкультуры, за сцэнай у актавых залях, у прыбіральнях... Папярэдняе пакаленьне студыёзусаў БДУ згадвала таксама парк у двары галоўнага корпусу. Але цяпер, казалі мне, тут ужо ня тое, што было: абкультурылі ўсё, статуяў панаставілі, а яны ж пяляцца...

Зь незвычайных месцаў прыгадваліся падваконьні ў калідорах, гардэроб у галоўным корпусе. Знаёмы студэнт распавёў мне, як ім зь сяброўкай давялося начаваць на самым ніжнім паверсе галоўнага корпусу, сярод тэхнічнага кашмару (усялякіх трубаў, правадоў, бросьні, зомбіпадобных сантэхнікаў і г.д.): пакуль яны былі занятыя адзін адным, іх проста там зачынілі. Пара цалкам ужо звар'яцелых камікадзэ хвалілася, што зрабіла гэта ў АДМІНІСТРАТЫЎНЫМ корпусе (літаральна ў рэктара пад носам). Праўда, увечары і на верхнім паверсе. Але ж... Знайшліся таксама аматары пасваволіць у чытальнай залі й на задніх шэрагах у аўдыторыі падчас заняткаў. Ды толькі там далей за цяжкі пэтынг не заходзіла.

## Хто і чаму...

Калі адказ на пытаньне "хто" просты: студэнты, хто ж яшчэ, то прычынаў "чаму" было названа досыць шмат. Першая, найчасьцейшая: болей недзе. Студэнцкая праблема, якая ўвайшла нават у показкі. Прычына другая: рызыка ўзмацняе адчуваньні. Трэцяя: пачуцьцё кінутага выкліку надзвычай узбуджае. Чацьвертая: узбуджае таксама тое, што цябе могуць пабачыць... Амаль бачаць. Пятая (прагучала толькі аднойчы): мы гэта робім, каб абараніць ідэалы сэксуальнай рэвалюцыі! Шостая: настолькі ня верылася, што атрымаецца, што карцела паспрабаваць.

І тут, падаецца, можна вярнуцца да пытаньня "хто?". Глядзячы на адказы "чаму", хто-небудзь можа вырашыць, што гэта монстры разбэшчанасьці, экзгібіцыяністы, экстрэмалы, **сэксуальныя тэрарысты** і гэтак далей. Можа, і не без таго, але падчас апытаньня яны мне падаліся звычайнымі, прыемнымі ў размове, шчырымі людзьмі.



* Дарэчы, такая вось лінгвістычная фіча: "шукаць" па-чэску абазначае якраз тое самае, пра што гэты артыкул. Таму сапраўдныя беларусы, якія шукаюць сваіх сяброў у чэскіх барах, трапляюць часам у няёмкае становішча

** Гаворка ідзе пра найбольш натуральнае значэньне гэтага слова, а не пра тое, што час ад часу адбываецца ў дэканаце са студэнтамі, якія праштрафіліся

## Яны і мы...

Напрыканцы - пару словаў пра адносіны прагных з астатнімі людзьмі. Па-першае, у закаханых ёсьць два віды "натуральных ворагаў": курцы і вахтэркі (ці прыбіральшчыцы). Першыя, таксама знаходзячыся па-за законам, канкуруюць зь імі за патаемныя закуточкі ў вучэбных будынках. І калі аматары сэксу спрабуюць не зважаць на іх, то курцы любяць камэнтаваць і даваць парады. Вахтэркі ж робяць абход, перад тым як зачыніць корпус, і калі хочаш правесьці ноч ва ўнівэры, ад іх даводзіцца хавацца. Што тычыцца студэнтаў, то, крыху параспытваўшы іх (хаця сыстэматычнага апытаньня не было), мне ўдалося высьветліць асноўныя меркаваньні наконт "чужога" **сэксу**. Пытаньне гучала так: "Што Вы зробіце, калі напаткаеце ва ўнівэры пару, якая займаецца каханьнем?" Абсалютная большасьць адказала: "Прайду міма" ці "Зраблю выгляд, што не заўважаю". Прыкладна трацiна: "Паспрабую далучыцца" альбо "Буду стаяць і глядзець". Але, здаецца, апошні варыянт - гэта ўжо зусім іншая гісторыя...

А ў бліжэйшы час мы паспрабуем высьветліць, якія яшчэ варыянты, акрамя клясычнае пары "студэнт+студэнт", магчымыя ва "ўнівэрсытэцкім **сэксе**". Будзьце здаровыя ва ўсіх сэнсах гэтага слова!

Оркі



**Псыхі-мовазнаўцы**
*прыколы з жыцьця*

Гісторыя з усходняга факультэту Санкт-Пецярбурскага ўнівэрсытэту, з катэдры кітайскай філялёгіі. (Трэба заўважыць, што дадзены факультэт як магніт прыцягвае рознага роду псыхаў.) На шараговай лекцыі, вёў якую вядомы прафэсар, адчыняюцца дзьверы і ўваходзіць нейкі наведвальнік. Агледзеўшы аўдыторыю, падазрона ўглядаецца ў прафэсара, але пакуль ня кажа ні слова.

"Добры дзень", - ветліва кажа прафэсар (40 гадоў выкладчыцкага стажу - і не такое сустракалася). "Здрасьце, - адказвае наведвальнік. - Мне б каго-небудзь, хто па-кітайску размаўляе". "Дык мы тут усе..." - адказвае прафэсар.

Наведвальнік падбягае, зрывае яго зь месца і, даверліва абняўшы за плечы, адводзіць некуды ўбок.

"Разумееце, я тут нейкую мову прысьніў, - дзеліцца страшнай тайнай ён, косячыся на студэнтаў. - І я цяпер на ёй размаўляць умею. Толькі бяда ў тым, што я ня ведаю, што гэта за мова. Ці не маглі бы Вы мяне паслухаць і сказаць, ці гэта часам не кітайская?" Студэнты ціха зьяжджаюць пад стол, прафэсар мужна прапануе наведвальніку што-небудзь сказаць. Наведвальнік выдае набор гукаў, што нагадваюць хлюпы забітай ракавіны...

"Мушу Вас засмуціць, але гэта не кітайская", - кажа прафэсар. Студэнты валяюцца па падлозе - яны ўжо здагадаліся. "Але вельмі падобна да моваў цюркскай групы", - спакойна працягвае прафэсар. Студэнты нават іржачку спыняюць. "Вы схадзіце й паглядзіце", - раіць прафэсар, выпраўляючы наведвальніка за дзьверы, і вяртаецца, каб працягнуць лекцыю.

Але - ня лёс. Хвілінаў праз 15 дзьверы адчыняюцца ад добрага пінку, і ў кабінэт улятае загадчык катэдры цюркскай філялёгіі. "Які такі (набор словаў з кітайскай мовы) дасла ў гэтага (гл. вышэй) да мяне?!!!"
"Я, - спакойна адказвае прафэсар. - Вы яго паслухалі?"
"Так!!"
"І гэта апынулася не турэцкая мова?"
"НЕ!!!"
"Значыцца, Вы яго адправілі дадому?"
Загадчык катэдры азіраецца і пачынае хіхікаць. "Не. Я яго адправіў на арабскую філялёгію".

ТЭМА

# Рэквіем для блазна

## *Не памірай у ложку! Ёсьць тысяча спосабаў загінуць небанальна!*

*Людзкая дурасьць ня ведае межаў. Да нядаўніх часоў тыя, хто яе праяўляў, паміралі невядомымі героямі. Але ў 1993 годзе нейкі разумнік прыдумаў так званую Ўзнагароду Дарвіна, якую цяпер атрымліваюць тыя, хто загінуў самым небанальным спосабам. Цікава, праўда, ці лягчэй ім ад гэтага?*

### Сьмяротная сліна

25-гадовы жаўнер з Алябамы (ЗША) браў удзел у конкурсе па пляваньні на адлегласьць. Каб надаць сьліне хуткасьці, ён разьбегся і плюнуў. Але затармазіць не пасьпеў. Жаўнер пераляцеў праз парэнчы і зваліўся з гаўбца трэцяга паверху. Памёр у шпіталі.

### Парасон-душыцель

Адзін нямецкі цыркавы паглынальнік нажоў загінуў падчас выступу ў Боне. Замест мяча ён засунуў сабе ў горла парасон і выпадкова націснуў на кнопку аўтаматычнага раскрываньня...

### Кантрольны званок

47-гадовы Якаб з Паўночнай Караліны (ЗША) стаў ляўрэатам Узнагароды Дарвіна ў 1992 годзе. Сярод ночы яго пабудзіў тэлефон. Ён працягнуў руку, каб узяць слухаўку, але замест яе схапіў пісталет, які ляжаў побач з тэлефонам. Зброя стрэліла, калі заспаны Якаб прыклаў яе да вуха.

### Гангстэр-камікадзэ

Сцэны, як у фільмах жахаў, разгорталіся ў 1999 годзе ў Сан-Паўлу (Бразылія). Рабаўнікі ўцякалі на машыне ад паліцыі. З абодвух бакоў ляцелі кулі. Раптам адзін з бандытаў вырашыў пазбавіцца ад паліцэйскіх з дапамогай гранаты. Ён выцягнуў кольца, замахнуўся і кінуў яго ў паліцэйскіх замест гранаты. Відаць, нэрваваўся... Граната выбухнула ў аўтамабілі злодзеяў.

### Страціў кваліфікацыю

Былы пажарны Даніэль з Даліны Сэквоі (вайсковая акруга Гамільтан, што на поўнач ад Чатануга (ЗША)) загінуў у агні. Гэты выпадак быў вынікам зьбегу акалічнасьцяў. Некалі шэф выгнаў Даніэля з пажарнай службы. Але былыя калегі хацелі, каб ён вярнуўся, а для гэтага яму было неабходна выявіць ці пагасіць пажар. З гэтай мэтай Даніэль падпаліў дом, які меў намер праз хвіліну затушыць разам з сябрамі. На жаль, яму не пашчасьціла: полымя ад разьлітага бэнзыну адрэзала Даніэлю дарогу назад. Ён загінуў, але атрымаў Узнагароду Дарвіна за 1999 год.

### Пярун супраць амаральных паводзінаў

Адзін мужчына наведаў Windy Point, аглядны пункт над абрывам Mount Lemmon у ЗША. Турыстаў тамака аддзяляе ад бездані салідны жалезны бар'ер. Надвор'е было жахлівае. І тут наш герой адчуў, што яму трэба ў прыбіральню. Паблізу нікога не было, і ён вырашыў зрабіць малую справу з абрыву. За гэтай справай і застаў яго пярун, які ўдарыў проста ў бар'ер. Вадкасьць, як вядома, праводзіць электрычнасьць... Так што хадзеце лепей у прыбіральню!

### Музыка з таго сьвету

23-гадовы Габрыэль усё з таго ж Сан-Паўлу ў сьнежні 1997-га перапяжджаў на аўтамабілі праз стартавую аэрадромную паласу ў Саракаба. На ягоных вушах былі навушнікі плэера. Хлопец не пачуў гулу самалёта, які ў гэты час прызямляўся.

### Самапал

Старая стрэльба, што засталася маладому Грэгару з Джо (ЗША) ад продкаў, не хацела страляць. Што зрабіў Грэгар? Ён запалкай пасьвяціў унутры рулі, каб паглядзець, чаму ж стрэльба не страляе. У той момант раздаўся страшэнны гук. Нават старая стрэльба калі-нікалі страляе сама, асабліва тады, калі ад полымя запальваецца порах.

### Вечны вучань

24-гадовы коміваяжэр з Флярыды (ЗША) загінуў у аўтакатастрофе. Ягоны самаезд урэзаўся з хуткасьцю 120 км/г у слуп на паласе, што разьдзяляе аўтастраду № 95 на два кірункі. Паміж рулём і груднай клеткай загінулага ляжаў адкрыты падручнік: падчас катастрофы кіроўца быў заняты навукаю.

### Дракула

Адзін студэнт на сьвята Хэлоўіну пераапрануўся ў Дракулу. Пад кашулю ён засунуў дошку, каб пазьней папужаць сяброў, убіўшы сабе ў грудзі нож. На жаль, ён пераацаніў трываласьць дошкі. Калі наноўсьпечаны Дракула стукнуў малатком па ручцы нажа, лязо прабіла яму сэрца. Падняў сябрам настрой, што ні кажыце...



### "Газавік"

Адзін амэрыканец харчаваўся выключна гарохам і капустай, ужываньне якіх садзейнічае ўтварэньню ў арганізьме вялікай колькасьці газаў. Гэны непаваротлівы чалавек амаль ніколі не адчыняў вокны. Пакой, у якім ён спаў, нагадваў газавую камэру. Аднойчы ён памёр у сьне: атруціўся ўласнымі газамі, якія запоўнілі ўвесь пакой. У 1993 годзе ён быў уганараваны прэстыжнай Узнагародай Дарвіна.

### Прасьціна

20-гадовы Джозэф сядзеў у турме ў Стывэнс Пойнт (ЗША). Ён хацеў, каб яго прызналі вар'ятам і забралі ў шпіталь, адкуль лягчэй зьбегчы. Як прыкінуцца псыхам? Джозэф задумаў інсцэнаваць самагубства. Дамовіўся з сукамернікам, што, калі ён павесіцца на прасьціне і страціць прытомнасьць, той пакліча ахоўнікаў, якія Джозэфа й выратуюць. Плян не спрацаваў: Джозэф задужа моцна зацягнуў пятлю.

### Пральная драма

39-гадовы Нэд Нурт з Чарлётэсьвілю (ЗША) загінуў у 1998 годзе ў пральнай машыне. Машына гэтая была ягоным гонарам: яна мела насамрэч вялікія, нават па амэрыканскіх мерках, памеры. Нэд хацеў памыць як паболей рэчаў за раз. Наліваючы адбельвальнік, ён моцна ўдарыўся галавой аб паліцу, пасьлізнуўся і добранька загразнуў у пральнай машыне. Да таго ж ён наглытаўся адбельвальніку, і яго званітавала.

Пакуль Нэд круціўся з хуткасьцю 1000 абаротаў у хвіліну, у лазенку зайшоў ягоны сабака і зрабіў лужыну... у скрыньцы з содай, што ўпала з паліцы. Урына ў злучэньні з содай выбухнула. А бедны Нэд усё яшчэ ня мог выбрацца з машыны, якая ўжо дайшла да стадыі сушкі. Можа, ён і выйшаў бы цэлы, калі б ня стукнуўся моцна галавою. Гэта й стала прычынай ягонай сьмерці. А сабаку - нічога.

### Уедлівая рыбка

23-гадовы Міхаэль назіраў, як ягоны сябар чысьціць акварыюм. Гаспадар акварыюма заўважыў, што адна з рыбак вельмі агрэсіўная - яна зьядае меншых за сябе рыбаў. "А я зьем яе!" - адгукнуўся Міхаэль. Ён схапіў 15-сантымэтровую рыбіну і паспрабаваў яе праглынуць. Драпежніца ўелася Міхаэлю ў горла. Хлопец упаў на падлогу і пасінеў. Калі прыехала "хуткая дапамога", з вуснаў ахвяры тырчэў толькі рыбін хвост. Хлопец здабыў Узнагароду Дарвіна за 1998 год. "Мараль: не катуйце, дзеці, жывёлу!" - сказаў бы беларускі паэта Віктар Жыбуль.

### Праклятыя грошы

Малады хлапец з Солт Лэйк Сыты (ЗША) загінуў ад... дробных манэтаў. Ён хацеў "засьняць" дзяўчыну на дыскатэцы. А каб ягоны чэлес выглядаў пад джынсамі больш унушальна, маладзён прывязаў у азначанае месца торбачку дробных манэтаў. Вяроўка, якой ён прымацаваў гэны сымулятар, перакрыла доступ крыві да нагі, што парушыла кровазварот, і хлопец памёр ад сардэчнага прыступу.

### Шоў для дзяўчат

21-гадовы мэксыканец Віктор Алба, адпачываючы ў Ла Пазе (Балівія) і жадаючы ўразіць тамтэйшых дзяўчат, вырашыў згуляць у рускую рулетку. І вось у чарговы раз ён прыклаў сабе да галавы рэвольвэр 0.38 калібру і націснуў на курок. Цяжка сказаць, ці былі дзяўчаты ў захапленьні ад таго, што яны пабачылі пасьля стрэлу.

### Карданная хвароба

У 34-гадовага Джэймса зь Мічыгану (ЗША) зламаўся грузавік. Ён папрасіў сябра, каб той адбуксаваў ягонае аўто, а сам высунуўся з кабіны, каб зірнуць, што гэта так падазрона бразгае недзе ўнізе грузавіка. Як на тое, Джэймс меў вельмі даўгія апранахі. Рухомая частка грузавіка зацягнула адзеньне, якое зьвісла з кабіны, разам з Джэймсам. Сябар знайшоў таварыша літаральна "намотаным на кардан".

### Робін Гуд

47-гадовы Лары з Кентукі (ЗША) загінуў у 2000 годзе. Ягоны сябар Джозэф пасьля чаркі-другой вырашыў паспрачацца, што прастрэліць пустую пляшку на галаве Лары. На жаль, трапіў на некалькі сантымэтраў ніжэй.

### Рыбак-небарака

43-гадовы рыбак з Кіева загінуў у траўні 1999 году ад сьмяротнага паражэньня токам, калі лавіў рыбу ў Цэрэблі. Лавіў ён з дапамогаю электрычнага току. Калі ўбачыў, што бедныя рыбкі ўжо плывуць уверх жыватамі, вырашыў іх сабраць. Але забыўся дастаць з вады правады, што былі пад напругаю, і разьдзяліў лёс рыбаў.

*(Працяг у наступным нумары)*



*Малюнкі Н.Лазукі*



НАВУЧАНЬНЕ

Дар'я Сітнікава

# AU PAIR

## Што гэта?

Au Pair (па-нашанску чытаецца [о-пэр], а з французскай перакладаецца ня йнакш, як "на роўных") - моладзевая праграма перадпэнсійнага ўзросту: у Заходняй Эўропе гэнай традыцыі культурнага абмену кадрамі "стукнула" ўжо 50 гадоў! Як не супраціўляйцеся, а Беларусь - таксама Эўропа. Да яе толькі дрэнна ўсё "даходзіць". Тым ня менш Au Pair - на Беларусі!

Разам з усімі цывілізаванымі індывідамі айчынная моладзь пры дапамозе гэтай праграмы можа скампанаваць пошук новых сяброў і ўражаньняў з вывучэньнем заморскага modus vivendi і практыкай мовы. І зрабіць гэта БЕЗ астранамічных выдаткаў!

Але існуе некалькі ма-аленькіх "але"

## "Але" #1

Au Pair - праграма на аматара. Таму перад тым як, ламаючы шыю і іншыя часткі свайго арганізму, бегчы па "гл. ніжэй"-шых адрэсах, трэба ўцяміць, на каго давядзецца "раўняцца". Згодна з палажэньнямі праграмы ты ўвальесься ў ячэйку капіталістычнага грамадзтва ў якасьці сямейніка, таму цёплым прыёмам злоўжываць не давядзецца. Замест гэтага на тваю галаву (у адсоткавых суадносінах 50/50 ад мінімальных 30 гадзінаў працы на тыдзень) зваляцца:

а) дапамога па гаспадарцы (пад гэтым абстрактным паняткам разумеецца, што давядзецца атрымліваць задавальненьне ад прасаваньня вопраткі, прыгатаваньня ежы, выціраньня пылу й г.д.);

б) догляд дзяцей і хатніх жывёлаў.

Калі цуцык з коцікам задаволяцца тым, што іх пакормяць, то зь дзецьмі ўсё нашмат цяжэй. Іх трэба апранаць-распранаць, карміць-паіць, суправаджаць a-ля сэк'юрыці ў школку ці садок, класьці спаць і чытаць казачкі. А некалькі разоў на тыдзень - наглядаць за маленькімі монстрыкамі ўвечары, каб яны ня надта захапляліся ўласнай інтэрпрэтацыяй "Адзін дома - 1,2,3..." За такія "пакуты" - ужо па гуманных меркаваньнях - сям'я павінна забясьпечыць Au Pair, то бок цябе, асобным пакоем, дзе ў цішы і спакоі можна будзе правесьці заслужаны выходны, харчаваньнем, часам для АБАВЯЗКОВАГА наведваньня моўных курсаў, за якія звычайна плацяць самі Au Pair, і - ня хлебам жа адзіным!!! - кішэннымі грашыма, што й будзе зьяўляцца легальнай крыніцай твайго існаваньня за мяжой. Акрамя гэтага - праязны на мясцовы грамадзкі транспарт ці сямейнае аўто. Таму можна абцяжарыць сваю асобу шпацырам на курсы кіроўцаў. Тым больш што ў ЗША і Канаду без правоў міжнароднага ўзору цябе ніхто ня пусьціць.

## "Але" #2

Большасьць Au Pair-агенцыяў у якасьці кандыдатаў бачаць выключна дзеўчын, прычым бяз мужа і іншых шкодных звычак. Ці выкліканая "дыскрымінацыя" забабонамі замежнікаў, ці нашыя цэнтры ніяк ня могуць уявіць хлопца з бутэлечкай малочнай сумесьсі ў адной руцэ і з пампэрсам у другой - невядома, але факт застаецца фактам. Адзінкавыя выпадкі ўладкаваньня "вусатым нянем" здараліся толькі ў Цэнтры культурных абменаў. Ізноў хлопцы адпачываюць?!

## Што трэба?

Першая ўмова - веданьне на базавым ці досыць добрым узроўні мовы той краіны, куды жадаеш патрапіць.

Другая ўмова - наяўнасьць досьведу ў працы зь дзецьмі. Кандыдат на пасаду Au Pair павінен добра ўсьведамляць, ШТО гэта такое.

Зразумела, стандартны набор дакумэнтаў: анкеты, характарыстыкі, рэкамэндацыі, мэдычная даведка etc. Апроч гэтага - кампіляцыя фотаздымкаў на тэму "Я і мой сабака зь вялікім задавальненьнем прыбіраем пакой дзіцёнка маёй суседкі". Ну, ці нешта падобнае, каб давесьці, што ты фэн мыцьця посуду ці гатаваньня маннай кашы. Галоўнае, каб выглядала пераканаўча.

У пэрспэктыве - сюрпрыз. Падрыхтуйся, што твае патэнцыйныя "тата з мамай" і з навасьпечаным "брацікам/сястрычкай" пажадаюць паразмаўляць з табой па тэлефоне. І зробяць яны гэта, будзь упэўненая, зьнянацку.

Увогуле нашыя агенцыі шукаюць "сваякоў" ад месяца да шасьці, прычым у некаторых цэнтрах ахвотных шмат, таму працэс можа зацягнуцца. Працягласьць жа твайго візыту ў госьці вагаецца ў межах паўгоду-год. Ёсьць магчымасьць зьехаць на 3 месяцы (Аўстралія, Гішпанія), але ўлічы, што перавага аддаецца "доўгаграючым" кандыдатам.

Хто, куды, з чыёй дапамогай і за колькі?

Звычайна кошт праграмы, які ўказваецца ў рэклямках, пакрывае працу агенцыі і яе партнэраў па пошуку сям'і пэрсанальна для цябе. Прыплюсуй да гэтага яшчэ пэўную колькасьць тугрыкаў за візу і квіткі на самалёт (аўтобус, цягнік etc.) "туды-назад", зборы за перавод грошай - і атрымай рэальны price.

## Цэнтар культурных абменаў

(Менск, вул. Сурганава, 47, офіс 8; тэл./факс 231 16 93, тэл. 202 00 81, www.gcce.org) свае паслугі ацэньвае ў 150$+30$ (падатак на дабаўленую вартасьць!).

## Прапанаваныя краіны:

**Францыя** (узрост удзельнікаў 18-30 гадоў, мова - французская). Жабінымі лапкамі можна аб'ядацца мінімум 9, максымум 12 месяцаў за 450-500 франкаў штотыдня, пры большай занятасьці - 650 FF. Віза - 47$ для тых, каму да 25 гадкоў, і 94$ - каму ўжо пераваліла. Прыкладны кошт квіткоў - 110-170$.

**Данія** (узрост 18-28 гадоў, мова - базавая ангельская ці добрая нямецкая/французская) дасьць табе прытулак на 6-12 месяцаў і кішэнныя грошы ў памеры 550 дацкіх кронаў у тыдзень (228$ у месяц), пры плённай працы - 650-700 DKK (каля 370$ у месяц). Кошт візы - 45$.

**Нямеччына** (узрост 18-24, базавая нямецкая; NB!: гэта павінен быць твой першы візыт у Deutschland па праграме Au Pair) прыме цябе на паўгоду-год са "стаўкай" 400-600 DM у месяц. Кошт візы 50 DM, квіткі абыдуцца ў 105-180 DM.

**У ЗША** (18-25 гадоў; натуральна, добрая ангельская) праграма разьлічана - ні больш ні менш - на год. У 1000$-вы кошт уваходзяць усе кампанэнты: квіткі, віза, страхоўка й г.д. Абавязкова - наяўнасьць правоў міжнароднага ўзору на кіраваньне транспартным сродкам. Шчыльныя стасункі зь дзецьмі адгукнуцца ў тваёй кішэні сумай у 139$ за кожны тыдзень. Пры пасьпяховым заканчэньні праграмы эксbabysitter чакае 500-даляравая кампэнсацыя.

Maxim Rudenkov Au Pair Agentur (Менск, вул. Захарава, 31-413, тэл. 236 59 37, цэласодневая інфалінія 8-0296721329; будзь гатовая да таго, што на ўваходзе сядзіць пэдантычны дзядулька і запісвае ўсіх, хто заходзіць і выходзіць!). Агенцыя працуе выключна з 18-24-гадовымі дзеўчынамі. Тыя, хто мае пячатку ў пашпарце, і раней судзімыя могуць дарма не турбавацца. Схема вылічэньня кошту аналягічная: паслугі + віза + квіткі.

Такім чынам, пры пасярэдніцтве дадзенай агенцыі, што абыдзецца ў 100$, ты 10-12 месяцаў можаш няньчыць французскіх дзетак на базавай французскай мове. За такую карысную працу ты атрымаеш 500 FF за месяц. Кошт візы - 100$.

**Нямеччына** "пацягне" на 400 DM у месяц. Віза - 50 DM.

А за ўнёсак у выхаваньне генафонду галяндзкай нацыі можна атрымліваць штомесяц 226 эўра. Віза ў "млынна-тульпанавую" краіну каштуе 43$.

Да ўсіх коштаў дадай квіткі - каля 100$.

## Latvian International Exchange Center

(Менск, пр-т Машэрава, 17-817а, тэл./факс 226 79 24, e-mail: liec@infonet.by, www.iec.ru ). За некаторым выключэньнем, праграма каштуе 150$. Зразумела, віза й квіткі на тваім сумленьні.

**Аўстралія** (узрост 18-30, мова - ангельская). Грошы (і дакумэнты) "на бочку" - і 3-12 месяцаў жыцьця па суседзтве з кенгуру, каалай і качканосам табе забясьпечаныя! Кішэнныя грошы: 100 аўстралійскіх даляраў у месяц.

**Канада** (18-30 гадоў, ангельская) абыдзецца ў 350$, без квітка і страхоўкі. Грошыкі на кішэнныя выдаткі - 750 канадзкіх даляраў штомесяц. Працягласьць - год. Правы на кіраваньне аўто проста неабходныя.

У **Францыі** чакаюць на 6-12 месяцаў 18-26-гадовых асобаў, якія задаволяцца заробкам у 1800 FF за месяц.

Au Pair у **Нямеччыне** (18-24, нямецкая) пачынаецца ўлетку і доўжыцца 10-12 месяцаў. Пра дакумэнты варта паклапаціцца ўжо зараз. "Ганарар" - 390 DM.

**Італія** (18-30 гадоў) прапануе "фантастычныя" заробкі ў памеры 400 000... італійскіх ліраў за месяц. Мова - італійская або ангельская.

**Гішпанія** (18-30 гадоў) прапануе Au Pair 32 000 пэсэтаў. Тэрмін праграмы - 3-12 месяцаў.

**ЗША** ўзрадуюцца магчымасьці бачыць цябе цэлы год за 700 "зялёненькіх" (квіткі й страхоўка ўключаныя). Правы на кіраваньне транспартам - абавязковыя. Кішэнныя грошы - 556$ у месяц. Памятай па вяртаньні пра абяцаную 500-даляравую кампэнсацыю.

Дар'я Сітнікава

# AEGEE

Цябе калі-небудзь турбавалі правы чалавека ў Босьніі? А можа, ты палымяны аматар падэбашырыцьь на вэнэцыянскіх карнавалах? Ня сьпіш начамі і трансфармуесься ў найсьвядомейшага чалавека з барадатае показкі: уначы прабіраесься да лямпачкі і адкрываеш газэту, суправаджаючы дзеяньні словамі смутку й горычы: "Нешта мяне Гандурас турбуе!.."

Гандурас не Гандурас, а як наконт канфліктаў у Эўропе? А найглябальнейшая праблема "Euro & Europe" з нагоды ўвядзеньня на тэрыторыі Эўропы такой папяровай грашовай адзінкі, як эўра? А можа, табе ёсьць справа да сур'ёзных канфэрэнцыяў па праблеме піва (ну і гісторыі, культуры ды аховы навакольнага асяродзьдзя)? А перад вачыма стаіць навязьлівае пытаньне "Quo vadis, Europe?" (куды, маўляў, ідзем?). Карацей, на месцы ты таксама сядзець ня можаш - прага да вандровак прымае клінічныя формы? Ты, зразумела, валодаеш аратарскім майстэрствам на ўзроўні "Цыцэрона й блізка не стаяла". І, магу паспрачацца, бачыць Прагу, Лёндан, Парыж ці Люблін толькі на паштоўках і па тэлевізіі - ня з опэры тваіх жаданьняў і памкненьняў. А хочаш, каб разумныя і важныя дзядзькі з эўрапейскіх парлямэнтаў пачулі тваё меркаваньне?!

Калі так, лічы, што табе шанцуе ўжо з красавіка 1999 году. Толькі ты пра гэта пакуль нічога ня ведаў. Менавіта тады на Беларусі зьявілася прадстаўніцтва AEGEE (Association des Etats Generaux des Etudiants de l'Europe, ці проста - Форум Эўрапейскіх Студэнтаў). Што, ня чуў?

А між іншым, гэта адна з самых папулярных студэнцкіх арганізацыяў у Эўропе, якая прапагандуе прынцыпы адкрытага дэмакратычнага грамадзтва і аб'яднаньня моладзі розных краінаў. Уяві, AEGEE лічыць каля 17 000 студэнтаў па ўсёй Эўропе, а назоў арганізацыі зьвязаны з... Эгейскім морам - дэмакратыя там узьнікла, як кажуць гісторыкі, яшчэ 2000 год таму (пашанцавала ж людзям!). Да стварэньня гэтай арганізацыі "прыкладаліся" UNESCO, UN, OSCE і г.д.

AEGEE-еўцы заяўляюць: "Ты завеш гэта Эўропай, мы завем гэта домам". Хопіць "кватараваць"! Пад дэвізам "Беларусь - у Эўропу!" (усё астатняе пакінем на сваіх месцах) мы пачынаем уводзіць цябе ў курс справы - распавядзем пра праграмы AEGEE ў Беларусі, канфэрэнцыі, летнія ўнівэрсытэты, асабістыя вандроўкі, рэгіянальныя сустрэчы і г.д. Чакай наступнага нумару!

**Каардынаты AEGEE:**
**т. 273-16-23 (Зьміцер Карэнка)**
**e-mail:**
**aegee@tut.by,**
**dimadk@yahoo.com**
**сайт:**
**www.aegee.org**







НАВУЧАНЬНЕ

Дар'я Сітнікава

# Latvian International Exchange Center

*Зьбірай волю ў кулак, рэчы ў валізкі - і за мяжу! Хуценька! Табе гэта трэба! Ой, уяўляю, што зараз са мной зробіць рэдактар за гэткую бессаромную прапаганду звальваньня па той бок памежных слупоў. Асабліва пасьля абнародваньня 10 нагодаў (гл."CD", 2001, № 10), чаму табе гэта ня трэба. Але правакацыя мае апраўданьне: далёка і надоўга я нікога не пасылаю. Тым больш гаворка ж ідзе пра ўнёсак кожнага ў справу ўзаемапаразуменьня паміж народамі. Свае "тры рублі" ты можаш прэзэнтаваць у агульную скарбонку пры пасярэдніцкай працы Latvian International Exchange Center. Сёлета Цэнтар прэзэнтуе шэраг надзвычай цікавых праектаў.*

*Падрыхтуйся, бо з табой на сувязі...*

## ...БРАЗЫЛІЯ!

На англа-, нямецка- ці гішпанаразмоўную галаву тваёй выбітнай пэрсоны ў рэшце рэшт зваліласяя магчымасьць правесьці 4 месяцы ў Сан-Паўла, Рыа-дэ-Жанэйра (Ося Бэндэр адпачывае!), Бэля Гарызонта ці Сальвадоры. Зразумела, валяцца на пляжы не давядзецца - праца ў вучэбным цэнтры ўжо чакае. Місія, трэба сказаць, высакародная - language counselor, у абавязкі якіх уваходзіць назіраньне за студэнтамі, удзел у фэстах і вандроўках, а час ад часу прыйдзецца папыхцець, расьпінаючыся ў адказах на пытаньні тамтэйшых студэнтаў пра тваю родную краіну (маеш шанец сказаць усё, што думаеш!). За такога кшталту працу ў тваёй кішэні павінна будзе апынуцца 150-250$ у месяц. Хаўчык і дах над галавой прэзэнтуе сям'я, якая цябе прымае (ад цябе - выкананьне house duties, зразумела). Краіна з мноствам "дзікіх малпаў" абыдзецца ў 550$ плюс авіяквіток.

## ... КОСТА-РЫКА!

Дубаль #1 - Work & Travel. Субтропікі зацягнуць на 700 у.а. бязь ежы, апартамэнтаў, страхоўкі і квіткоў, кошт якіх знаходзіцца ў наўпроставай залежнасьці ад адлегласьці ад Беларусі. Геаграфічная даведка: Коста-Рыка - маленькая краіна ў Цэнтральнай Амэрыцы. Знайдзі на мапе сам! Праграма разьлічаная на 1-4 месяцы з дадатковым пятым адмыслова дзеля магчымасьці ўбачыць Ціхі акіян, бананавыя пальмы і вулканы. Заробак у 400$ і працоўнае месца гарантаваныя. Пажадана засвоіць на базавым узроўні гішпанскую мову, якую ёсьць рэальны шанец удасканаліць на курсах. За асобную плату (490$ за 2 тыдні), зразумела.

Дубаль #2 - Internship Program. Пяцікурсьнікі або таварышы, якія скончылі ВНУ ня болей чым год таму і не пасьпелі на ўсё забіцца, могуць прайсьці стажыроўку - папрацаваць у сфэры вандровак і турызму, рэклямы, мэнэджмэнту, эканомікі, праграмаваньня, маркетынгу etc. Мінімальны заробак - 400$. Ад кандыдатаў патрабуецца файнае веданьне гішпанскай мовы і $900-2400 за 3-18 месяцаў навучаньня адпаведна. Пра квіткі, страхоўку і занятак падчас сьняданкаў, абедаў і вячэраў давядзецца паклапаціцца самому.

## ... ПАЎДНЁВА-АФРЫКАНСКАЯ РЭСПУБЛІКА!

Тэрмінова патрабуюцца працоўныя рукі 19-35-гадовай моладзі-студэнтаў(?). Месца працы з геаграфічнага гледзішча - Кейп-Таўн, рэзыдэнцыя тамтэйшага парлямэнту, між іншым. Са зьмястоўнага - безьліч вакансіяў у любой сфэры гатэльна-турыстычнай індустрыі. Заробак - 12-25 рандаў (гэта яны грошы там так называюць) за гадзіну, што эквівалентна 2-4$. Кошт праграмы 450$ плюс "сфэрападобная" сума на авіяквіток. Працягласьць праграмы ад месяца да году.

## ... НОВАЯ ЗЭЛЯНДЫЯ!

А вось тут твайго зьяўленьня нецярпліва чакаюць... сьвіньні, каровы, авечкі і казлы. Бо праграма Trainee in New Zealand - сельскагаспадарчая. Ад ахвотных папрацаваць ад чвэрці да цэлага году патрабуецца: 18-30-гадовы ўзрост, год шчыраваньня на палетках, правы на кіраваньне тэхнікай (нашыя мэтады "ручной працы" там не ў пашане), 600$ і авіяквіток са страхоўкай. Заробак - 1200 новазэляндзкіх рублікаў у месяц (каля 650$).

## ... ЗША!

Ну нарэшце зьявіліся праграмы, што дазваляюць нашаму чалавеку ня посуд мыць і падлогу месьці "за бугром", а вучыцца!!! LIEC прэзэнтуе такую магчымасьць пад маркай Internship & Study Programs. Таму кішэнныя грошы - па дамоўленасьці, але больш рэальна ўладкавацца па праграме без прэтэнзіі на зарплату. Гэта рэальны шанец другі раз патрапіць у ЗША, калі няма магчымасьці скарыстацца праграмай Work & Travel.

Напрыклад, Summer Internship існуе двух кшталтаў: Self-arranged option (пошукамі месца internship-job, то бок не фізычнай працы, і ежы трэба займацца самастойна. Кошт - 1500$) і Placed option (працу табе знойдуць, а ў дадатак і забясьпечаць поўны пансіён на 1 месяц з 2-4 магчымых. Апроч гэтага можна ўладкавацца на некваліфікаваную працу, калі гэта ня будзе перашкаджаць асноўнаму занятку. Кошт - 2900-3150-3400$ за 2-3-4 месяцы адпаведна). Квіткі і страхоўка ўжо ўлічаныя. Праграма разьлічаная на асобаў 18-28 гадоў.

Ёсьць адмысловыя праграмы для "турыстаў". Каштуе гэта ў залежнасьці ад працягласьці штудыяваньня - ад 1600$ з квіткамі і страхоўкай. Праграма прэзэнтуе магчымасьць вучыцца і практыкавацца па спэцыяльнасьці.

Trainee ў ЗША, то бок сельгаспраграма, прэзэнтуе магчымасьць проста папрацаваць на фэрмах (зарплата - 600 у.а. штомесяц, кошт - 1300$+ страхоўка, наяўнасьць правоў і 2-гадовага стажу на гэтай ніве - абавязковыя). Ці скампанаваць навучаньне "па профілі" ва ўнівэры ў Мінэсоце (Minnesota) з працай на фэрме (заробак 5.35-7$ у гадзіну, кошт праграмы - 1900-2300 "зеленьню" за паў-, паўтара году).
Таксама Цэнтар дае магчымасьць паехаць па праграмах Work & Travel і Camp.

## ... ВЯЛІКАЯ БРЫТАНІЯ!

Асартымэнт наступны:
- Work Experience (300$ за праграму, спэцыялізацыя - гатэльны бізнэс і сельская гаспадарка, заробак - ад 3.50 да 4.10 фунтаў у гадзіну),
- Study & Work (у геаграфіі значыцца Лёндан; навучаньне: English увогуле або для гатэльнай справы + праца. Кошт праграмы - ад 1250 у.а. да 1700; заробак вагаецца ў межах 3.50-4.10 фунтаў за гадзіну),
-Career Development Program (бізнэс-інгліш у сфэрах турызму, рэстарацыйнага бізнэсу, мэнэджмэнту й г.д.; кошт - 2600-4100$ за 2,5-9 месяцаў).

## ... РЭШТА ЭЎРОПЫ!

Уяві: Нарвэгія, Фінляндыя, Галяндыя, Швайцарыя!!! І ўсё гэта - суцэльны agricultural! Калі ты дажыў да 18-ці і яшчэ не пасьпеў (але плянуеш!) да 30-ці, маеш досьвед у вырошчваньні садавіны і гародніны і 300-500$ - твая пэрсона якраз тое, што трэба.

**На сёньня ўсё.**



*Што б пра яе ні пісалі, ні казалі, ні пляткарылі, а варта прызнацца самім сабе: яна і яе творчасьць - гэта яскравы прыклад псыхічных дэвіяцыяў. Кіньце дурное: Bjork Guðmundsdottir ня ёсьць нейкай квінтэсэнцыяй прыхаванай экспрэсіі эўрапейскае культуры. Для ўсяго сьвету Bjork - добра раскручаная псыхаватая блюзьнерка, якая пяе на ідыёцкім English пра незразумелыя для сярэднестатыстычнага бюргера рэчы. Але гэта trade mark, купляючы які, вы заяўляеце іншым пра сваю "нефарматнасьць". Варта прызнацца ад пачатку: пачувацца фэнам спн. Гудмундздатыр вельмі прыемна. Цябе мала хто разумее, бо гістэрычныя воплі жанчыны сярэдніх гадоў з блазенскай зьнешнасьцю наўрад ці зацікавяць звычайнага грамадзяніна. Бо ён (грамадзянін) непрыхільны да любых праяваў паліфанічнасьці псыхікі, а менавіта такі дыягназ паставіў бы Bjork дзядуня Райх у сваёй кнізе пра характары.*

## ЦЯЖКОЕ ДЗЯЦІНСТВА

**Bjork** засьпявала, як нарадзілася, у 1965 годзе, яшчэ ў рэйк'явіцкай калысцы, якую вазілі па Ісьляндыі яе бацькі, простыя паўночныя гіпозы. Уявіце, што гэта былі за людзі - дзеці кветак, узрошчаныя на вымерзлай глебе. Як тут не звар'яцееш! Што паціху і адбывалася з **Bjork**. Зараньняя самаідэнтыфікацыя прывяла да таго, што ў дзіцячым садку дзяўчынка пачала дапамагаць выхавацелькам "строіць" аднагодак. Выхаваўчы пэрсанал і выхаванцы былі не ў захапленьні, але гэта мала цікавіла дзяўчынку. Яна ведала, чаго хацела ад жыцьця, і не мала цікавілі перашкоды на шляху. Задача-мінімум **Bjork** была элемэнтарнай: зрабіць так, каб усе зразумелі, што яна - сама незвычайнасьць. І гэта ў яе выдатна атрымлівалася.




Альбэру Камю прысьвячаецца

"Памятаю, неяк я паехала з бацькамі да іх сяброў-гіпі, і там мы завісьлі на добры тыдзень. Касякі, п'яныя ўгары і іншая лухта мне вельмі хутка абрыдлі, таму я вырашыла заняцца самааздараўленьнем і на некалькі дзён села на бананавую дыету. Але, шчыра кажучы, у дзяцінстве і юнацтве я была досыць слабахарактарная. Устаць і пайсьці ў школу было сапраўднай катаргай: вылазіць з ложку і пхнуцца да тупых аднагодкаў і настаўнікаў... Таму аднойчы я пайшла на досыць рызыкоўны для сямейнага бюджэту крок: каб гвалтоўна не парушаць сваю энэргетычную аўру, якая склалася падчас сну, я вымушаная была праразаць у прасьціне дзірку і паваліць у такім выглядзе ў школу. Было крута!"

## ВЫСЬПЯВАНЬНЕ

Нездаровае імкненьне да публічнага жыцьця не дае маленькай Bjork спакою. Разьмяняўшы першы дзясятак год, яна запісвае свой першы альбом дзіцячых песенек, руку да якіх прыклалі сумнавядомыя сябры-гіпі. Можна толькі ўявіць сабе, што гэта былі за кампазыцыі - яны яўна пасавалі б да саўндтрэку South Park - "гуманнай", "мілай", "па-дзіцячы наіўнай" анімацыі. Зрэшты, вынікаў дзіцячага пэрыяду творчасьці **Bjork** не давялося доўга чакаць: пасьпяхова разьвітаўшыся з касячна-элэсдэшным басаножжам, дзяўчына пайшла ў народ, то бок у панкі. І пакацілася па крывой сьцяжынцы да чаканага выніку - першых месцаў у сусьветных чартах.





Гісторыя замоўчвае, якую музыку рабіла Bjork на працягу сямідзясятых-васьмідзясятых у сваіх бандах Exodus, Tippi Tikarrass, K.U.K.L. Але чамусьці не ўзьнікае сумневаў, што гэта мусіла быць нешта іракезнае, з замком на доўгім ланцугу, які вісеў на газэлепадобнай шыі дзяўчыны, і абавязковымі стымулятарамі - ці то з вадкімі, ці то з пігулкава-парашковымі і інш. У выніку бурнага пошуку свайго эга да канца васьмідзясятых стомленая заўсёднай антысанітарыяй і антыгігіенай **Bjork** вырашае спыніцца на нечым (некім) пастаянным. Такім сталым партнэрам стала каманда Sugarcubes, па чутках, шалёна папулярная ў Ісьляндыі. Можна было б паёрнічаць з нагоды таго, што краіна з амаль менскім насельніцтвам і надвор'ем, якое дазваляе характарызаваць насельнікаў Ісьляндыі як "адмарожаных", ёсьць найлепшым палігонам для творчай рэалізацыі такіх артыстаў эстрады. Але ня будзем: у 1988 годзе Sugarcubes выдае альбом Birthday, на якім, пэўна, і скончыўся этап агульнаісьляндзкай супэрвядомасьці каманды. А разам зь ёй у сьвядомасьці **Bjork** пачаўся працэс глыбокай самарэфлексіі. У выніку яго на сьвет Божы зьявілася тая, якую гэты самы сьвет кліча цяпер неўтаймаванай.

## ПОСТ-ДЭБЮТантка



Першы сольны альбом **Bjork** Debut выйшаў у 1993 годзе. Адзін знаны музычны крытык, да меркаваньняў якога прынята ставіцца хоць і з павагай, але зь вялікай доляй скепсысу, сьцьвярджае, што сам быў сьведкам нараджэньня фэномэну Bjork.

Аказваецца, усё было банальна да непрыстойнасьці. Сядзіць ён (назавем спадара Містэрам Ха) неяк у адным з заходнеэўрапейскіх офісаў MTV, размаўляе "пра жызьню" з шэфам мас-мэдыяльнага монстру. Раптам у пакой уваходзіць абсалютна непрыкметная дзяўчына з шараговай зьнешнасьцю, якая ў лепшых традыцыях сеткавага маркетынгу пачынае казаць пра тое, які файны ёсьць у яе кліп - Human Behavoir. Шэф MTV, якому для рэйтынгавасьці трэба было мяняць музычны фармат каналу, гатовы быў узяць усё, што хоць нейкім краем упісвалася ў папулярную канцэпцыю паліткарэктнасьці і раскручаны фармат "нефарматнасьці".

Карацей, Bjork пашанцавала - са згаданым кліпам яна патрапіла ў абойму выканаўцаў indie. Копіяў Debut было прададзена ў трыццаць разоў больш за Birthday. Фактычна ў гіт-парады патрапіла толькі адна песьня спн.Гудмундздатыр, але што ня зробіць пятнаццаці-шаснаццацігадовы глядач MTV дзеля адпаведнасьці стандартам любімага каналу! У







выніку ўсе пачалі слухаць незразумелыя воплі, крыкі і стогны ісьляндкі, рабіць выгляд, што гэта крута і прасунута, а самі ўпотай ставілі ў прайгравальнікі дыскі якога-колькек Take That.

Журналюгі і крытыкі, якія першыя зразумелі, якога джына з бутлі выпусьцілі на белы сьвет, пачалі біць трывогу: "З такой праграмай **Bjork** можа выступаць мінімум тры гады!" (то бок: "Божухна, нам бы толькі тры гады пратрымацца - а там і сама заглохне!"). А нэрвовая пявічка не спынялася: у 1995 годзе яна перабіраецца з гістарычнай радзімы ў цэнтар музычнай індустрыі - Лёндан ("спасіба этаму дому - пайдзём к другому"), - каб граматныя мэнэджэры зрабілі з **Bjork** userfriendly "альтэрнатыўшчыну". Тады ж выходзіць альбом Post: "Я назвала альбом так, бо заўсёды ў думках адрасую свае песьні, як лісты, у Ісьляндыю, - са сьлязьмі на вачох і дуляй у кішэні распавядае сьпявачка. - Бо гэта быў такі цяжкі крок для мяне - зьехаць і пакінуць усіх маіх родных, усіх сяброў, усё, што я ведала". Але варта прызнаць: на сёньня Post ёсьць адным з самых пасьпяховых і самым зразумелым альбомам сьпявачкі. Астатнія - Telegram (1996), Homogenic (1997), Selmasong (2000) - хутчэй зьняцьцё ляўраў і часам беспасьпяховыя спробы зрабіць нешта арыгінальнае.

## ІХ НОРАВЫ

Пра неўраўнаважанасьць грамадзянкі Bjork Guðmundsdottir даўна ходзяць байкі. Вышэй мы паспрабавалі патлумачыць праблему з гледзішча разьвіцьця яе псыхікі ў глыбокім дзяцінстве і ня менш глыбокім юнацтве. Але што з таго бедным журналістам, якія не аднойчы рабіліся ахвярамі нападаў "ісьляндзкага анёла"?

Усё прагрэсіўнае тайляндзкае грамадзтва было абуранае паводзінамі **Bjork** па яе прыездзе ў сталіцу краіны ў 1996 годзе. Бесклапотная журналістка Джулія Каўфман сустракала найлепшую вакалістку 1995 году ў аэрапорце словамі: "Вітаем у Бангкоку!" І дзе шараговаму працаўніку мікрафону і камэры было падумаць, што праз некалькі хвілінаў яна стане ахвярай нападу сьпявачкі. Правільна, гэта ў нас сказалі б, што Bjork загавела, а таму і быкуе на журналюг. У іх усё наадварот: замест адбыцьця адміністратыўнага пакараньня Guðmundsdottir... папрасіла ў журналісткі прабачэньня. А тая і прыняла!!!

Такія факты не зьяўляюцца адзінкавымі ў біяграфіі сьпявачкі. Можа быць, гэта нават ня самы паказальны і "смажаны" прыклад. Усё музычнае грамадзтва сачыла на працягу некалькіх год, як **Bjork** адшывала то Triky, то Howie B - у выніку ўсё ледзь ня скончылася панажоўшчынай, а жанчынка разрывалася паміж разумным і прыгожым...

Усім усё стала зразумела, калі Bjork пачала здымацца ў Трыеравым Dancer In Dark. Здаецца, прыстойныя людзі сабраліся на здымкі, сама Катрын Дэнёў пагадзілася пайграць зь ісьляндкай. Ды дзе там! **Bjork** зрабіла здымачныя дні такімі насычанымі на рознага кшталту канфлікты, скандалы і бойкі, што францужанка ў рэшце рэшт паставіла рэжысэра перад выбарам: ці я, ці ня я.

Здымкі скончыліся, фільм Dancer In Dark адхапіў у Канах сваю "галінку", а Bjork паклялася, што больш у кіно здымацца ня будзе. Дай Бог...

## Vespertine

- апошні на сёньняшні дзень альбом **Bjork**, які выйшаў напачатку восені. Што ён зь сябе ўяўляе? Дзеля аб'ектыўнасьці дамо слова гераіні. "Такі настрой бывае ў дні, калі на дварэ сьнег, а ты сядзіш удома, у любімым фатэлі, з кубкам какавы, і ўсё для цябе магічнае. Ты ў эйфарыі, цэлымі днямі маўчыш, бо ня хочаш размаўляць". Сказаць, што змоўкнуць назаўжды хочацца толькі пад музыку з альбому Vespertine значыць схлусіць самому сабе. Мажліва, суіцыдальныя матывы ў ім не адсочваюцца так, як гэта было ў перадапошнім альбоме (адзін мой знаёмы, яўны мазахіст-шызоід, хоць адразу пра яго так і ня скажаш, глядзіць і слухае Dancer In Dark толькі ў псыхакрытычныя дні - дзеля большага загрузу). Але комплекс чужаніцы ў ім - навідавоку. Самыя першыя сынглы з альбому - Hidden Place і Cocoon - пададуцца экспэрымэнтальнымі толькі тым, хто раней не сутыкаўся з творчасьцю спадарыні. Музыка альбому нечаканая для **Bjork**? Можа быць, але толькі за кошт Matmos'у - амэрыканскага дуэту, які найбольш праславіўся саўндтрэкамі да парнухі і для пэйнтбольных электрычных аўтаматаў, за кошт Marius da Vries, які дапамог выцягнуць Мадонавы альбом Ray Of Light, ды Mark Stent і Guy Singsworth, якія завіхаліся над Music той жа Чэконэ. А ў астатнім... "Мая музыка знаходзіцца ў маёй галаве. Колькі яе там? Мажліва, хопіць на бліжэйшыя дзесяць год працы. Ці нават на дваццаць. Прынамсі, я толькі пачала".

І ўсё гэта яна называе поп-музыкай.



*Bjork Guðmundsdottir толькі што атрымала з рук міністра асьветы Францускай рэспублікі Нацыянальны Ордэн Заслугі. Аказваецца, спадар міністар упершыню пачуў сьпявачку падчас свайго візыту ў Ісьляндыю ў 1990 годзе, калі тая бамбіла гіты ад Sugarcubes. З таго часу стаў яе фэнам, чым і карыстаецца цяпер. Кажуць, пасьля ўручэньня ўзнагароды міністар папрасіў у Bjork аўтограф...*



# Плястыкавая рэвалюцыя

Сяргей Кароль

Запас наяўных даляраў у маім кашальку не перавышае дзясяткі. А то й зусім абыходжуся без наяўных. Затое пры мне заўсёды канвэрсіўная валюта XXI стагодзьдзя - кавалачак плясмасы з магнітнай паласой. Беларусам крэдытная карта знаёмая збольшага па фільмах. У ЗША яна сталася неабходнасьцю. Крэдытная карта робіць магчымым само існаваньне ў сучаснай Амэрыцы. Безь яе вы ня зможаце нават з валізкаю баксаў арэндаваць аўтамабіль, ня купіце па тэлефоне ці інтэрнэце квіткі ў тэатар, на самалёт ці на цягнік. Нават на дыскатэках афіцыянты часьцяком просяць крэдытную картку - як гарантыю таго, што кліент ня сыдзе, "забыўшыся" заплаціць за напоі.

Менавіта гарантыя аплаты і зрабіла крэдытку неад'емнай часткай сучаснае эканомікі. Папяровымі грашыма плаціць таксама зручна, але яны не гарантуюць, што ўзяты напракат самаезд будзе вернуты, а пакінуць у заклад $10.000 могуць хіба што новыя рускія. Ня хоча народ даваць заклад і афіцыянту - што калі ён з наяўнасьцю ў кішэні пойдзе "падыхаць паветрам"? Крэдытная ж карта гарантуе аплату любога рахунку, пад якім стаіць подпіс яе ўладальніка.

Ёсьць у крэдытнай карты і яшчэ адна функцыя - пазыкавае фінансаваньне. Яшчэ дваццаць год таму ў ЗША, як і на Беларусі сёньня, пры жаданьні набыць, скажам, тэлевізар трэба было адкладаць грошы або браць у банку крэдыт - доўгі, часта прыніжальны працэс. А сёньня - блісьніце магнітнай паласой, і любая крама з радасьцю адпусьціць вам запаветны "Панасонік". Няма ўсяе сумы? Не праблема! Крэдытка дае магчымасьць сплочваць пазыкі памесяцава. Менавіта так набыў ваш карэспандэнт, у той час яшчэ небагаты студэнт, свой першы кампутар.

Як жа працуе крэдытная карта? На кожнай крэдытцы ёсьць дзьве назвы - назва сеткі (прыкладам, Visa ці Mastercard) і назва канкрэтнага банку, што выдаў вам карту (напрыклад, Citibank). Сама сетка, Visa ці Mastercard, крэдытаў не дае - гэта ўсяго толькі асацыяцыя банкаў, што заключылі пагадненьне пра ўзаемапрызнаньне. Заяўку на крэдытку вы падаяце не ў асацыяцыю, а ў канкрэтны банк. Калі яе адобраць, банк вызначыць для вас крэдытны ліміт - максымальную суму набыткаў па карце за месяц. У залежнасьці ад даходу і крэдытнае гісторыі гэты ліміт можа складаць тысячы даляраў. Прадавец у краме ўводзіць карту ў мадэм. Праз сыстэму Visa ці Mastercard мадэм зьвязваецца з вашым банкам і правярае, ці хапае ліміту для дадзенай пакупкі. Калі так, то банк аплочвае ваш рахунак, і вы сыходзіце з таварам, нічога пакуль не заплаціўшы - банк да канца месяца выдаў вам безадсоткавы крэдыт. Вы, праўда, ставіце на чэку подпіс, абяцаючы тым самым разьлічыцца з банкам пазьней, калі атрымаеце справаздачу пра выдаткі. Па атрыманьні рахунку вы можаце выплаціць усю суму альбо частку. У першым выпадку вы цалкам разьлічыліся. У другім - на ваш засталы балянс банк накладае адсотак. Вы будзеце выплочваць яго памесяцава ў адвольных сумах (але ня меней за ўсталяваны банкам мінімум).

Усё гэта робіць банк залежным ад вашае крэдытаздольнасьці. Што калі вы ня выплаціце й мінімальны ўзнос? Пазьбегнуць такіх казусаў дапамагае сыстэма кругавое парукі, вядомая як крэдытная гісторыя. На кожнага спажыўца незалежныя крэдытныя агенцыі зьбіраюць інфармацыю пра крэдытныя карты, банкаўскія пазыкі, займы й г.д. у адмысловай тэчцы з назваю "Крэдытная гісторыя містэра Васі (Пеці, Сашы - ці як вас там?)". Існуе меркаваньне, што па той тэчцы можна прасачыць жыцьцё кожнага амэрыканца. Але гэта далёка ня так - крэдытная гісторыя зьмяшчае толькі неабходныя фінансавыя факты: заяўкі на крэдыт, ці былі яны задаволеныя, ці акуратна сплочвалася пазыка, ці няма запазычанасьці па бягучых рахунках за сьвятло ці газ... Штосьці большае будзе парушэньнем права на прыватнае жыцьцё. Гэтай інфармацыі дастаткова, каб ацаніць крэдытаздольнасьць спажыўца. У сваю чаргу вы ведаеце, што, варта вам толькі ня выплаціць месяцавы рахунак, банк перадасьць гэтую інфармацыю ў крэдытную гісторыю, і вашая рэпутацыя будзе сапсаваная, а вашае жыцьцё ў плястыкавай эканоміцы рэзка пагоршыцца.

Не абыходзіцца, вядома, і без памылак. Напрыклад, толькі што прыбылы крэдытаздольны замежнік часта ня можа атрымаць карту з прычыны адсутнасьці на яго ў ЗША крэдытнага дасье. Альбо чалавек з добрым прыбыткам, які ніколі ў жыцьці не пазычаў ні цэнта, мае меней шанцаў, чым апошні мот, у якога хапіла розуму выплаціць месяцавы мінімум. Парадоксы гэтыя, праўда, можна пераадолець. Заможны грамадзянін можа ўзяць пад заклад сымбалічны крэдыт і, хуценька яго сплаціўшы, распачаць крэдытную гісторыю. Для студэнтаў ёсьць ільготныя праграмы. Нягледзячы на адсутнасьць у іх крэдытнае гісторыі, банкі даюць ім невялікі крэдыт: яны ведаюць, што, скончыўшы ўнівэрсытэт, студэнты атрымаюць добрую працу. Атрымалі першую карту - і крэдытная гісторыя ў кішэні. Асабліва калі дзеля прыліку патрымалі на ёй невялікі балянсік, каб паказаць банку, што здольныя яго сплаціць.

Крэдытная карта - адно з тых, здавалася б, побытавых вынаходніцтваў, што зьмянілі структуру ўсяе эканомікі. Вольны крэдыт стымулюе эканамічнае жыцьцё. Чым хутчэй абарачаюцца ў эканоміцы грошы, тым большая хуткасьць росту прадукцыі. Лёгкасьць набыцьця тысячаў тавараў і паслуг, якую прынесьлі крэдытныя карты, павялічыла попыт на гэтыя тавары і, адпаведна, іх вытворчасьць. Ня выключана, што менавіта гэты вольны доступ да грошай і стаўся адным з рухавікоў нечуванага спажывецкага попыту - буму ў Амэрыцы 90-х.

Не абышлося й без праблемаў. Крэдыт выклікае ў спажыўцоў эўфарыю, вядомую эканамістам як "ілюзія грошай". Адна справа - з болем у сэрцы разьвітацца на "Дынама" зь зялёненькай соткай. Зусім іншая - прайсьціся па крамах з кавалачкам плястыку, не адлічваючы, як падаецца, ніводнага сапраўднага даляра. Рахунак прыйдзе толькі празь месяц - тады й паглядзім! Такога кшталту паводзіны прывялі шмат каго да банкруцтва. Неяк на магістралі Вашынгтон - Рычманд у мяне паламалася "Таёта". Дапамог кіроўца-дальнабойшчык - падвёз да майстэрні. Ён расказаў, што яны з жонкай вінныя сорак тысяч даляраў па шасьцёх крэдытных картах. Заробак кіроўцы - недзе сорак тысячаў на год. Пазыкі кіроўца аддаў, пяць год працуючы без выходных і адмаўляючы сабе нават у маленькіх радасьцях.

Апроч залішняга попыту, плястыкавая рэвалюцыя выклікала і лішак прапановы. На рынку крэдытных картаў панавала жорсткая канкурэнцыя. Па меры накапленьня ў грамадстве крэдытный гісторыі карты прапануе ўсё большая колькасьць банкаў. Не мінае й дня, каб я не атрымаў па пошце прапанову на чарговую карту з укладзенай заяўкай. Многія з гэтых заявак ужо загадзя ўхваленыя, засталося толькі іх запоўніць і адаслаць у банк. Каб прыцягнуць болей кліентаў, банкі зьнізілі патрабаваньні, пачаўшы выдаваць карты нават людзям з падмочанай крэдытнай рэпутацыяй. Пакуль эканоміка бурна расьце, небясьпека гэтых працэсаў незаўважная. Але варта ёй замарудзіцца, і спажыўцы пачнуць губляць працу і кінуць сплочваць пазыкі, а банкі вымушаныя будуць сьпісваць буйныя активы. Вынікае небясьпека фінансавага крызысу накшталт "Расеі-98".

Нарэшце, паспрыяў крэдытны бум і паманшэньню зьберажэньняў. Ці трэба ашчаджаць, калі ў кішэні дзесяць тысячаў крэдытнай лініі? У краінах, дзе крэдыт адсутнічае, людзі адкладаюць па 25% заробку. У 1996-м амэрыканцы адкладалі менш за 10 адсоткаў, а да 2000 году і зусім кінулі адкладаць. А вось запазычанасьць пагрозьліва вырасла: сярэдні амэрыканец мае на крэдытках $8.000 запазычанасьці.

Капіталістычнай эканоміцы ўласьцівыя пэрыяды ўздыму й заняпаду. У "добрыя часы" пануе эўфарыя, і народ пераплочвае, перавыдаткоўвае й перазаймае. Нейкі час гэта толькі далей стымулюе эканоміку. Але варта цыклю ўвайсьці ў адліўную фазу, і настрой мяняецца. Людзі пачынаюць ашчаджаць і баяцца браць пазыкі. Як, напрыклад, зараз у Амэрыцы, дзе назіраецца рэзкае запаволеньне эканамічнага росту. Пачаліся скарачэньні, згас спажывецкі бум. Цяжар пазыкаў прымушае выдаткоўваць яшчэ меней, і гэта толькі пагаршае і без таго слабую эканоміку.

Але моц вольнага рынку - у прыстасавальнасьці. Зьяўляюцца банкі-спэцыялісты па "благім" крэдыце. Расцэнкі ў іх высокія, але ж яны даюць пазыкі нават самым ненадзейным кліентам. Ад банкруцтва іх ратуе NGO - асацыяцыі дапамогі нямдольным сплаціць пазыкі. Гэтыя арганізацыі бяруць шэфства над "банкрутамі", дапамагаюць ім сплянаваць бюджэт і г.д.

Не мінае й дня, каб не пакінулі ў мяне на аўтаадказьніку паведамленьне прадстаўнікі такіх арганізацыяў. "Праблемы з пазыкамі? - пытаецца ветлівы голас. - Зьвяртайцеся да нас. Мы дапаможам вам сплянаваць выплату, аб'яднаць пазыкі ў адзін крэдыт і даб'емся для вас нізкага адсотку". На шчасьце, маю магчымасьць пакідаць гэтыя паведамленьні без адказу. Легендарная асьцярожнасьць беларуса ратуе ад неразумных пазыкаў нават у часы ўсеагульнага спажывецкага вар'яцтва.






# Я-МАЙКА

*Усебеларускі конкурс-фэстываль T-shirt-дызайну "Я-МАЙКА"

# конкурс

"PRO дизайн", "Студэнцкая думка", "Экспресс-новости", www.nsys.by...

**Эскізы дасылайце ў Беларускі саюз дызайнераў:**
220039 Мінск, вул. Брылеўская, 14, а/с 78 (з пазначэньнем "Я-МАЙКА")
тэл. (+ 375 17) 229 33 98, 222 77 81
e-mail: bdu@nsys.by

Дэвіз

## Я нарадзіўся тут?

**Заснавальнікі:** Беларускі саюз дызайнераў
**Арганізатары:** Беларускі саюз дызайнераў, выданьне "Pro дизайн", Беларуская музычная альтэрнатыва
**Удзельнікі:** Прафэсыяналы і ня толькі.

**Мэта конкурсу**: Майкі з разнастайнай "мясцовай" сымболікай можна набыць у любой краіне сьвету. За выняткам Беларусі. Але майка - гэта ня толькі добры сувэнір, але й вельмі знакавы элемэнт, які шырока выкарыстоўваецца ў рэкляме, модзе і складае індывідуальны ці карпаратыўны вобраз. Зь яе дапамогай можна вызначыць сваю прыналежнасьць да пэўнага грамадзкага кола, прыхільнасьць да нейкае ідэі ці проста ваш сёньняшні настрой. Майка - параўнальна малады жанр, які знаходзіцца на сумежжы графікі, моды і камунікатыўнага дызайну. Па эфэктыўнасьці ўзьдзеяньня ён набліжаны да плякату. Мэта конкурсу - пошук і прэзэнтацыя арыгінальных выяўленчых і фармальных сродкаў: кампазыцыяў, знакаў, сымбаляў, тэкстаў, якія б адлюстроўвалі асаблівасьці нацыянальнага беларускага мысьленьня, гісторыі, культуры, мастацтва. Мы прапанавалі перадаць багацьце беларускае культуры мовай графічнага вобразу і знаку. Гэтым мы спадзяемся зьвярнуць увагу на існуючыя ў беларускім грамадзтве прадметы і зьявы, нягледзячы на іх палітычныя, сацыяльныя, эстэтычныя адрозьненьні. Такім чынам, тэма конкурсу вольная, але... Мы раім прыгадаць вядомыя імёны, пачынаючы ад беларускіх асьветнікаў і да дзеячоў сучаснае культуры, палітыкі, грамадзтва, зьвярнуцца да гістарычных падзеяў, нацыянальных традыцыяў, помнікаў архітэктуры, мастацтва і дызайну, багацьця роднае мовы. Ня трэба абмінаць і дасягненьні нашых дзён, праблемы і "балючыя" пытаньні. Паколькі майка сёньня зьяўляецца дзейсным сродкам рэклямы, ня варта забывацца на беларускія брэнды, фірмовыя стылі. Удзел для камэрцыйных працаў платны - 20 у.а. Конкурс -фэстываль "Я-майка" павінны паўплываць на разьвіцьцё гэтага жанру ў беларускім дызайне. Мы спадзяемся вызначыць, які ўплыў на яго мае тэхналёгія, крой, а таксама асабістыя якасьці тых, хто носіць майкі. Усе майкі будуць дэманстравацца на жывых мадэлях.

**Матэрыялы:** У якасьці аб'екту для творчасьці мы прапануем стандартную майку (t-shirt), якая зьяўляецца найбольш папулярным элемэнтам сучаснага строю, але аддаем перавагу нестандартнаму падыходу да крою і матэрыялаў.

**Этапы конкурсу:** Удзельнікі да 1 красавіка 2002 году прадстаўляюць эскізы (пажадана ў электронным выглядзе: фарматы вектарнай (шрыфты ў крывых) і растравай графікі (dpi. 100) у натуральную велічыню, колер фіксаваны, колькасьць колераў - да чатырох, градыент не прымаецца). Фармат файлаў лепей узгадняць з Саюзам дызайнэраў. Абавязкова прадстаўляецца тлумачальная запіска, зьвесткі пра аўтараў. Прымаюцца працы ў матэрыяле, што спрашчае праходжаньне эскізнага туру. Пасьля адбору эскізаў лепшыя 100 працаў рэкамэндуюцца журы для далейшага ўдзелу ў конкурсе і друкуюцца на сродкі фундатараў. Да ўдзелу ў другім этапе конкурсу запрашаюцца пераможцы першага этапу, а таксама айчынныя й замежныя дызайнэры, якія маюць безумоўны аўтарытэт (пераможцы конкурсаў плякатаў, моды, рэклямы). У час правядзеньня фінальнага туру майкі прапануюцца да дэманстрацыі й продажу.

**Увага:** Эскізы не вяртаюцца. Арганізатары конкурсу пакідаюць за сабой права на выпуск кожнай аўтарскай майкі накладам 100 асобнікаў.

Патрабаваньні да працаў: Адлюстраваньне крэатыўнага бачаньня праблемы. Прафэсіяналізм у працы з выяўленчымі і шрыфтавымі элемэнтамі. Тэхналягічнасьць.

**Прызы:** Прысуджаюцца ў некалькіх катэгорыях. За перамогу ў катэгорыі - аўтарскі наклад маек (20 асобнікаў). Гран-пры - аўтарскі наклад маек (100 асобнікаў), а таксама грашовая прэмія. Прадугледжаны грашовыя і спэцыяльныя прызы.

**У прагеаме:** Дэманстрацыя працаў удзельнікаў і гасьцей конкурсу. Канцэрт беларускіх гуртоў. Шмат піва, яшчэ больш конкурсаў і гульняў. Агульная лазьня. Workshop клясыкаў жанру. Фэстываль пройдзе на адкрытай пляцоўцы за горадам.

**Deadline падачы працаў:** Эскізны тур - да 1 красавіка 2002 году.
Фінальны тур - да 1 траўня 2002 году.

**Інфармацыйная падтрымка:** "PRO дизайн", "Навінкі", "Студэнцкая Думка", "Экспресс-новости", www.nsys.by

**Эскізы дасылайце ў Беларускі саюз дызайнераў:** 220039, Менск, вул. Брылеўская, 14, а/с 78 (з пазначкай "Я-МАЙКА");
тэл. (+ 375 17) 229 33 98, 222 77 81
e-mail: bdu@nsys.by

Запрашаем далучыцца да фундатараў і арганізатараў конкурсу.

220039 Мінск, вул. Брылеўская, 14, а/с 78 (з пазначэньнем "Я-МАЙКА") тэл. (+ 375 17) 229 33 98, 222 77 81 e-mail: bdu@nsys.by

Я нарадзіўся тут

# ДЖЫНСЫ. ПОСТМАДЭРН. ДЭМАКРАТЫЯ.

Ігар Вуглік



Як магла на індывідуалісцкім, разьбітым на замкнёныя сацыяльныя групы Захадзе зьявіцца такая выклікальна-нівэлёўная рэч, як джынсы? Чаму выгляд гэтых нагавіцаў, прататып якіх з адчаю стварыў некалі ў Каліфорніі Леві Страўс, захапіў розумы мільёнаў людзей? Чаму нейкія падазрона зацёртыя штаны сталіся адным з сымбаляў мінулага стагодзьдзя зь ягонымі глябальнымі тэхналёгіямі, філязофскімі ды мастацкімі сыстэмамі? Паспрабуем паглядзець на фэномэн джынсаў у сьвятле гэтых і некаторых іншых сыстэмаў.

Але напачатку - экскурс у гісторыю.

Гонар стварэньня джынсаў належыць баварскаму шаўцу Леві Страўсу. Недзе ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя ён выправіўся на заробкі ў Новы Сьвет - у Каліфорнію. Адна з самых распаўсюджаных вэрсіяў паходжаньня джынсаў наступная. Аднойчы, калі запасы звычайнай тканіны скончыліся, Леві Страўс адважыўся пашыць некалькі параў нагавіцаў з генуэскага брызэнту, які шырака прымяняўся ў той час у вытворчасьці ветразяў. Шукальнікі золата штаны ўпадабалі. Генуя па-ангельску гучыць як "Джэнэс", адсюль і назва - "джынсы". Пазьней іх удасканаліў у 1853 годзе шукальнік кладаў Элкэлі Айк, які зьвярнуўся да каваля з просьбаю "прыбіць" кішэні клёпкамі, зробленымі зь цьвікоў. У 1873 годзе браты Страўс запатэнтавалі свае нагавіцы, і на сёньняшні дзень гэтая фірма ўжо вырабіла і прадала больш за паўмільярду адзінак сваёй прадукцыі, што ёсьць абсалютным рэкордам у вытворчасьці вопраткі аднаго пакрою. Да пачатку мінулага стагодзьдзя джынсы шырака распаўсюдзіліся ў асяродку каўбояў, стаўшыся адным з характэрных атрыбутаў людзей гэтай прафэсіі.




Сёньня джынсы на Захадзе актыўна носіць трэцяя кляса (асноўнае сацыяльнае апірышча гэтага грамадзтва), а таксама рэшткі клясычнага пралетарыяту - люмпэны. Джынсы, асаблівa рознакаляровыя, ці ня самы ўлюбёны від вопраткі ўнівэрсытэцкае моладзі; пацёртыя джынсы - гэта пэўнага кшталту візытоўка заходніх інтэлектуалаў. Гэты від адзеньня мае надсацыяльны і надпрафэсійны характар. Чаму?

60-я гады мінулага стагодзьдзя - пачатак трыюмфальнага маршу джынсаў - знакамітыя ня толькі гэтым: прыблізна адсюль вядзе адлік новы культурны стыль заходняга сьвету, які завецца постмадэрнам (постмадэрнізмам). Адна з асноўных асаблівасьцяў гэтага стылю ў тым, што ён здымае, нівэлюе бар'еры паміж "нізкім" і "высокім", элітарным і масавым і наагул прынцыпова выступае супраць межаў. "Перасякайце межы, засыпайце равы" - так зваўся праграмны артыкул аб новай літаратуры Лэсьлі Фідлера, і гэта сталася лёзунгам новай культуры. Як вопратка джынсы (побач зь іншымі відамі й стылямі адзеньня) ідэальна выражалі гэтую тэндэнцыю. І тут яны стаяць тыпалягічна побач зь іншымі фэномэнамі сучаснае культуры: літаратурнымі творамі "генія XX стагодзьдзя" Хорхе Луіса Борхеса, Умбэрта Эка, Італа Кальвіна, архітэктурай Джэймса Стырлінга, мастацкай творчасьцю Марыё Мэрца, Гары Стэфана, Альбэрта Йена, эклектычнай музыкай, музычнымі кліпамі, разьвіцьцём дэмакратыі, плюралізму ў грамадзкім жыцьці й г.д. Джынсы ня толькі зьбліжаюць - яны грэбліва адцяняюць чапурысты афіцыёз бездакорнага этыкету і манэраў "вышэйшага сьвету", дэкляруючы наўмысную неахайнасьць і дэмакратычнасьць.




Тое, што джынсы падкрэсьлена носіць інтэлектуальная эліта, сьведчыць пра сур'ёзныя зрухі ў грамадзказнакавых мадэлях: акцэнт робіцца не на вонкавую "чытэльнасьць" становішча і заслугаў чалавека, яго сацыяльна- і прафэсійнаклянавых знакаў - вопраткі, манэраў, а на нутранае, сутнаснае, зьнешне непрыкметнае. У эўрапейскай культуры такая наўмысная неахайнасьць - не навіна: неахайная элегантнасьць у вопратцы культывавалася ў францускай элітарнай мужчынскай модзе эпохі Вялікай францускай буржуазнай рэвалюцыі й Дырэкторыі. Рэвалюцыянізаваная Францыя нават захаплялася на кароткі пэрыяд наўмысьля "народным" касьцюмам: драўляныя атопкі - сабо (асабліва рэвалюцыйна настроеныя грамадзяне насілі грубыя атопкі а-ля Франклін), сялянская куртка а-ля Карманьёль і даўгія шырокія нагавіцы з грубага палатна -

матло, якія насілі маракі. Можна сказаць, што знакавая сыстэма джынсаў грунтуецца на лёзунгах сваіх прадзедаў матло: свабода, роўнасьць, братэрства. Пачатак джынсавай экспансіі - час шырокай дэмакратызацыі заходняга грамадзтва, іх радзіма - краіна, якая адна зь першых абвясьціла і ажыцьцявіла прынцыпы сучаснае дэмакратыі. Толькі цяпер джынсы пайшлі ўсур'ёз - "клёпка" дэмакратыі даволі трывалая. Джынсы нібыта кажуць: не глядзі, што я стаю на ганку шыкоўнае вілы (качаюся ў брудзе, сядаю ў новы лімузін, трымаю свой пісталет ля твайго лоба ці сам ляжу з прастрэленай галавой), мы аднолькавыя, мы прызнаем роўнасьць, мы - грамадзяне.

Доўгія нагавіцы "ў абцяжку" - не навіна ў гардэробе эўрапейскага мужчыны: дастаткова згадаць вузкія штаны XV - XVI ст., панталёны канца XVIII - канца XIX ст. Новым ёсьць тое, што ў джынсы актыўна апрануліся жанчыны. XX стагодзьдзе наагул праходзіла пад знакам экспансіі жанчынаў у вобласьць мужчынскіх атрыбутаў адзеньня: гэта стыль "гарсон" 20-х - пачатку 30-х гг., што ўвасобіўся ў знанай акторцы Грэце Гарба, распаўсюджаньне ў той самы час жаночых даўгіх нагавіцаў. Гэтая тэндэнцыя ідзе поруч з барацьбой жанчынаў за свае правы, фэміністкім рухам, які актыўна разгарнуўся ў пэрыяд постмадэрну. Гэтая культура акцэнтуе ўвагу меnавіта на "малых нарацыях" - сьветапоглядзе, патрэбах групаў грамадзтва, якія раней былі адсунутыя на грамадзкую ўскраіну. Стваральнік філязофіі постмадэрну Жан Франсуа Лiётар у якасьці прыкладу такіх групаў прыводзіў жанчын, гомасэксуалістаў, дзяцей, інтэлектуалаў, гастарбайтэраў і інш. Джынсы злучылі дзьве актуальныя тэндэнцыі - імкненьне да сьціраньня межаў (між поламі) і жаночы экспансіянізм.

Джынсы, як вопратка-мэдыятар, спалучаючы мужчынскае і жаночае - полавыя адрозьненьні ў гэтай адзежы досыць невыразныя. Таму джынсы найбольш яскрава сярод іншае вопраткі, якая ўвогуле зьяўляецца адным з самых моцных індыкатараў зьмен у грамадзкім жыцьці, рэпрэзэнтуюць тэндэнцыю да андрагінасьці, зьмяшаньня мужчынскага і жаночага ў розных аспэктах сучаснага існаваньня - ад працы да сацыяльнага лідэрства і трансвэстызму. Андрагіны, паводле Плятона, першыя людзі, якія спалучалі мужчынскую і жаночую часткі, былі потым разьядналыя і таму імкнуліся сысьціся зноў. У культуралягічным сэнсе андрагінасьць - увасабленьне антрапалягічнага хаосу, дакасьмічнага (дакультурнага) зьліцьця, неразьяднанасьці, якая ў сусьветнай міталёгіі атаясамліваецца з часам да ўтварэньня сьвету, космасу, парадку, падзелу навакольля на вызначаныя бінарныя часткі, апазыцыі, дзе значнае месца належыць дыхатаміі "мужчынскае-жаночае". Гэта стан высокага ўзроўню энтрапіі, аднароднасьці, а значыць, канца, адсутнасьці космасу. Даўно заўважана, што мода хутка і выразна рэфэрэнтуе сусьветныя катаклізмы - войны, рэвалюцыі. Можа, і джынсы зь іх яўна андрагінным характарам папярэджваюць нас пра небясьпеку надыходу новага хаосу, канца цяперашняй фазы космакультурнага існаваньня.



Адрозная рыса джынсаў у параўнаньні зь іншай вопраткай - у прывабнасьці іхнага старэньня: чым больш выцертыя (а можа, і прадзёртыя), тым лепей глядзяцца. Гардэробных аналягаў тут няма. Калярыстычная гама пацёртых джынсаў, безумоўна, багацейшая і больш прывабная; але ж пацёртасьць, а ў некаторых выпадках і дзіркі - нярэдка абавязковы атрыбут новае вопраткі, яны прысутнічаюць як такія, безадносна да тэрміну ноські. Паспрабуем у сувязі з гэтым закрануць пытаньні даволі глыбокія - нашае падсьвядомасьці, прычым падсьвядомасьці калектыўнай, у "памяці" якой тысячагодзьдзямі адкладаліся характэрныя агульныя матывы й вобразы - архетыпы. Некаторыя зь іх маюць унівэрсальнае значэньне для чалавецтва і ўзыходзяць да чалавечае пра-памяці, пачатку нашае гісторыі. Найбуйнейшы прадстаўнік сучаснага псыхааналізу Карл Юнг прыйшоў да высновы, што такія паняткі, як церці і рваць, злучаныя міжсобку і адносяцца да эратычнага плясту нашае падсьвядомасьці, зьвязанага з глыбіннымі, найстаражытнейшымі стадыямі праяўленьня эратызму. Гэтым, магчыма, тлумачыцца і сувязь пачатку шырокага распаўсюду джынсаў сярод моладзі з сэксуальнай рэвалюцыяй 60-х гг. на Захадзе. Адсюль, відаць, і тое зайздроснае пастаянства, зь якім моладзь ірве свае джынсы.

Увогуле ў псыхааналізе скрэсьці, церці, калупаць (у тым ліку і ў носе) - значыць рэалізоўваць сваю лібідыёзную энэргію, робячы дзеяньні, якія ўзыходзяць да першабытнага спосабу дабываньня агню праз церце драўлянай палкі аб аснову. Тыя прадметы ўвасаблялі мужчынскі і жаночы пачаткі. Сьцёртасьць джынсаў - гэта публічная маніфэстацыя эратычнага пачатку, своеасаблівая вопратачная сублімацыя, якая, легітымізаваная праз моду, прызнаецца грамадзтвам і, значыцца, пазбаўляецца неабходнасьці сарамлівага ўтойваньня. Хутчэй за ўсё гэта ажыцьцяўляецца на ўзроўні падсьвядомага. Што будзе, калі сувязь сьцёртасьці і эратычнасьці будзе асэнсаваная - сказаць складана. Магчыма, грамадзтва падзеліцца на прыхільнікаў сьцёртых і нясьцёртых джынсаў (што, фактычна, мы сям-там назіраем і цяпер).

Яшчэ адзін традыцыйны атрыбут адзеньня, які абрынулі джынсы, - адпрасаванасьць, паняцьце пра тое, што вопратку трэба прасаваць. Джынсы прынцыпова ня маюць у гэтым патрэбы. Апроч чыста ўтылітарных прычынаў такога стаўленьня напрошваюцца больш шырокія паралелі. Апазыцыя прасаваны-непрасаваны месьціцца ў шэрагу аналягічных проціпастаўленьняў: зразумелы-складаны, аднaзначны-шматзначны і г.д. Другія паняткі дадзеных апазыцыяў адпавядаюць асноватворным прынцыпам культуры постмадэрну, і тут джынсы зьяўляюцца выразьнікамі культурнай рэчаіснасьці.





Непрасаванасьць у культуралёгіі постмадэрну стасуецца з фундамэнтальным паняткам гіпэртэксту - нелінейнай, разнакіраванай, перарывістай сучаснай культурнай рэчаіснасьці. Прасаваныя пад стрэлку штаны ўвасабляюць жорсткую зададзенасьць лінейнага мадэрністычнага тэксту. Непрадказальная сьцёртасьць джынсаў і адвольныя камбінацыі складак адпавядаюць прынцыпу свабоднай, парадаксальнай, выпадковай моўна-знакавай постмадэрністычнай гульні.

Галоўная перавага джынсаў - іхная зручнасьць, функцыянальнасьць. Джынсы адпавядаюць патрабаваньням новых умоваў сучаснага жыцьця, і перадусім - рэзка ўзросламу дынамізму: неабходнасьці шмат перамяшчацца, быць у розных па характары месцах; дынамізму, дзе ўсё больш сьціраюцца здавён традыцыйныя перагародкі паміж працай, наведваньнем гасьцей, бару, рэстарацыі, якія вымагаюць адмысловае адзежы. У джынсах зручна сядзець на сталe шэфа, чытаць, лежачы на траве і закінуўшы ногі на лаўку, гадзінамі ехаць на машыне, уцякаць, а таксама перасьледаваць гангстэраў і г.д. Як вопратка, зручная для золатаздабытчыкаў і каўбояў, на сваёй радзіме яна сынтэзавала дзьве істотныя рысы амэрыканскага характару: прагматызм і працалюбства. Разам з тым для Амэрыкі - гэта чыста каляніцкае адзеньне: у ім няма нічога ад мясцовых традыцыяў, прыёмаў, хоць карэннае індзейскае насельніцтва мела багаты досьвед адаптацыі да прыродных умоваў. Магчыма, гэта тлумачыцца такой архетыповай рысай амэрыканцаў, як бесьсьвядомы сум па сваёй старой радзіме, пачуцьцё сваёй "чужасьці" новай зямлі й людзям, якія яе насяляюць, пра што пісаў вядомы раманіст Д.Г. Лёўрэнс. Улюбёны герой амэрыканскай маскультуры - белы каўбой, хаця насамрэч белых сярод каўбояў было хіба што крыху болей за палову.

Падкрэсьлены дэмакратызм джынсаў тоіць пагрозу заходняму індывідуалізму. Як рэакцыя на гэта, на Захадзе пэўны час панавала мода на індывідуальны пашыў джынсаў.

Што будзе з гэтым відам адзеньня далей? Хутчэй за ўсё джынсы будуць агульнаўжыванай вопраткай да таго часу, пакуль будуць жывыя прынцыпы постмадэрну і грамадзтва будзе адзінае ў дэмакратычных памкненьнях.

Ствараецца ўражаньне, што клясычныя масавыя джынсы ўсё болей адыходзяць, разам з эпохай постмадэрну. Назіраецца падзел на дарагія элітарныя і масавыя джынсы; у жанчын яны аздабляюцца разнастайнымі дэкаратыўнымі ўпрыгожаньнямі. Мяняецца культурная сытуацыя, і ў новай эпосе джынсы наўрад ці будуць мець культавую сымболіку, за выключэньнем тых рэгіёнаў, дзе ідэі дэмакратыі і постмадэрну яшчэ не замацаваліся.

**Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў**

**1989–2001**

**Назоў:** Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў.
**Дата заснаваньня:** 1989 год. Афіцыйная рэгістрацыя - 27 траўня 1992 году.
**Статус:** адзіная студэнцкая арганізацыя ў Беларусі, паўнавартасны сябра ESIB (Нацыянальныя Эўрапейскія Студэнцкія Зьвязы).
**Дата ліквідацыі:** 3 сьнежня 2001 году.
**Падстава:** рашэньне Вярхоўнага суду Рэспублікі Беларусь (судзьдзя М.Бабкоў).
**Афіцыйныя прычыны:** парушэньні ў афармленьні блянку, дакумэнтацыі. Юрысты ЗБС лічаць названыя прычыны беспадстаўнымі.
**Іншыя прычыны:** палітычная дзейнасьць арганізацыі ў часе прэзыдэнцкіх выбараў, выступы супраць практыкі разьмеркаваньня студэнтаў, барацьба з парушэньнямі правоў студэнтаў.
**Рэакцыя:** у падтрымку ЗБС выступілі Міжнародная ліга правоў чалавека, усе сябры ESIB, якія будуць супрацоўнічаць з ЗБС незалежна ад рашэньня суду. Падтрымку ЗБС аказвае і КНГ АБСЭ на Беларусі.

**Вольга Цяцёркіна**

# Чаго мы ня ведаем пра Сэрбію?

*На паўднёвы захад ад Беларусі ёсьць краіна з насельніцтвам каля васьмі мільёнаў, якую называюць хто Сэрбіяй, хто Югаславіяй. Знаходзіцца яна на Балканах, акурат на перакрыжаваньні шляхоў: з Бліжняга Ўсходу на эўрапейскі захад і са Скандынавіі да Міжземнамор'я. З гісторыі вядома, што недалёка ад гэтага месца распачалася эўрапейская цывілізацыя... "Ну, гэта мы праходзілі яшчэ ў школе!" - скажаце вы. Да нядаўняга часу і я думала, што ведаю пра Сэрбію ўсё. Аж пакуль у размовах з разумнымі людзьмі ня высьветліла, што гэтая краіна для нас застаецца "знаёмаю незнаёмкай".*

## Здаровым - кава, хворым - гарбата!

Сэрбія - гэта найперш разнастайнасьць клімату: ёсьць і горы, і раўніны, і мора. Але найбольш краіна ўражвае разнастайнасьцю традыцыяў: там у сканцэнтраваным выглядзе сабраныя культуры поўдню, усходу й захаду.

Асабліва моцна на гэтую зямлю паўплывала турэцкая культура, бо каля 500 год частка народу была пад турэцкім ігам. Гэта адчуваецца нават у сучасным жыцьці, у традыцыях, у вельмі разнастайнай сэрбскай кухні. Напрыклад, сэрбы вараць "моцную турэцкую каву". Яна сапраўды вельмі моцная: мы, напэўна, і ня здолелі б такую піць. А яны сыстэматычна й мэтадычна яе ўжываюць. Цікава, што нават самі туркі такую каву ня п'юць: яны нагул часьцей ужываюць гарбату. Сэрбы ж п'юць гарбату, толькі калі захварэюць.

## Гарачыя сэрбскія хлопцы

Шмат каго цікавіць, чаму менавіта з гэтай тэрыторыі вельмі часта пачыналіся войны ды розныя "заварушкі". Ёсьць нешта такое ў сэрбскім мэнталітэце - патрыятызм, моцнае пачуцьцё ўласнае годнасьці. Так было падчас другой усясьветнай вайны, калі Сэрбія была каралеўствам. Намесьнік караля сэрбскага даў дазвол фашысцкім уладам на правод войска па тэрыторыі Сэрбіі на ўсход. На той момант з Харватыяй, Баўгарыяй былі заключаныя пакты. І вось адна маленькая Сэрбія пачынае вайну. У той час па ўзоры старога выслоўя bolje grob nego rob (лепш труна, чым нявола) узьнікае новае: bolje rat nego pakt (лепш вайна, чым пакт).

## Апошнія шкарпэткі

Тыя з "нашых", хто быў у Сэрбіі, сьцьвярджаюць, што сэрбы вельмі розьняцца ад беларусаў. Яны больш эмацыйныя, больш "гарачыя", тэмпэрамэнтныя, ярчэй выражаюць свае пачуцьці. Мы - гэткія "рэчы ў сабе", мы раскрываемся паціху, і калі ўжо прымаем чалавека, то вельмі прывязваемся да яго. У іх - па-іншаму. Адразу, зь першага знаёмства, цябе прымаюць, дэманструюць адкрытасьць, уступаюць у кантакт. Неабавязкова гэтыя стасункі сканчваюцца моцным сяброўствам, але любы нармалёвы сэрб лічыць, што лепей быць у кампаніі, чым самотна сядзець ля тэлевізара.

Для сэрбаў госьць, як на Ўсходзе, - гэта сьвятое. Калі цябе клічуць у госьці, то клічуць ня толькі паразмаўляць, а на абед, вячэру. Цябе абавязкова пачастуюць. Для госьця, як кажуць, здымуць апошнія шкарпэткі. Сэрбскія жанчыны, як правіла, вельмі добрыя гаспадыні і ня выпусьцяць госьця, покуль не накормяць.

## Марэлі пад лёдавам

Для турыстаў з розным густам там знойдзецца свая страва. Такой разнастайнай кухні ў нас, на жаль, няма. Усё смачнейшае і таньнейшае за беларускія аналягі. Асабліва добра ў сэрбаў атрымліваюцца мясныя стравы. Марская кухня таксама вельмі разнастайная - сказваецца блізкасьць мора. А пры напаміне пра стравы з гародніны ды выпечку ў колішніх наведнікаў Сэрбіі пачынаецца рэфлектарнае выдзяленьне сьліны.

Вось толькі адзін прыклад буйной фантазіі сэрбскіх кухараў - страва "Vocni kup". Салодкая салата з садавіны - пэрсікі, марэлі, кавун, дыня - гэта першы слой. Другі - лёдава, а трэці - бітая сьмятанка. Падаецца ў вялікай колькасьці, есца доўга, і не стамляесься, бо вельмі смачна. Талеркі для ўсіх страваў там, прынамсі, удвая большыя за нашыя.

## Слава сьвятога... Славы?

Традыцыйная культура сэрбаў таксама мае свае адметнасьці. Напрыклад, у кожнай сям'і існуе такі звычай - сьвяткаваць "славу" (ад сэрбскага slaviti - сьвяткаваць). У нас кожны чалавек мае свайго сьвятога, свайго абаронцу, анёла. Таму мы сьвяткуем імяніны. У Сэрбіі больш прынята адзначаць дзень сьвятога, які стаў ахоўнікам усёй сям'і - напрыклад, "Слава сьвятога Міколы", "Слава сьвятога Стэфана" і інш. Імя сьвятога перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне па мужчынскай лініі.




## Мілошавіч

Да Мілошавіча сэрбы ставяцца па-рознаму. Ён застаецца лідэрам сацыялістычнай партыі, якую падтрымліваюць у асноўным людзі сталага ўзросту. Пасля таго як яго аддалі пад міжнародны трыбунал, сацыялісты моцна эксплюатуюць ягоны імідж пакутніка. Людзі больш маладыя, якія прагнуць пераменаў, не зьяўляюцца ягонымі прыхільнікамі. За дзесяць год кіраваньня Мілошавіча ўзровень жыцьця сэрбаў істотна зьнізіўся. Раней краіна была больш адкрытая, і югаславы са сваімі пашпартамі вандравалі па ўсёй Эўропе. Для іх было звычайнаю справай паехаць на шопінг ці ўікэнд у Італію, Грэцыю...

## Вучыцца, вучыцца, і яшчэ раз...

Што датычыцца моладзі, сэрбскія праблемы падобныя да нашых: шмат таленавітых маладзёнаў зьяжджае. Нават зараз, пасьля таго як у краіне адбыліся радыкальныя зьмены. Моладзь імкнецца да адукацыі, і гэта адчувальна па тым, што ў Сэрбіі вельмі цяжка паступіць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Пасьля васьмі год школы наступныя чатыры ў гімназіі вядзецца непасрэдная падрыхтоўка да паступленьня ў ВНУ. Напрыканцы навучаньня ў гімназіі вучні здаюць іспыты, а таксама пішуць і абараняюць дыплёмную працу. Пры паступленьні ў ВНУ абітурыенты здаюць тэсты - каля 20 пытаньняў у кожным. Вучыцца складана, бо патрабаваньні вышэйшыя за нашыя. Цяжэй здаць іспыты, хаця ў сэрбскіх ВНУ больш рухомы графік сэсіі - можна пераносіць іспыты, напрыклад, зь лета на восень.

## Моладзь адпачывае

У Сэрбіі значна меншыя, чым у нас, кошты ў дыскатэках, кавярнях ды рэстарацыях Таму моладзь увечары дапазна тусуецца на вуліцах, сядзіць у кавярнях, на адкрытых пляцоўках. Гарады жывуць 24 гадзіны на содні. Людзі могуць наагул ня класьціся спаць. Улетку, калі вельмі сьпякотна, маладзёны толькі ўвечары, а 10-й, выходзяць на вуліцу.

## Беларускі варыянт ці пісьмовая шызафрэнія?

Людзі зазвычай зьдзіўляюцца, калі чуюць, што ў адной мове суіснуюць на роўных правох і лацінская, і кірылічная абэцэда. Пагадзіцеся, гэта вельмі нагадвае беларускі варыянт XIX - п.XX стагодзьдзяў. Калі прайсьціся па Бялградзе, можна пабачыць, што палова надпісаў на сэрбскай мове напісаная лацінкаю, палова - кірыліцай. Жыцьцё прывучыла сэрбаў падладкоўвацца пад розныя ўмовы, і насельніцтва аднолькава валодае гэтымі рознымі сыстэмамі напісаньня. А яшчэ ў сэрбскай мове вельмі шмат туркізмаў, што абумоўлена гісторыяй.

Існаваньнем кірылічнай абэцэды, якая ёсьць зараз у сэрбскай мове, сэрбы абавязаныя Вуку Караджычу. Яны вельмі ганарацца сваім Вукам, таму што ён спрасьціў іхны правапіс. Па-сэрбску як вымаўляецца, так і пішацца. Кожнаму гуку адпавядае літара. Вельмі зручна!



***Асацыяцыі а-ля Пруст***

*Матэрыял гэты мне дапамагала рыхтаваць Аксана Пісецкая, супрацоўніца прадстаўніцтва югаслаўскай зьнешнегандлёвай кампаніі "Руднап" на Беларусі. Пры канцы нашае гутаркі я пацікавілася, з чым асабіста ў яе асацыюецца Сэрбія.*

*- З пахамі ліпы і кавы. З псыхалёгіі вядома, што пахі вельмі моцна адбіваюцца ў падсьвядомасьці чалавека. Апошнім разам я была ў Сэрбіі ў траўні, акурат калі цьвілі ліпы. А пах кавы лётае ў паветры цэлы год...*

# "Final Fantasy": гамон акторам?

*Калі ў 1996 годзе японская фірма Square Soft паведаміла, што бярэцца стварыць фільм, у якім усё, ад сцэнару да актораў, будзе кампутаровым і рэалістычным, прыхільнікі анімацыі 3D пачалі нецярпліва лічыць дні да прэм'еры, а капрызныя зоркі затрымцелі ад страху.*

Бум Final Fantasy распачаўся пры канцы 80-х. Першая вэрсія гэтай кампутаровай цацкі ад фірмы Square была адносна прымітыўнай з пункту гледжаньня графікі (як на сёньняшнія стандарты) і напачатку была даступная выключна для прыставак Nintendo. Гульцы пераўвасабляліся ў Галяктычных ваяроў, заданьнем якіх было парушыць раўнавагу элемэнтаў Зямлі, Агню, Паветра і Вады ў сьвеце. Чарговыя гульні не былі працягам першае часткі, аднак усе яны мелі некаторыя агульныя рысы: у сэрыі FF важную ролю адыгрываюць "замарочкі" New Age - энэргія і гармонія прыроды, духі жывёлаў і магічныя прадметы. Зазнаўшы посьпех у Японіі, у 1990 годзе гульня трапіла на амэрыканскі рынак. Сьвет FF, поўны магіі і незвычайных істотаў, уразіў мільёны спажыўцоў - бо хто ня любіць гісторыі пра цуды, пачвараў, замкі і чароўныя прыгоды? З часам FF сталася адной з тых гульняў, якасьць графікі якіх усталёўвала новыя, штораз вышэйшыя планкі для астатніх. А апошнія дзьве гульні з цыклю (VIII і IX) наагул былі ўспрынятыя знаўцамі як мастацкая графіка.



Праект Final Fantasy быў ня столькі адважным крокам у невядомае, колькі капрызам багатае фірмы, якая магла сабе дазволіць раскідвацца мільёнамі.

## Капрыз багацея

А тым часам у сьвеце кіно пачалі зьяўляцца стужкі, зробленыя цалкам пры дапамозе кампутаровых тэхналёгіяў. Посьпехі "Лялечнай гісторыі" і "Даўным-даўна ў траве" Pixar Animatons, а таксама "Мурашоў Z" PDI даказалі, што лічбавая прадукцыя здольная ўсхваляваць сэрцы гледачоў гэтак жа, як і "жывыя" фільмы. Таму Square Soft вырашыла пайсьці далей - заміж чарговай часткі гульні стварыць паўнамэтражны фільм. Нягледзячы на тое, што даходы ад гульняў значна вышэйшыя за прыбыткі ў кінаіндустрыі, дырэкцыя Square сказала сабе: ёсьць такое слова - "трэба!"

Тут варта згадаць, што Square Soft ёсьць найбагацейшай фірмай з тых, што займаюцца лічбавымі забавамі. Яна валодае найвялікшай у сьвеце базай SGI, якая зьяўляецца асновай кінаіндустрыі, а таксама мае найбольшую колькасьць ліцэнзійных (а таму надзвычай дарагіх) праграмаў, якія выкарыстоўваюцца ў стварэньні анімацыі 3D. Праект Final Fantasy быў ня столькі адважным крокам у невядомае, колькі капрызам багатае фірмы, якая магла сабе дазволіць такую раскошу.

Сцэнар меў шмат супольнага з гульнямі: як і ў гульні, дзея адбываецца ў фантастычным сьвеце далёкай будучыні, дзе тэхналёгіі і разьвітая навука робяць лягчэйшымі пошукі рашэньня праблемаў, зьвязаных з парушэньнямі экалягічнае раўнавагі. Геройка, доктар Акі - выхаваная, энэргічная і эфэктная (а як жа!) дасьледчыца - шукае спосаб абараніць чалавецтва ад іншапланэтных істотаў і пры гэтым пазьбегнуць экалягічнай катастрофы. Дзея адбываецца на фоне цалкам фантастычных краявідаў, распрацаваных з маніякальнай дакладнасьцю і рэалізмам. Словам, гэта патэнцыйна больш, чым можа прапанаваць які-небудзь фільм, зьняты традыцыйнымі мэтадамі. Няма нічога дзіўнага, што Том Хэнкс так раззлаваўся...

## "Кухня" фантазіі

У адрозьненьне ад тыповых анімацыйных студыяў, якія робяць акцэнт на самім працэсе анімацыі, калектыў Square паставіў сабе за мэту зрабіць фільм, які б выглядаў рэальна. Былі задзейнічаныя ўсе існыя лічбавыя тэхналёгіі. Аднак тэхналёгіі, выкарыстаныя пры стварэньні Final Fantasy, не былі цалкам новыя. Гэта тычыцца нават тых мэтадаў і абсталяваньня, з дапамогай якіх ствараліся лічбавыя акторы. Напачатку герояў хацелі зрабіць падобнымі да іхных прататыпаў з гульні "Фінальная фантазія IX". Аднак рэжысэр Хіранобу Сакагучы вырашыў інакш. На адным са сходаў ён расклаў перад калегамі кучу выразак з модных часопісаў, гаворачы пры гэтым : "З гэтага фота возьмем вуха, з таго нос... О! А гэты твар нам спатрэбіцца цалкам". Так зьявіліся вельмі агульныя эскізы, а на іх падставе - лічбавыя мадэлі. Толькі гэтым працэс стварэньня FF розьніўся ад іншых праектаў такога кшталту - звычайна лічбавыя постаці ствараюцца шляхам трохмернага сканаваньня гіпсавых мадэляў, якія адліваюцца па фотаздымках актораў. Захапленьне фотаздымкамі кіназорак прывяло да таго, што асобныя лічбавыя героі вельмі падобныя да некаторых знакамітых асобаў шоўбізнэсу. Відавочна, што сёньняшняму ідэалу прыгажосьці найлепей адпавядаюць Сандра Булак і Бэн Афлек.

Першым героем, падрыхтаваным для анімацыі, была Акі, апошнім - яе супрацоўнік (і прыхільнік) доктар Сід. Калі яго "ажыўлялі", студыя ўжо валодала поўным наборам высакаякаснага абсталяваньня. Адсюль відавочная розьніца ў "якасьці" першага і апошняга герояў.

Калі постаці былі гатовыя, у іх удыхнулі жыцьцё: мадэлі пачалі рухацца, і рабілі яны гэта дзякуючы сыстэме motion capture. Гэтая тэхніка такая ж старая, як і поўнамэтражны анімацыйны фільм. Яшчэ Дыснэй у "Беласьнежцы" выкарыстоўваў запісы рухаў жывых людзей, каб "прымусіць" рухацца мультыплікацыйных герояў. Каб выканаць анімацыю пары, якая танчыць, здымалі жывых танцораў, кінастужку праяўлялі, павялічвалі і атрымлівалі абрысы танцораў. Іх аддавалі мастакам на дапрацоўку. Цяпер ужываецца больш складаная тэхналёгія, якая, аднак, грунтуецца на аналягічным прынцыпе. Мадэляваньне рухаў актораў робіцца на падставе дадзеных, якія атрымліваюцца з дапамогай складанае сыстэмы, што запісвае пазыцыі актораў праз адмысловыя датчыкі, прымацаваныя да адзеньня актораў. А вось рухі вуснаў і міміка герояў у Final Fantasy былі цалкам зробленыя ўручную.

## Прыхільнікі "жывых"

Такім чынам, тэхнічныя веды пра лічбавую анімацыю чалавецтва ўжо мае. Гэта значыць, што ў недалёкай будучыні мы можам убачыць чэргі актораў на біржы працы. Зараз, калі кожныя паўгоду падвойваецца моц працэсараў, а абсталяваньне і праграмы становяцца ўсё больш простымі і даступнымі, плаціць галівудзкай зорцы 27 000 баксаў за гадзіну працы ня мае сэнсу - можна з тым жа посьпехам выкарыстаць лічбавага актора. Ад яго болей карысьці: ня трэба выслухваць нараканьні, што "кава без малака, на пляцоўцы халодна, і мігрэнь пасьля ўчорашняга кактэйлю перашкаджае працаваць".

Аднак людзі ідуць у кіно для таго, каб убачыць знакамітага чалавека. Мы любім ягоную міміку, манэру маўленьня і ўсьмешку. Усё гэта зьяўляецца фірмовым знакам актора, які звычайна пільна ахоўвае правы на выкарыстаньне свайго партрэту, стылю ці голасу. Хто з высокааплочваных актораў пагодзіцца сядзець дома бяз працы і глядзець на лічбавага "сябе"? Нават калі так і атрымаецца (а спробы схіліць зорак да гэткага варыянту будуць ужо ў недалёкай будучыні), папулярнаму актору недастаткова проста даць згоду на выкарыстаньне сваёй зьнешнасьці - ён будзе змушаны прайсьці праз сыстэму motion capture, каб лічбавы двайнік рухаўся дакладна так, як гэтага жадае глядач. Па сутнасьці, такі мэтад патрабуе дадатковых грошай. Лішніх выдаткаў вымагае таксама праектаваньне і стварэньне самой лічбавай анімацыі. Таму агульная сума ня будзе меншай за ганарар "жывога" актора, увесь працэс стане нават даўжэйшым і складанейшым.

Гэта толькі адзін аспэкт справы. Іншая рэч - раскруціць лічбавую зорку. Шчыра кажучы, тое, што ляжыць у аснове стварэньня культу экранных зорак, наагул мае большае дачыненьне да іх пазаэкраннай дзейнасьці. Пераважная большасьць фанатаў цікавіцца не акторскім майстэрствам сваіх ідалаў, а іх асабістым і нават інтымным жыцьцём. Цэлая армія фатографаў, журналістаў і асыстэнтаў, дзякуючы папулярным акторам, мае працу: яны імкнуцца задаволіць патрэбу фанатаў у інфармацыі пра тое, што зоркі робяць па-за здымачнай пляцоўкай, у што апранаюцца, з кім сустракаюцца, дзе праводзяць адпачынак. А фільмы, у якіх здымаюцца знакамітыя акторы, - рэч, па вялікім рахунку, дзясятая...

## Гара і мыш

Final Fantasy ня мела касавага посьпеху на амэрыканскім рынку. Некаторыя лічаць, што гэты фільм - найвялікшая няўдача ў гісторыі сучаснага кіно. Рэалізацыя яго каштавала звыш 100 мільёнаў даляраў, а пракат прынёс крыху больш за 30 мільёнаў. У чым прычына правалу? Яна вельмі празаічная - дрэнны сцэнар, які перакрэсьліў даволі якаснае выкананьне і бліскучае афармленьне. Гісторыя, прапанаваная сцэнарыстамі FF, апынулася ня вельмі цікавай для тых гледачоў, якія не сутыкаліся з Final Fantasy ў "цацачным" фармаце. Да таго ж эфэкт кампутаровай гульні заснаваны на тым, што гулец адчувае сябе ўдзельнікам падзеяў і ўваходзіць у іншую рэальнасьць. У кінастужцы ж гэты эфэкт губляецца: глядач застаецца пасіўным.

Хочам мы гэтага ці не, "Фінальная фантазія" ўвойдзе ў гісторыю кіно як першы поўнамэтражны фільм з фотарэалістычнымі штучна створанымі героямі і сцэнамі. Спадзяемся, што студэнты БАМу і "Кулька" па прачытаньні гэтага артыкулу не пабягуць у рэктарат забіраць свае дакумэнты. Яшчэ ня час. Ад людзей з крыві і плоці залежыць, каб узровень акторскага рамяства быў заўсёды вышэйшы за той, які могуць паказаць на экране лічбавыя лялькі. Акторы, старайцеся! Інакш заменім вас кампутаровымі постацямі.

Тэхнічныя веды пра лічбавую анімацыю чалавецтва ўжо мае. Гэта значыць, што ў недалёкай будучыні мы можам убачыць чэргі актораў на біржы працы.



# Раман Вікцюк: "Усе мяне абагаўляюць"

*Гутарыла Стася Куніцкая*

МХАТаўцы падскочылі і кажуць: "Адыдзіце!" Уклёнчаныя не зразумелі. Цьвярозыя! Адказваюць

**Для таго каб прадставіць чарговага героя Illuminated, ня трэба пералічваць усе ягоныя заслугі. Дастаткова толькі сказаць, што гэта Раман Вікцюк. Львоўскае дзяцінства і маладосьць сталіся асновай ягонай жыцьцёвай філязофіі. Потым, падросшы, Раман выправіўся ў Маскву: як ён сам кажа, "на паклон маскалям". Быў прыняты ў ГИТИС. Славу рэжысэру прынесьлі "Служанкі" "зэка і гомасэксуаліста" Жана Жэнэ. Сёньня, калі ў Вікцюка пытаюцца, ці праўда, што ён паставіў 120 спэктакляў, ён адказвае: "Болей, болей". Тыя ж "Служанкі", "Фэдра", "Мадам Батэрфляй" у інтэрпрэтацыі Вікцюка ўжо трапілі ў энцыкляпэдыі. Шмат якія іншыя ягоныя спэктаклі чакае тая ж доля. У лістападзе Раман Вікцюк прывозіў у Менск "Майстра і Маргарыту". Нагода?**

## Тэлевізія. Жырыноўскі. Маркіз дэ Сад

"CD": Давайце пачнем нашую гаворку ня з Вашае рэжысэрскае кар'еры, а з працы на тэлебачаньні. Калі Вы зразумелі, што Вам гэта цікава?
Р.В.: Вельмі даўно. У Львове ж я першы быў чалавек на тэлебачаньні. Якая ў мяне была папулярнасьць! Трамваі спыняліся, войска спынялася, калі я ішоў па вуліцы. Што мне хваліцца? Гэта праўда стоадсоткавая, *не брешу*. У мяне вочы наагул былі вар'яцкія. Алег Кашавы ў параўнаньні са мной быў проста дзіцёнак. Я патрыёт быў такі жарсны, пачынаючы зь піянэрскага дзяцінства. Чырвоны гальштук... Як толькі правадыры прыяжджалі, каго выпускалі наперад? Толькі мяне, і адразу я ўвасабляў нацыю. Выхаваньне ж у нас бэндэраўскае, а я вось быў гэткі запроданец.

"CD": Можа, вернемся да тэлебачаньня?
Р.В.: Так. З усім гэтым - пра Радзіму, пра партыю, пра Леніна, пра камсамол - даводзілася сутыкацца кожны Божы дзень! Вывучыць гэта было немагчыма. Таму для тэлебачаньня я дома на такіх вось аркушах патрэбныя тэксты пісаў. Мая маці, калі бачыла, што на падлозе раскладзеныя гэтыя аркушы, пачынала зь мяне зьдзекавацца. Яна ненавідзела гэтую ўладу... Але гэта ўжо іншая п'еса.

Я заўжды этэр сканчваў. Шчасьце было ўсім: з маёй усьмешкай лягчэй засынаць. У студыі я кожнага разу вочы апускаў, а калі ўздымаў - бачыў новы тэкст. Аднойчы я вочы ўздымаю, а нейкая дура перагарнула мне гэтыя аркушы дагары нагамі. Што я раблю? Там наверсе былі нейкія прыстасаваньні... Карацей, зьнік гук. Народ замітусіўся, шнуры ўсялякія цягне. Тут я ёй усё й выказаў! Гэта быў самы доўгі ў маім жыцьці верш. Там усё было: і жэсты, і пра Радзіму... А пры канцы пакланіўся.

"CD": Вашыя праекты на тэлебачаньні зьвязаныя з вобразам "гаворачае галавы". Вы ўвесь час нешта распавядалі ў кадры...
Р.В.: І гэта страшна. На ўкраінскім тэлебачаньні роднае мовы ня ведаюць. Калі са мною распачынаюць гадзінную гутарку на мове, яны толькі й могуць сказаць: "Добрий день! Починаємо..." А далей па словах - так, ні. А я адмыслова такія словы кажу ўкраінскія, якія яны наагул ня ведаюць. Ёсьць жа выкшталцоныя... Мова ж якая прыгожая! Разумееце, нават у расейскай такога няма. І яны, суразмоўцы, губляюцца. (Вось хацеў цяпер на мову ўкраінскую перайсьці. Не. Хаця яна да беларускае падобная.)

...Увісце: у мяне ў кадры котачка, я размаўляю з котачкай. Мне даюць якую-небудзь сіямскую, а пасьля кажуць: "Божухна, яна ж ніколі не магла цэлую гадзіну сядзець і слухаць!" Уяўляеце? Сінявокая, бяз поўсьці котка, і я зь ёй сяджу і размаўляю! Цудоўная была праграма!

"CD": Пра што размаўлялі?
Р.В.: Па тэме, якую мне задавалі. І пра ўладу таксама. Котка мяне разумела...

"CD": Хто былі ўдзельнікі Вашых праграмаў?
Р.В.: Самая страшэнная была праграма ў маім жыцьці - паміраць буду, страшней не было! - у Крамлі. Я ж ніколі ня ведаў, якая партыя перамагае, хто з кім варагуе... І вось мяне туды запрасілі. Калі мы йшлі па мосьце да Крамлю - вось так са мной ішоў Фіма Шыфрын, а так Гена Хазанаў - пад'ехаў Жырыноўскі. Выскачыў з машыны: маўляў, вось ён я! Я артыстам кажу не абарочвацца. Ён крычыць: "Павесіць! Павесіць!" Я паварочваюся: "Геній!"

Там сабралася выбраная грамада: Чубайс, Гайдай... я цяпер усіх ня памятаю. Лёлік Табакоў нешта славіў дэмакратаў, а я думаю, як гэта ў яго так язык паварочваецца. Тут слова далі мне. А мы ў гэты час якраз зьбіраліся на гастролі ў Владзівасток ды Хабараўск. Я мог распавесьці толькі пра тое, чым мы сапраўды займаемся. Як варта аб'ядноўваць людзей сваёй творчасьцю. І ў мяне быў посьпех. Як апынулася, я сказаў ідэю вось гэтую... нацыі: як мастацтва, тэатар могуць усіх аб'яднаць! Больш я на такія мерапрыемствы не хаджу.

"CD": Вас, пэўне, часта запрашаюць госьцем у студыі. Вы адмаўляецеся ці прымаеце запрашэньні?
Р.В.: Як калі. Такая была чорная дзяўчынка - яна жыве і тут, і там, - вяла начную праграму пра сэкс... "Пра гэта". Як яна звалася - Ванга, Шманга - ня ведаю. Яна мне тэлефануе і кажа, што я так шмат ведаю пра сэкс, як ніхто, і што яна ўсё жыцьцё марыла паслухаць... Яна сказала, што ёсьць праблемы, у якіх яна не разьбіраецца: яна не адрозьнівала садызм ад мазахізму. Я кажу: "І што трэба?" Яна мне: "Вы маглі б пра гэта людзям распавесьці?" Я кажу: "Зь вялікай радасьцю". І распавядаў, у чым розьніца. Яна сказала, што на ўсё жыцьцё ўсе мае цытаты запомніла. Вось "Маркіз дэ Сад"* - гэта садызм. А возьмем "Вэнэру ў футры"* - гэта будзе мазахізм. Вось і глядзіце, у чым розьніца.

"CD": Раман Рыгоравіч, я чула, што...
Р.В.: Не, няпраўда.

## Акторы

"CD": Вы ламаеце акторскія ўяўленьні ня толькі пра творчасьць, але й пра жыцьцё. Якую мяжу Вы ня можаце пераступіць у гэтай ломцы?
Р.В.: Калі я разумею, што там пустата. А калі там глыбіня, дык мяжы няма.

"CD": Шмат "глыбокіх" трапляецца?
Р.В.: Так. Павінен сказаць, што калі згадаць дзясятак самых грандыёзных актораў нашага часу, дык усе са мною працавалі. І ўсе мяне абагаўляюць.

"CD": Чым мусяць вылучацца акторы, каб Вы іх запрасілі ў сваю трупу?
Р.В.: Нічым. Толькі любіць павінны. А гэта самае цяжкае. Самая складаная справа - знайсьці акуляры, якія ў цябе на носе. Самае цяжкое - любіць, і каб у цябе была здольнасьць і патрэба любіць. Гэта самы галоўны крытэр. Калі чалавек дзейнічае па любові, ён адчыняецца да такіх глыбіняў, пра якія сам і не падазрае. Усё навука расшыфроўвае, застаецца толькі адна таямніца: чалавек. Мастацтва якраз і займаецца распрацоўкай падыходаў да гэтае чортавае таямніцы. Я чацьверты раз займаюся "Майстрам і Маргарытай". Я чацьверты раз разумею, і кожны раз па-новаму.

"CD": Ёсьць такія артысты, з кім ніколі ня будзеце працаваць?
Р.В.: Няма такіх. З кім хацеў - з тымі з усімі мы супрацоўнічалі. Гэта і Жора Буркоў, і Тацяна Дароніна... Я ўжо не кажу пра Наташу Макараву, першую балерыну, Лену Абразцову, сьпявачку, Алісу Фрэйндліх, першую актрысу драматычную. Калі побач зь імі на сцэне маладыя, пра недысцыплінаванасьць нават гаворкі йсьці ня можа. Аліса так сябе паводзіць - яна гуку не дапусьціць. Барані Божа! У ёй ёсьць такая царскасьць, яна такая арыстакратычная. Яна, падпускаючы, не падпускае.

"CD": Раскажыце, як Вы знаходзіце сваіх актораў?
Р.В.: Столькі выпадкаў цікавых бывае! Аднойчы іду я позна ўвечары да скрыжаваньня Горкага і Цьвярской. Каля помніка Даўгарукаму - нейкая група, чалавек 6-8, - насустрач. Бачаць мяне (а ідзе такі сьняжок) і бух перад мною на калені! Я падумаў, што гэта баньдзюгі, распранаць будуць. Побач была школа-студыя МХАТ. Адтуль вяртаўся з рэпэтыцыі народ. Я іх нікога ня ведаў. А яны таксама вырашылі, што гэта баньдзюгі, бо вакол мяне пачалі ўзьдзяваць рукі, хапаць мяне за рукі, цалаваць. Я быў падумаў: мабыць, ужо зьнік гадзіньнік, зараз здымуць паліто.

МХАТаўцам: "Мы захапляемся..." "Адыдзіце ад яго!" - крычаў нейкі хлопец грамчэй за ўсіх.

МХАТаўцы мяне правялі ў двор. А гэты хлопец папрасіў зь імі парэпэтаваць для Дурава ўрывак. У яго ніяк не атрымлівалася. Я яму: "Што, вось тут, уначы, у маім двары?" "Так". І я яму расказаў Астроўскага - ад пачатку да канца. Зранку ён прыйшоў да Дурава, сыграў Дураву ўсё. Той сказаў, што добра.

Ну, а Сярожа Макавецкі? Зараз распавяду - заплачаш. Іду я ставіць у тэатры Вахтангава спэктакль пра гэтага чортавага Шастаковіча, Сталіна, Жданава і іншых. Бачу - ля тэатру стаіць Макавецкі і б'е лёд ломам. Я яму: "Дете, що ти робиш?" "Не заважай"- адказвае. І працягвае біць. Я падумаў: "Божа, якая камсамольская праца!" Заходжу ў фае. Дзялюся сваімі ўражаньнямі з адміністратарам. Я ж такога яшчэ ня бачыў, каб артыст, толькі што скончыўшы Вахтангаўскую вучэльню, з такім энтузіязмам займаўся працай дворніка! Адміністратар завіскатаў, схапіў мяне за руку й пацягнуў да дырэктара. Дырэктар, як пачуў, кажа: "Ні слова больш пра яго". Як высьветлілася, Макавецкі ўчора ўзяў пап'е-машэ - за нешта там на яго лаяліся - і як даў дырэктару па пальцы! Зламаў палец. І яго адразу "разжалавалі" ў дворнікі. А я прыйшоў яго прызначаць на Шастаковіча...

Макавецкага дагэтуль я бачыў толькі ў нейкім вадэвілі. Ну, яшчэ ён Сымона Катко граў. Я яму: "Дете, що ж ти того бандита граєш?" А ён мне: "Та грошей немає". А ў тэатры ён толькі нейкага мухамора граў. І больш нічога. На спробах ён граў Шастаковіча. І ў яго гэта атрымалася надзвычайна. Так адкрылі артыста. Ужо сем ці восем галоўных роляў.

"CD": А хлопцы зь Беларусі, якія ў Вашай трупе? Як Вы іх ацэньваеце? Яны ж у Вас ня граюць першыя ролі.
Р.В.: Чаму? Яны ўсё граюць. Яны ж толькі нядаўна. Што ж ты хацела?

"CD": А колькі трэба ў Вас працаваць, каб...
Р.В.: Ды хоць заўтра! Якое гэта мае значэньне? Вось аўтар-француз даслаў п'есу. Можаш прыйсьці і паспрабаваць, сказаць: "Вось гэта - я".

** Спэктаклі Р.Вікцюка.*

# super-кокан

Улад Урзоў



© ВН

Надышоў час мяняць галоўнае - асяродак свайго існаваньня. Твой дом, твой пакой, прадметы, якімі ты карыстаесься, рэчы, якімі ты сябе акаляеш, - усё мусіць несьці на сабе прыкольныя адбіткі тваёй асобы. Напэўна, няма больш казытлівай тэмы, чым грошы, асабліва калі размова ідзе пра іх частковую ці (яшчэ горш) поўную адсутнасьць. Стыпэндыі ледзь-ледзь хапае на абеды ва ўнівэрсытэцкай сталоўцы, а бацькоўскія "кішэнныя" прасоджваюцца за адну вечарынку. Але ня варта замарочвацца наконт сродкаў. Трансфармаваць асяродак існаваньня можна пачаць практычна з нулём у кішэні. Для гэтага вам спатрэбіцца фантазія і палкае жаданьне знайсьці свой уласны ўнікальны стыль. Самае галоўнае - гэта здолець пазытыўна прыкалоць сябе й астатніх, зьдзівіць пазытыўнасьцю літаральна ва ўсім. І пабольш іроніі ды здаровага цынізму!

**Мяняйся сам і мяняй сьвет навокал сябе!**

Напачатку неабходна зазначыць, што адна з самых вострамодных і актуальных тэндэнцыяў у сьвеце дызайну і архітэктуры на сёньняшні дзень - гэта ідэя трансфармізму, калі рэчы, прастора і жыцьцё лёгка мяняюцца і відазьмяняюць сваё аблічча.

Адштурхніцеся ад канцэпцыі поп-арту - стылю, які найбольш падыходзіць да нашага жыцьця. Поп-арт - абрэвіятура ўсяго папулярнага, новага, моднага. Панятак гэты ўключыў у сябе музыку, моду, мастацтва і злучае ў сабе агромністую колькасьць стыляў і кірункаў, ад кітчу і глэму да мінімалізму і рэтра. Канцэпцыя поп-арту - гэта зьмяшаньне разнастайных колеравых камбінацыяў матэрыялу, колеру, фактуры. Вызначальнікі гэтае тэндэнцыі: колеравая разнастайнасьць, сьмеласьць рашэньняў, адкрытасьць, выбух энэргіі і яркія фарбы. Такім чынам, поп - гэта асаблівае стаўленьне да жыцьця, выражэньне сябе і ўсяго, што навокал, у разнастайных колерах. Як да гэтага прыйсьці? Вельмі проста. Ня трэба строга прытрымлівацца ніякіх кірункаў - выпрацоўвайце свой уласны стыль. Адштурхніцеся ад паняткаў, якія ідуць побач з вашымі прынцыпамі й поглядамі на жыцьцё. Можа, вы хочаце сумясьціць у вашым інтэр'еры энэргію і рух, а можа, ён мусіць сымбалізаваць чысьціню формаў і лёгкасьць. У вашых сілах стварыць цалкам новы стыль. Рэцэпт просты: бярыце ад існых (іх шмат) усё самае цікавае, і ў вас атрымаецца поп-арт, мікс са стыляў, вясёлая імправізацыя. І як узнагарода за сьмеласьць - чумавая кватэра, ваш super-кокан.

**Такім чынам, наперад!**

Сьцены. На стандартны пакой неабходна 6-7 трубак шпалераў. Навошта разводзіцца на грошы, каб купіць 6 трубак дарагіх шпалераў? Купіце 2-3, а па астатнія - у той самай гаме - зьвярніцеся да сяброў і родных. Рэшткі таксама можна знайсьці ў бабулек на блышыным рынку ў Ждановічах і на шпалеравай фабрыцы ў раёне вуліцы Мельнікайтэ. Вам гэта абыдзецца літаральна капейкі. Колеравую гаму лепей браць адну, каб асобныя кавалкі не "выпадалі" з агульнай масы. Вы можаце адным відам паклеіць адну сьцяну, 2-м - другую, трэцюю проста пабяліць, а чацьвертую, на якую вы хочаце зьвярнуць увагу, - паклейце менавіта тымі трыма дарагімі трубкамі. Колеры пераважна сьветлыя, бо менавіта яны "рассоўваюць" прастору. Такім чынам, клейка шпалераў будзе нагадваць тэхніку каляжаваньня.

Столь. Яе можна пабяліць (дзякаваць Богу, пабелка каштуе ня так дорага), а можна цікава задрапаваць рыбалоўнай сеткай альбо напаўпразрыстай тканінай, расфарбаванай з балёнчыка (аўтарынак Ждановічы). Яшчэ варыянт: бярэм губку і з дапамогай банкі блакітнае гуашы і водаэмульсійнае фарбы ператвараем столь у яснае неба над галавой, лёгкімі рухамі наносячы фарбу. Неба стане яшчэ больш рэальным, калі мы нанясем зорачкі рознае канфігурацыі.

Мэбля. Можна пафарбаваць мэблю з балёнчыкаў (калі не шкада, канечне, і калі яна ўжо занадта монстрападобная), а можна абцягнуць яе тканінаю (рэшткі тканіны вы знойдзеце ў любым унівэрмагу і сэкандхэндзе) і замацаваць з дапамогай хуткасшывальніка альбо двайнога скотча. Шмат якія ідэі будуць нараджацца проста "ў працэсе". Вам асабліва пашанцавала, калі вы ўладальнік непатрэбных вялікіх па фармаце кавалкаў фанэры і кардону, зь іх таксама можна зварганіць пляншэт-шырмы, абцягнуўшы іх тканінаю. Такі падыход супэрактуальны для нанятага жытла, дзе часта сутыкаесься з адсутнасьцю мэблі. Усе аб'екты лёгка мяняць месцамі, рэгуляваць формы і ператвараць вашую прастору ў стылёвы артэфакт, накшталт відэакліпу.

Тут warning таксама і з выбарам колеравай гамы шпалераў. Прастору лепей вызваляць, чымся "грузіць" прадметамі. Рэчы варта разьмяшчаць адкрыта, вельмі важны рацыянальны падыход.

Падлога no comments: заўсёды чыстая.

Дзьверы. Крыху будаўнічае пены, фарбы з пульвэрызатара, крыху фантазіі й крыху цярпеньня - і супэркасьмічныя дзьверы гатовыя!

Фіранкі. Купляем у краме рэшту шчыльнай тканіны (падтрымліваем беларускага вытворцу) і, не апрацоўваючы краі, чапляем за карніз.

Дэталі. Яшчэ адно папярэджаньне: усё будуецца на дэталях. Тое, што мусіць быць насамрэч добрай якасьці, дык гэта ручкі, разэткі, выключальнікі й сьвятло.

Аксэсуары. Вось тут - поўны палёт (я б нават сказаў, улёт) фантазіі. Іх вялікае мноства. Проста яны няправільна разьмешчаныя ў вашым доме, часта губляюцца, як і ўсё астатняе: фоткі вашых сяброў, брэлкі, цацкі, сьвечкі й іншае. Паспрабуем зьляпіць усё разам у адно цэлае і разьмяшчаем атрыманыя аб'екты. Альбо, наадварот, расставім усё ў індывідуальным парадку. Бярыце яркі скотч, ватман і гуаш - малюйце любыя абстракцыі, рабіце паспарту (рамкі) з таго самага ватману і разьмяшчайце іх на сьценах. Чым больш яркі й вар'яцкі малюнак, тым ён больш арыгінальны. Няма ідэяў? Схадзіце ў любую дзіцячую студыю і накупіце працаў там. Масу попартаўскіх дэталяў (яркіх вешалак, кручкоў, падставак, вазонаў) вы знойдзеце на Ждановічах і ў нашых родных беларускіх адстойніках (прамтаварных крамах). Купіце любы часопіс "Fotodesign" і зрабіце невялікі плякат з таго стыльнага здымка, які вам спадабаецца. Старая біжутэрыя, радыёпрымачы, саўковыя дзіцячыя кніжкі - і цукерка гатовая!

Насамрэч прыдумаць арыгінальны інтэр'ер гэтак жа цяжка, як вынайсьці ровар. Таму не чакайце, што вы прыйдзеце да свайго стылю адразу ж. Для гэтага трэба шмат хадзіць, шмат чытаць, яшчэ больш бачыць і экспэрымэнтаваць літаральна з усім, зьмешваць і вынаходзіць, таму што жыцьцё - гэта REMIX!



© ВН

# ЗА ШКЛОМ












Пачынаем азалачы-вацца!
Рэп — сіла, панкам — магіла!
Дай яму, дай!
BANG!!!
Я цібе дам «Дзярэўня»!
БАБАХ!!!
PUNKS NOT DEAD!
Я січас міліцыю вызаву!
Вось табе, стукач паганы!
Ідэя! Пайшлі біць рэжысэра!
Бі шкло!
ДЗЫНГ!!!
Адпусьціця!
Наступным разам буду запрашаць у сваю праграму толькі харошых выхаваных і культурных хлопчыкаў і дзяўчынак.
Астарожна, тут ступенька
LAVON 2001

# Дзьве (+2 кг) сьвятаў тоны




ТЭМА

Апроч "Двух Вёдраў Цьвікоў" (для непрасунутых у гэтым кірунку - кодавая назва сэсіі), зіма мае яшчэ шмат прыемнасьцяў. І не апошнія зь іх - сьвяты. Іх шмат: Каляды (2 шт.), Новы год, Стары Новы год... Дарэчы, апошняя аксюмаранічная назва для шматлікіх абывателяў дагэтуль застаецца загадкай. А тым часам гэта адно з самых прасунутых "студэнцкіх" сьвятаў: на Стары Новы год (СНГ) усе дзьверы ў інтэрнатах ператвараюцца ў дошкі аб'яваў ("тут жывуць сэксуальныя маньякі", "уваход з двара" і г.д.), бялізна з мужчынскіх блёкаў перакачоўвае ў жаночыя і наадварот, а студэнты практыкуюць рытуальныя абліваньні вадой, пасьля чаго шматлікія інтэрнаты зачыняюцца на рамонт. Мы ўжо ня згадваем пра гаданьні з абдыманьнямі платоў, батарэяў цэнтральнага ацяпленьня і найбліжэйшых асобаў процілеглага полу... Гэта ведае кожны студэнт, таму пакінем убаку лірычныя адступленьні і пяройдзем да справы.

Зараз будзем разьбірацца зь зімовымі сьвятамі. Па-першае, закупім падарункі для ўсіх блізкіх, сваякоў і знаёмых. Потым паклапацімся пра ўласнае здароўе (ужо й без таго падарванае набліжэньнем сэсіі) і падрыхтуем арганізм да сьвяткаваньняў. Пасьля апранем гэты самы арганізм у прыстойны КасьцюмчыК (каб ня мерз і каб прыцягваў іншыя арганізмы), чытанем адным вокам сьвяточныя нататкі зь Нямеччыны ды ЗША і напрыканцы разьбярэмся (як пацаны) зь Дзедам Марозам (ходзяць тут усякія!).

Заінтрыгаваны? Чытай далей >



# Па дар ункі: тан на і з шы кам

*Каляды - час падарункаў. Стыпэндыя ў студэнцкага элемэнту складае блізу 20-ёх тысячаў, таму асабліва не пагалівудзіш. Будзем разьлічваць яшчэ й на тое, што студэнту трэба пражыць на гэтыя грошы.*

**Варыянт #1 (сур'ёзны)**

Патраціць усю стыпэндыю й заробак (у выпадку як мінімум падпрацоўкі) на падарункі. Гэта можа быць рушнік для маці (яна, праўда, даўна марыць пра покрывы на канапу, але гэтая раскоша пацягне якраз на ўсю стыпуху). Бацьку - брэлок са званочкам, каб не шукаў па ўсёй кватэры згубленыя ключы (чамусьці заўсёды пошукі сканчваюцца маім працоўным сталом, дзе няможна знайсьці нават уводзінаў у курсавую вось ужо паўгоду...). Любімаму малодшаму брату-бандыту спадабаецца ружовенькая насовачка. Проста ў яе будзе загорнутая пэтарда.

Навуковы кіраўнік будзе ў захапленьні, калі вы прадэманструеце напярэдадні Калядаў першы разьдзел курсавой, пажадана ў суправаджэньні торціка, абгорнутага ў вышэйзгаданую працу. Дэкану можна падараваць апошні нумар "CD", каб адцягнуць ягоную ўвагу ад сваіх студэнтаў і нацкаваць на чужых.

Каханай ці каханаму можна падараваць кампакт-дыск са сваімі ўлюбёнымі мэлёдыямі. Каб прыемна было слухаць хаця б самому.

Котачцы можна знайсьці стужачку і завязаць прыгожа на шыі. Але з добрымі намерамі.

**Варыянт #2 (прыкольны)**

Патраціць усю стыпэндыю на сябе любага (папіць піва зь сябрамі, нарэшце набыць нармалёвую валізу - каму што баліць...), а падарункі астатнім зрабіць сваімі рукамі.

Дэкану (каб не наяжджаў за пропускі) - сшыты дзедмарозавы капялюш, чырвоны такі, зь белай пімпачкаю наверсе. Навуковай кіраўніцы можна сьпячы пірог: ну знойдуцца ж дома мука і яйкі! Малодшым можна падараваць маску, выразаную са школьнай аксамітавай паперы. Трэба толькі прыбраць на стале і знайсьці яе. Сам гэты факт ужо будзе прыемным сюрпрызам для маці. А калі вашае чароўнае ператварэньне ў Прыбіральшчыка яшчэ закране й пакой, а лепей - і ўсю кватэру, маці проста ўсьцешыцца. Узамен яна лёгка забясьпечыць вас калядным строем: працоўным халатам і швабрай.

Адна котка як неразумная істота не зразумее ўсю "прэлесьць" падарунка, зробленага вашымі рукамі, таму варта б было падараваць ёй шкляначку з валяр'янкай. Ужо гэта яна ацэніць, можаце не сумнявацца.

Каханаму чалавеку прыйдуцца даспадобы ласкавыя словы. Але гэтым раю не абмяжоўвацца, трэба дадаць нешта больш матэрыяльнае. Напрыклад, вырашчаны сваімі рукамі кактус. Сваімі, таму што ніхто са сваякоў не хацеў займацца экзатычнай расьлінаю. Сярод іхных прэфэрэнцыяў пераважалі бульба й гуркі на лецішчы. Дарэчы, насеньне карысных расьлінаў было б неблагім падарункам для старэйшага пакаленьня.

**Варыянт #3 (эгаістычны)**

Узгадаць, што "лепшы падарунак - гэта я!". Гэты варыянт пройдзе з каханым чалавекам. Родныя аўтаматычна выключаюцца з гэтага сьпісу, таму што яны мелі шчасьце глядзець за вамі, а потым і на вас усё вашае жыцьцё. І на наступныя Каляды давядзецца ўсё ж нешта для іх прыдумляць.

Прынамсі, любы падарунак выкладнікам і інстытуцкаму кіраўніцтву можна будзе запісаць у разрад эгаістычных. Гэта можа быць тое, што трапляла б кожны дзень у поле зроку: і нататнік, і настольны каляндар, і асадка. Гэтыя рэчы нагадвалі б дэкану пра вас, а значыць, і пра ваш будучы лёс - датэрміновыя здачы сэсіі, дзяржіспыты, разьмеркаваньне...

**Варыянт #4 (конны)**

Выходзячы з таго, што набліжаецца год Каня, набыць усім па паўкілі аўсянае крупы, прыгожа, са стужачкамі й шарыкамі, запакаваць і паднесьці якраз да поснай Куцьці. Даволі небясьпечна: пасьля таго як усе дакажуць, што яны ня коні, вам давядзецца даказваць, што вы - не вярблюд.

ТЭМА

# Новы год бяз "Хуткай дапамогі"

Ад прадзедаў (хутчэй, ад прабабак) спакон вякоў нам засталася спадчына...

Спадчына ў выглядзе прымхаў ды забабонаў. Зімовыя сьвяты (Каляды й Новы год), бадай, чэмпіёны па розных прыкметах ды гаданьнях. Шмат у якіх людзей ёсьць свае маленькія (на ўсю галаву :)) забабончыкі на гэтыя чароўныя дні. Але ёсьць адзін, што аб'ядноўвае ўсіх: упэўненасьць, што як сустрэнеш новы год, так яго ўвесь і правядзеш. А раптам так і ёсьць? Каб не было ўвесь наступны год ані пакутліва, ані балюча, трэба загадзя авалодаць пэўнымі навыкамі бясьпечнага сьвяткаваньня.

Інакш кажучы, распачынаем кампанію "Я - за бясьпечны сэкс... цьфу ты, Новы год!" Каб зразумець, як бараніцца, найперш вызначымся, ад чаго. Ну, па-першае, гэта рэчы стандартныя - ежа ды алькаголь. Аматарам шмат і смачна паесьці мэдыцына дапамагчы ня можа. Абжэрства нечым падобнае да наркаманіі. Нават у мазгох цэнтар задавальненьня ад ежы сядзіць разам з цэнтрам задавальненьня сэксуальнага. Адзінае, чаго трэба пазьбягаць, гэта небясьпечны падбор прадуктаў. З таго, што можа трапіць у ваш рацыён у гэтыя дні, вельмі небясьпечнае спалучэньне хурмы (асабліва недасьпелай) з малочнымі вырабамі. Бывае, што той студзень, які ўтвараецца ў страўніку, дастаюць толькі праз хірургічнае ўмяшаньне. Калі ж вы прыхільнік традыцыйных страваў, усё роўна раю мець якія-небудзь фэрментатыўныя пігулкі ("Мэзім","Панкрэон","Крэон" ці іншыя). Прымаючы гэтыя лекі падчас сьвяточнай вячэры, вы значна спросьціце жыцьцё свайму страўніку.



Пастка другая - алькаголь. Тут усё залежыць ад густаў. Калі ты круты пацан (вечна малады, вечна п'яны), дык - калі ласка. Шампан-гарэлка-вінца-піўком шліфануцца-"за прыўкрасных дам!" (з лакатка)... "далей з усімі прыпынкамі, канцавая станцыя - прыбіральня". Калі ж вы чалавек шляхетны, у хуткім часе вышэйшую адукацыю атрымаеце (калі згадаеце, у якім інстытуце), дык у справе спажываньня алькаголю трэ мець адукацыю, хаця б пачатковую. Па-першае: абавязкова перад банкетам (мінімум за 2-3 гадзіны) трэба выпіць грамаў 30-50 гарэлкі ці чаго іншага. Па-другое, не ўжывайце за раз болей за 30-35 грамаў моцнага алькаголю. Па-трэцяе, нават калі і ёсьць пэўныя правілы (піць з падвышэньнем градусу), не правярайце іх на сабе. Трымайцеся ўвесь вечар чагосьці аднаго і памятайце: газаваныя ды гарачыя напоі (глінтвэйн, грог, крупнік) усмоктваюцца вельмі хутка і ўзьдзейнічаюць неадпаведна сваім быццам бы невялікім градусам. Адмысловае пытаньне - наступная раніца! У сувязі з новым годам гэта прыблізна 2-3 студзеня а 16-й гадзіне. Гэтае ёмкае слова - смага! Галоўнае - не ўжываць ніякага алькаголю.

Парушэньне тэхнікі пахмелу вядзе да працяглага запою! Трэба шмат піць. Вельмі добра дапамагае зялёная гарбата. Калі няма адмысловых сродкаў (які-небудзь "Алька зэльцэр"), якія звычайна складаюцца з асьпірыну, кафэіну, вітаміну С ды соды - не бяды. Можна прыняць усё гэта паасобку. Добра зьесьці цытрыны ці аранжык.

Але гэта былі ня надта адмысловыя для Новага году рэчы. Пераходзім да эксклюзіву: мароз плюс піратэхніка. Праз пэўны, даволі кароткі час вулічнага гуляньня робіцца горача, як у Афрыцы, і весела, як на бразылійскім карнавале. Як вынік - апёкі ды абмаражэньні (адмарожаньні ж могуць здарацца ў любы час году). Падрыхтавацца да гэтых дзьвюх непрыемнасьцяў, на жаль, нельга, можна толькі паспрабаваць зьменшыць наступствы. Калі гэта апёк, дапамога можа быць невялікая. Па магчымасьці - пад холад і чыстая павязка. Галоўнае - не чакаючы на канец сьвята, кіравацца ў мэдычную ўстанову. Калі, наадварот, ёсьць падозраньні на абмаражэньні (пабяленьне скуры, адсутнасьць чульлівасьці, аняменьне), дык галоўнае - ня ўзгадваць, што вы там бачылі ў фільмах пра чалюскінцаў. Усе гэтыя расьціраньні сьнегам пакіньце для сваіх ворагаў. Калі абмаражэньне было даволі моцным, што расьціралі - тое і адваліцца (амаль ня жарт). Пацярпелыя часткі (часьцей за ўсё канцавіны) трэба зьмясьціць у сухое (аніякіх ваннаў!) цяпло. Звонку моцна ня грэць. Трэба дамагацца, каб знутры раскрыліся спазмаваныя судзіны. Дапаможа гарачая гарбата, трошкі алькаголю (менавіта трошкі, а не яшчэ трошкі!), але ўсё роўна неабходна спэцыялізаваная дапамога.

І апошняе. Калі пойдзеце пасьля гэтага артыкулу запасацца ўсялякімі сродкамі перасьцярогі, не забудзьцеся пра падарункі для блізкіх. Сьвята ўсё ж такі!

**Вясёлых Калядаў і Новага году!**
**Доктар Язэп Кхмэр**



# Сьвяты ў Штатах

Зімовы сьвяточны сэзон у Амэрыцы пачынаецца з Дня Падзякі - чацьвертага чацьвярга лістапада, і сканчваецца Днём Новага году. Калядныя ўпрыгожаньні зьяўляюцца ў крамах, на вуліцах і ў прыватных дамах адразу пасьля Дня Падзякі. Па радыё круцяць калядную музыку, музэі рыхтуюць адмысловыя экспазыцыі, і ўсе пачынаюць купляць падарункі. Дзень Падзякі і Каляды - па традыцыі сьвяты сямейныя, а пэрыяд між імі - насамрэч чароўны час. Час выкшталцонай ілюмінацыі і ўтульных хатніх агеньчыкаў, ёлак, падарунначае паперы, цёплых усьмешак, дабрачынных ахвяраваньняў і арганных канцэртаў.

А вось Новы год, апошняе сьвята сэзону, праходзіць на іншай ноце. Аддаўшы даніну павагі сямейнаму колу, амэрыканцы, асабліва моладзь, сустракаюць Новы год шумна. Салідны люд сталага веку выпраўляецца ў дарагія рэстарацыі, на балі з шампанскім у гатэлях ці круізы па Карыбскім моры, дзе капітан карабля таксама дае шыкоўны баль. Маладзейшыя й бяднейшыя, асабліва студэнты, ідуць у бары, музычныя клюбы і на дыскатэкі. У навагоднюю ноч бары й клюбы радуюць публіку канцэртамі жывой музыкі ад найлепшых мясцовых гуртоў, а дыскатэкі - самымі крутымі дыджэямі. Колькасьць выпітага ў навагоднюю ноч вымяраецца галёнамі, усе танчаць, адорваюць знакамі ўвагі проціглеглы пол: не адна пара прачынаецца першага студзеня ў нечаканых абдымках.

Ёсьць і вулічная традыцыя. У Нью-Ёрку, на знакамітай плошчы Тайм Сквэр, спускаюць з хмарачоса люстэркавы шар - працэс, вядомы як "Падзеньне яблыка". Яблык ёсьць сымбалем гораду, і менавіта яго мае сымбалізаваць шар. Пад адлік сэкундаў шар кранаецца плошчы, і ўсе бурна віншуюць адно аднаго. На Тайм Сквэр заўсёды людна. Але ўявіць натоўп 31-га сьнежня ня здолее чалавек з самым хворым уяўленьнем... Гэта трэба бачыць. Апроч люстранога шару, ніводнаму іншаму яблыку проста няма дзе ўпасьці, а месцы на плошчы трэба займаць за ноч да падзеяў. У старой Філядэльфіі ёсьць свая традыцыя - Парад мамэраў. Мамэры - гэта мужчыны, якія шыюць сабе строі незвычайных формаў і прапорцыяў і танчаць у іх пад гукі вулічных аркестраў. Больш дзіўных строяў няма нават у Інданэзіі - блісма, сэрпантын, пёры агромністых капелюшоў, кавалкі люстэркаў і ёлачных цацак на плашчах. Мамэры гадзінамі праходзяць перад натоўпамі гледачоў, якія й самі пачынаюць прытанцоўваць ад захапленьня. Дым ад традыцыйных філядэльфійскіх бутэрбродаў са смажаным фаршам і сырам, што гатуюцца прама тут, піва і віскі, што ліюцца па вуліцах ракой, і адчуваньне карнавалу хутка выцясьняюць сьнежанські холад.

Але дзе б вы ні сустракалі Новы год у ЗША, абавязковымі будуць тры рэчы: адлік сэкундаў (але ня бой гадзіньніка), дудзеньне ў асаблівыя папяровыя сьвісткі па надыходзе Новага году і абавязковы пацалунак: у 24.00 вусны мусяць быць прыціснутыя да вуснаў яшчэ каго-небудзь. Няма такіх - шукайце часовыя, толькі на сёньня, але без пацалунку Новы год не складзецца шчасьліва. Падаецца, пераняць гэтую традыцыю беларускім студэнтам будзе няцяжка.

**Сяргей Кароль (Філядэльфія)**

# Сьвяты ў Нямеччыне

За 24 дні да Калядаў у Нямеччыне пачынаецца Адвэнт. Час калядных кірмашоў, сямейных сустрэчаў і выбару падарункаў.

Калядны кірмаш, Christkindlmarkt, адчыняецца на галоўных плошчах кожнага нямецкага гораду. Зазвычай гэта некалькі шчыльных шэрагаў ярка асьветленых драўляных намётаў. Асноўны тавар - гэта традыцыйныя калядныя ўпрыгожаньні, сувэніры, слодычы, печаныя каштаны, глінтвэйн. Самы прыемны час для праходкі па кірмашы - вечар: сьвяточная ілюмінацыя, падсьветка будынкаў, што акаляюць плошчу, жывая музыка, вясёлы народ і шкляначка глінтвэйну, які пахне карыцай, ствараюць незабыўны перадкалядны настрой.

Дзед Мароз - сьвяты Мікалаўс - прыходзіць да нямецкіх дзетак 6 сьнежня. У адрозьненьне ад нашага дзядулі Сьвяты Мікалаўс - надзвычай сур'ёзны і суворы таварыш. Прыходзячы ў дом, ён перш за ўсё пытаецца ў бацькоў, ці добра паводзілі сябе дзеці. Тыя, хто быў паслухмяны і старанны, атрымліваюць слодычы, неслухі ж атрымліваюць прутом па мяккім месцы (садзюгі! - заўв. нам.рэд.).

Каляды ў Нямеччыне, у адрозьненьне ад Новага году, - сямейнае сьвята. У перадкалядны вечар 24-га сьнежня людзі ідуць у царкву, прыбіраюць ёлкі, прычым дзецям прысутнічаць пры гэтым не дазваляецца, а пасьля дораць адно аднаму доўгачаканыя падарункі. Вячэра ў гэты дзень мусіць быць сьціплай. На наступны дзень абавязкова ладзіцца шыкоўнае сямейнае застольле са смажанай гускай.

Новы год немцы сустракаюць у сяброўскіх кампаніях. Нехта ладзіць хатнюю вечарынку, нехта ўсю ноч танчыць на дыскатэцы, нехта едзе на зімовыя курорты ў горы, а нехта - і ў больш цёплыя месцы, да мора. Многія месьцічы апоўначы выходзяць на вуліцы, каб з шампанскім сустрэць Новы год.

**Дзяніс Іскарцаў (Мюнхен)**

# Касьцюм-чыК!

*Вярнуўся ў нябёсы падарожнік,*
*апранены ў шоўк зьмяіных словаў...*

*Б. Грэбеншчыкоў*

Самае галоўнае - вырашыць, як будзеш пужаць асяродзьдзе... Наколькі моцна. Менавіта з гэткай установкай трэба падыходзіць да пытаньня Вялікай Сьвяточнай Апэрацыі "КасьцюмчыК".

Скідаем зь сябе ўсе гэтыя абрыдлыя джынсы, гальштукі, "дзелавыя" сарочкі, доўгія спадніцы. Адчыняем шафу і даем нырца ў безьмежную прастору адзеньня... А-а! Асалода.

Пытаньне адзінае - што рабіць, калі цябе ў сьвята чакае не фуршэт ад Дыёра ці інтымная сустрэча з каханай (-ым), а шматлюдная тусоўка на кватэры (ці ў інтэрнаце) з морам таннай выпіўкі і, што адсюль выцякае, абсалютна нефармальнымі абставінамі. Там шаўкі, дэкальтэ, смокінгі і дыядэмы будуць зусім "ня ў тэму".

Таму выпрацоўваем крытэры КасьцюмчыКа № 2:
1. танна;
2. экстравагантна;
3. сьмешна;
4. эстэтна (ну гэта як здолееш).

Усё ж, забаўляючыся, ня трэба забывацца на сучасныя подыхі моды, інакш будзеш разгульваць у масцы звычайнага мушкетэра (а-ля савецкія 80-я). Карацей, трэба адкідаць стэрэатыпы: карнавальныя/сьвяточныя КасьцюмчыКі - гэта ня толькі фэі, чараўніцы, папялушкі, піраты і касманаўты. Глядзі ўважліва!

## Па-першае, макіяж

Дробязь, а прыемна. Галоўнае, не перастарайся, каб потым, пасьля 4 гадзінаў бесьперапынных танцаў гэты пласт "тынкоўкі" не пацёк ракой. Відовішча будзе - яшчэ тое!

З макіяжам увогуле зрабіць магчыма ўсё - ад рафінаванага анёла да млявай німфэткі. Самы просты спосаб вывесьці з абыякава-алькагольнага стану каханага - намаляваць чорнай фарбай вусікі і бародку "іспаньёлку", апрануць караценечкую спадніцу, эратычную кафтулечку і пайсьці шакаваць свайго кекса.. :) Спрацуе. Канечне, калі ён яшчэ ў стане адэкватна рэагаваць на навакольную рэчаіснасьць. А не - фарбуйся інакш і ідзі танчыць з новым, больш уважлівым да цябе кавалерам ;).

І тут вобраз дзяўчыны-цацкі - самы выгодны... Макіяж - пунсовыя вуснаčкі-банцікі, даўжэзныя вейкі, штучныя буйныя вяснушкі, сынтэтычна-кіслотны румянец на ўсю шчаку. Выраз твару - сасьцеклянела-празрысты... КасьцюмчыК па гэтай тэме лепш груба сшыты, з шыўкамі ў кантраст матэрыялу, без падваротаў і апрацоўкі. Гэта калі ты ў стане выдаткаваць дзень-два на шыцьцё і да таго ж перапсаваць гару тканіны. Калі не...

Новы экспрэс-варыянт: з аднаго боку эфэктным мастацкім жэстам робіш гэткі "напрыск" фарбай (прыскаеш вялікім пэндзьлем і з усяго размаху; сьцены папярэдне закрый газэткай) у кантраст колеру скуры - ад шыі і да макаўкі. Эфэктна выглядае нават пры самым сьціплым строі!





Яшчэ адзін варыянт - уцекачы зь віртуальна-замарожанага сьвету. Нешта ад касьмічных чужынцаў і герояў японскіх фантастычных мультфільмаў - белыя (альбо срэбныя) вусны, парычок колеру льдзінкі, сінія вейкі й бровы. Стыль - я з Альфа-Цэнтаўры.

## Строй

Адвечная тэма - агрэсіўны чорны і містыка... Толькі ня трэба ісьці шляхам вядзьмарак са школьных ранішнікаў - гэта маральна састарэла год 30 таму. Што трэба, дык гэта вэлюм, чорныя пафарбаваныя вочніцы, бледны твар, шмат грубых тканінаў (разнастайных), мэталёвыя ланцугі, скура, сетка - і каб усё напластоўвалася. Да таго ж спакушальныя дэкальтэ (для дзяўчат) - чым глыбей, тым лепей. Галоўнае - не захварэць потым на запаленьне лёгкіх.

Ну і самае шыкоўнае - гэта футра... Колькі зможаш, столькі і апранай! Увогуле задача - дастаць з бабуліных-матуліных запасьнікаў анучкі, кавалачкі трыкатажу й г.д. Усё гэта, добра пакрэмзаўшы, распаўсюдзь па сабе. І ня толькі! Нашый на свайго кекса кавалкі футра - будзеце парай пушысьцікаў! І ў руках па цаццы-пішчэлцы, каб суседзяў нэрваваць. Футра трэба фарбаваць у асабліва падрапаных месцах (самы цымус!).

Другая дэталь - клетка. Гэта зусім таск! Магчыма выразаць са старой трыкатажнай рэчы квадрацікі і нашыць іх на ўжо гатовую аснову.

Можна апранууцца з кексам пад "Боні і Кляйда". Ну, калі ты знойдзеш нейкі аўтамат Томпсана (лепей муляж) і будзеш цягаць падарункі сябрам у дзяружных торбах з надпісамі "1.000.000 $" - посьпех гарантаваны. Сюды дадай чорныя фірмовыя касьцюмчыкі, капелюшы ў стылі 30-х гадоў.

Яшчэ адзін выбрык (хутчэй для хлапцоў) - пастаў сабе панкаўскі грэбень (пафарбаваны ў антрацытавы зялёны ці чырвоны колер) і апрані шыкоўны смокінг - з-за гэтага кантрасту дзяўчыны не дадуць табе праходу...:)

Калі вабіць выгляд адмарозкаў зь іншай плянэты - спалучы якую-небудзь сукенку з багатай тканіны (яшчэ лепш - зь цісьненьнем і вышыўкай) зь нейкімі амаль плястыкавымі (а да таго ж - у кантраст колеру сукні) ботамі, шкарпэткамі і іншымі дробязямі. Ня бойся фантастычнай неспалучальнасьці - на тое й сьвята. Трэба гуляцца ад душы!..

Магчымы, канечне, і ўвогуле экстрым - вязьні ў паласатых КасцюмчыКах Сінг-Сінга, прывіды ў белых прасьцінах і пёрах, псыхі з тазікамі і падушкамі, якія зьбеглі з Навінак...

Агульныя парады па стварэньні КасьцюмчыКа

Спрабуй адчуць цалкам увесь ансамбаль, каб кожная дробязь была "ў касу". Магчыма спалучэньне неспалучальнага - аксаміт і вайсковыя боты, футра і трыкатаж з вэлюмам... Экспэрымэнтуй!

**Наталька ТЭМА**



малюнкі аўтара

Зь дзяцінства мы прывыклі, што на Новы год пад ёлкай абавязкова зьяўляюцца падарункі. Мы ад пачатку ведалі, хто іх нам прыносіць - Дзед Мароз. І нават пазьней, калі мы дазналіся, што Дзед Мароз - усяго толькі выхавацелька дзіцячага садку, пераапранеyая ў чырвонае паліто, з напамаджаным носам і з падазронымі аб'ектамі пад барадой (там, дзе ў нармалёвага мужыка на мусіць быць ніякіх нярoўнасьцяў)... і нават яшчэ пазьней, калі на занятках філязофіі мы даведаліся, што б сказаў Зыгмунд Фройд, пачуўшы пра тое нашае адкрыцьцё, - мы па-ранейшаму ўспрымаем Дзеда Мароза як дадзенасьць. Дзеткі пішуць лісты Дз.Марозу і Сьнягурцы (а таксама еінаму наноўсьпечанаму брацiку Рональду МакДональду), шыкоўныя Санта-Кляўсы раздаюць у тэлевізары "Кока-Колу", а на прэзыдэнцкай ёлцы Дзед Мароз становіцца важнейшым за Самога, і той нічога ня можа з гэтым парабіць. А мы глядзім на гэта і думаем, што ўсё ў парадку. Недаравальная бесклапотнасьць! Ніколі не лаві сябе на думцы, што ня ведаеш, ХТО ЯНО ТАКОЕ, тое недарэчнае стварэньне, якое штоpазу зьяўляецца ў нашым жыцьці пад Новы год?

**Імя, сястра!**

Па расейска-савецкай традыцыі мы клічам яго Дзедам Марозам. Калі адна супрацоўніца рэдакцыі пачула ад мяне гэтае словазлучэньне, яна ўсчыніла мне шыкоўную нагонку. "Ніколі не называй яго так! - нэрвова пакусваючы пекныя вусны, казала мне яна. - Гэта Сьвяты Мікалай!" І ад словаў тых у маіх вачох, скрозь сьветлы вобраз Сьвятога Мікалая, бачанага неяк у Варшаве, чамусьці сталі праступаць рысы Мікалая II. Маю рацпрапанову клікаць Сьв.Мікалая па-беларуску - Міколам - пекная каляжанка чамусьці прапусьціла міма вушэй. Але назаві яго як хочаш - Мікалаем, Марозам, Кляўсам ці яшчэ якім-небудзь Пэрам Наэлем (францускі варыянт) - сутнасьць не мяняецца. А яна ў тым, што сутнасьці як такой якраз і НЕ ВІДАЦЬ! Здаровы барадаты мужык прыпаўзае зь нейкай Ляпляндыі і пачынае "ад балды" раздаваць падарункі, калі яго ніхто пра гэта ня просіць. Зараз будзем разьбірацца, хто ён насамрэч. Можа, заразом створым некалькі найноўшых міталёгіяў...

**Гіпотэза #1:апошні гіпі**

Прыкладна так выглядаў бы сёньня які-небудзь пачынальнік руху гіпі. На карысьць гэтай гіпотэзы сьведчаць чырвоны нос (напоі ўсякія нехарошыя), барада (не галіўся мінімум гадоў пяць!) і экстравагантны строй. Сьв.Мікалай раздае падарункі цалкам бясплатна, што ня можа не выклікаць падазронасьці, калі толькі не згадаць пра адвечную непрыязь гіпі да грошай. А што? Касачок у зубы - і рабі людзям дабро! Слабое месца гіпотэзы: як гэткі выкапень здолеў захавацца да сёньня? Адзіны варыянт адказу: дапамагла вечная ляпляндзкая мерзлата.



**Гіпотэза #2: састарэлы пэдафіл**

Усім вядомая любоў Дзеда Мароза да дзяцей. А тут яшчэ нейкая падазроная Сьнягурка вакол яго круціцца. Калі яна ягоная ўнучка, то хто ж ейныя бацькі? Ніколі не разумеў пазыцыі татак і мамак. Штодня яны кажуць дзіцёнку: "Не размаўляй зь невядомымі дзядзькамі, а тым болей не бяры ад іх падарункаў!" А прыходзіць гэты дзед - і нуль увагі! Так і хочацца сказаць: грамадзяне, будзьце пільныя!

**Гіпотэза #3: мафіёзі**

На крымінальнае мінулае паказвае ўжо той спрыт, зь якім гэны дзед можа залезьці ў хату праз комін. Я б таксама так хацеў: залез, паклаў пад ёлку якую-небудзь хвіговінку, прыхапіў відак і 100 у.а. - і бывайце здаровы! Праўда, гледзячы па шыкоўных аленях, на якіх катаецца сёньня Дзядуля Мароз (звычайныя "браткі" могуць сабе дазволіць хіба што дохленькі "Мэрс"), сам ён бруднымі справамі ўжо не займаецца. Пэўна, для гэтага ў яго ёсьць свае адмарозкі... Зьвернем увагу і на ягонае дзіўнае імя - Дзед. У любога, хто служыў у войску, слова гэтае адразу асацыюецца зь іншым - "разборкі". Мне падаецца, што з гэткім жа посьпехам Дзед Мароз мог бы таксама звацца Паханом Марозам ці, скажам, Марозам У Законе.



**Гіпотэза #4: былы пацыент псыхушкі**

Вы толькі зірніце на яго: сядзяць дзеткі, дзяруць горла: "Дзядуля Мароз!", а ён нават на сваё ўласнае імя адгукаецца з трэцяга разу! Адно з двух: альбо гэта прагрэсіўная шызафрэнія, альбо звычайная дыбілія. І пытаньні ў яго нейкія імбэцыльныя: "Ну, дзеткі, хто мне раскажа казачку?" Якія казкі, дзед? Сёньня ўжо нават у яслях дзеці могуць за пяць хвілінаў разабраць і сабраць кампутар. З завязанымі вачыма!

**Гіпотэза #5: Усама бэн Ладэн**

Ніхто ў сьвеце ня ведае, дзе зараз тэрарыст № 1. Дык вось я вам кажу: ён хаваецца ў Ляпляндыі. Пафарбаваць бараду - справа пяцёх хвілінаў. А хто-небудзь правяраў, што ў ягонай торбе? Не зьдзіўлюся, калі там апынецца паўтоны гексагену... Але пакінем гэтую вэрсію на распрацоўку спэцыялістам з ФБР. Я ж, шаноўныя грамадзяне, проста хацеў сваёй нататкай зьвярнуць вашую ўвагу на наяўнасьць у нашым грамадзтве падазронае асобы. Лічу, што разабрацца ўрэшце, што ж ён насамрэч такі, гэты Дзед Мароз, - справа гонару для ўсяго Чалавецтва. І зрабіць гэта трэба неадкладна, бо ён ужо блізка!

inconnu



# Настрадамус пра сучаснасьць

*Глябальныя даты і сьвяты заўсёды ёсьць нагодаю для развагаў пра Час - Мінуўшчыну, Будучыню і Сучаснасьць. Каляды і Новы год - сымбалічныя для эўрапейскай (хрысьціянскай) цывілізацыі сьвяты. З гэтай нагоды прапануем вам найноўшыя пераклады і камэнтары прароцтваў Мішэля Настрадамуса.*

**6.80***

Панаваньне Фэза дойдзе да Эўропы,
Агонь над іх гарадамі і звон лязоў:
Вялікі з Азіі зямлёй і морам зь вялікім войскам,
Якое блакітных, сіне-зялёных, крыжовых загоніць
да сьмерці.

**Камэнтар.** Гэты катрэн - з шэрагу тых, што папярэджваюць эўрапейцаў пра пагрозу з Усходу. Загадкаю тут ёсьць узгадваньне Фэза (Fez), які, як можна меркаваць, выступае ў якасьці ўрбаноніма і абазначае цэнтральны горад ці, магчыма, вобласьць усходняй дзяржавы. Геаграфічныя арыентыры вядуць нас на тэрыторыю Бліжняга Ўсходу і Афрыкі. Перш за ўсё гэта горад паўднёваафрыканскай правінцыі Фарс (назва якой таксама мае фанэтычныя паралелі з настрадамаўскім Фэзам). Яшчэ Фэс - адзін з найбуйнейшых гарадоў Марока, краіны, якую аддзяляе ад Гішпаніі вузкая Гібралтарская пратока. Разьмяшчэньне гэтых двух аналягаў Фэза досыць паказальнае - яны ахопліваюць Эўропу з усходу і поўдня і належаць да ісламскага сьвету. У Настрадамуса згадваецца, што Вялікі з Азіі прыйдзе зямлёй і морам, што таксама адпавядае геаграфічнай лякалізацыі гэтых пунктаў у дачыненьні да Эўропы. Блакітны, сіні, зялёны колеры ўваходзяць у кола асноўных у дзяржаўнай сымболіцы эўрапейскіх краінаў; крыж - сымбаль хрысьціянскай веры. Настрадамус жыў няшмат пазьней за гішпанскую рэканкісту - канчатковае выгнаньне арабаў з Эўропы, - і таму ён, безумоўна, меў на ўвазе будучыню. Вызначаныя магчымыя кірункі будучае экспансіі зьяўляюцца досыць аб'ектыўнымі і аптымальнымі з гледзішча сучаснай геапалітыкі.

**5.54**

З-за мора Эўксінскага і вялікай Тартарыі
Зьявіцца кароль, што прыйдзе паглядзець на Галію,
Перасячэ аланаў і Армэнію
І ў Візантыі пакіне жазло (бізун) крывавае.

**Камэнтар.** Гэты катрэн разглядаецца дасьледнікам доктарам Люстрые як прадказаньне стратэгіі вайсковага нашэсьця кітайскага і арабскага войска на Эўропу і тычыцца перш за ўсё кітайцаў. Кітайскія войскі абяруць, як лічыць Люстрые, досыць разумны плян - яны пойдуць на захад праз Сібір, Урал, узьбярэжжа Каспійскага мора, Каўказ, дзе застаўся рэшткі племя аланаў, па ўзьбярэжжы Чорнага (Эўксінскага) мора праравуцца да Канстантынопалю, ад якога выйдуць у Цэнтральную Эўропу. У гэты ж час праз Італію ў Эўропу ўвойдуць арабы. Зазначым, што гэтая стратэгія ў асноўных рысах адпавядае згаданым у катрэне 6.80 двум кірункам удараў па Эўропе. Разам з тым Тартарыяй (алюзія Тартару - пекла) на эўрапейскіх мапах часоў Настрадамуса называлася тэрыторыя на поўнач ад Чорнага мора ў левабярэжжы Дняпра. Аланы - роднасныя сарматам плямёны - у I ст. н.э. прыйшлі з унутранай Азіі і аселі на Паўднёва-Рускай раўніне на поўнач ад Каўказу і на ўсход ад Дону. Настрадамус піша, што кароль перасячэ гэтыя землі, а перасекчы іх можна, ідучы з поўдня - адтуль, дзе зараз месьцяцца Іран і Турцыя. У гэтым выпадку шлях заваёўнікаў пойдзе па паўночным узьбярэжжы Чорнага мора, праз Украіну, Малдавію, Румынію. Дарэчы, такім шляхам прарваліся да Польшчы і Чэхіі ў XIII ст. мангольскія войскі. Такім чынам, зь вялікай доляй верагоднасьці можна сьцьвярджаць, што прадказаная Настрадамусам стратэгія заваёўнікаў будзе зьвязаная хутчэй за ўсё з прадстаўнікамі ісламскага сьвету.

**3.97**

Новы закон апануе новую зямлю
Да Сірыі, Іўдэі і Палестыны:
Вялікая імпэрыя барбараў зруйнуецца
Перш чым Фэб скончыць свой век.

**Камэнтар.** Першыя радкі асацыююцца з тэкстам Апакаліпсісу, дзе вядзецца пра новае неба і новую зямлю. Такім чынам, маецца на ўвазе пераход да прынцыпова новай глябальнай ідэалягемы, якая ахопіць "новую зямлю". Пад новымі землямі ў часы Настрадамуса ў першую чаргу разумеліся толькі што адкрытыя землі Амэрыкі. Што да новага закону, дык, як можна меркаваць, ён генэтычна зьвязаны з новай зямлёй і ўяўляе сабой нешта прынцыпова новае ў параўнаньні з традыцыйнымі сьветапогляднымі сыстэмамі, прадстаўленымі асноўнымі сусьветнымі рэлігіямі і ідэалягемамі грамадзкага сьветапарадку. Апакаліптычны характар прадказаньня надае падзеям, якія прадказваюцца, глябальны, касмаўтваральны характар. Можна меркаваць, што маецца на ўвазе ўтварэньне ЗША і дэкляраваньне новых прынцыпаў арганізацыі сьвету, заснаваных на ідэях Францускай буржуазнай рэвалюцыі - дэмакратыі, правах чалавека, квінтэсэнцыяй якіх зьяўляецца прынятая ў 1948 г. ў Нью-Ёрку краінамі-сябрамі ААН Усеагульная дэклярацыя правоў чалавека. Усходняя мяжа яе кампактнага распаўсюджаньня - краіна Ізраіль, якая мае сьвецкі характар, "заходнія" палітычныя і эканамічныя інстытуты. Далей на Ўсход ідуць ужо ісламскія краіны, дзе аддаецца перавага рэлігійным устаноўкам "старога закону". У гэты кантэкст упісваецца і руйнаваньне "імпэрыі барбараў", пад якой маецца на ўвазе былы СССР. Барбарамі ў часы Настрадамуса лічыліся людзі і народы, якія знаходзіліся па-за межамі лацінамоўнае культуры. Канец імпэрыі барбараў папярэднічае канцу веку Фэба - бога сонца. Тутака напрошваюцца паралелі з катрэнам 72.10 пра сонечную зацьму 1999 г. І гэта адпавядае храналёгіі падзеяў, зьвязаных з распадам СССР.

**Настрадамус пра тэракты**

Трагічныя падзеі 11 верасьня таксама маюць паралелі ў катрэнах Настрадамуса, дзе ўзгадваецца Новы Горад (г.зн. Нью-Ёрк). Прароцтвы распавядаюць пра ваенную катастрофу. Інфэрнальнае ўражаньне пакідае катрэн 6.97, у якім ньюёрская катастрофа прадказваецца з дакладнасьцю ведаў сучасьніка і ўражаньнямі непасрэднага назіральніка. Так, як сьведчыць катрэн (пер. В.Б. Бурбела і Е.А. Саламарскай), на сорак пятым градусе загарыцца неба, і агонь наблізіцца да вялікага новага гораду. Затым імгненна ўспыхне і распаўсюдзіцца велізарнае полымя; усё гэта будзе, калі пажадаюць пацьвердзіць меркаваньне нарманаў. Уражвае дакладнасьць указаньня месца паходжаньня пагрозы: г. Бостан, зь якога, як вядома, на Нью-Ёрк вылецелі два летакі, захопленыя тэрарыстамі, знаходзіцца на поўнач ад 44 паралелі - памылка ня надта значная. Паказальна прадбачаньне, што агонь пойдзе зь неба і горад хутка будзе ахоплены пажарам (вынік выбуxаў). Згадка пра нарманаў мае шырокі дыяпазон тлумачэньняў. Доктар Люстрые, які зьвязваў гэты катрэн з атамнай бамбардоўкай Хірасімы, лічыў, што нарманы - гэта амэрыканцы. Сапраўды, Настрадамус ужывае гэтае вызначэньне выключна рэдка і ня зьвязвае яго з нарманскімі народамі Скандынавіі. Можна пагадзіцца, што ў ягонай інтэрпрэтацыі яно значыць нешта накшталт "паўночнікаў". У гэтым кантэксьце падаецца досыць мэтазгодным атаясамліваць нарманаў з ангельцамі, краіна якіх месьціцца на эўрапейскай поўначы. Менавіта ангельцы - ангельская выведка - напярэдадні трагедыі неадназразова папярэджвалі амэрыканцаў пра магчымасьць тэрактаў.

**Пераклад і камэнтары Ігара Вугліка**

* Першая лічба азначае нумар цэнтурыі, другая - нумар катрэна. У дужках - варыянты перакладу.

][demon

# БЯСЬПЕКА Ў ОНЛАЙНЕ

*Прывітаньне, піпл! Рады вітаць цябе ў самым таямнічым і віртуальным разьдзеле часопісу! Спадзяюся, ты цудоўна адзначыў Дзень студэнта і зараз знаходзісься ў дастаткова добрай форме для далейшых размоваў пра віртуальнае жыцьцё. З папярэдніх нашых гутарак ты крыху ведаеш пра Windows XP і пра мэтад працы большасьці вірусаў. Наперадзе - вялізны аб'ём інфармацыі, якую я хацеў бы данесьці да цябе. Аднак мы абмежаваныя ня толькі колькасьцю піва, але, як ні дзіўна, і месцам на старонках часопісу. Таму пачнем неадкладна. І сёньняшняя нашая размова працягне сэрыю артыкулаў пра бясьпеку ў Інтэрнэце. Ведаеш - значыцца, абаронены.*

Як вядома з папярэдняга артыкулу (глядзі #10, 2001), хакер можа бязь цяжкасьці (тэарэтычна - на практыцы гэта досыць няпроста) атрымаць пароль да інтэрнэту з дапамогай вірусу. Акрамя таго, напісаўшы адпаведны вірус для пэўнага кампутара і пэўнай апэрацыйнай сыстэмы, ён можна скрасьці і нейкі дакумэнт. Хаця, прызнаюся (толькі не кажы маёй маме!), ажыцьцявіць гэта на практыцы ў мяне не атрымалася :(. Іншая справа - онлайн! Тут у нехарошага хакера зьяўляецца шмат магчымасьцяў. Ня буду пералічваць, што можна зрабіць, атрымаўшы доступ да кампутара - сам здагадаесься.

Аднак распавяду пра асноўныя спосабы.

## Спосаб #1.

Як вядома, існуюць такія мэханізмы, якія дазваляюць кіраваць на адлегласьці (той жа пульт для відака ці тэлевізара). Адпаведна, існуюць і

| Target IP | HostName | Ping | Time | WHOIS | Responding IP |
|---|---|---|---|---|---|
| 217.73.192.20 | mail.rambler.ru | 0:0 ... | 1532 | - | 217.73.192.20 |
| 217.73.192.21 | www1.rambler.ru | 0:0 ... | 1552 | - | 217.73.192.21 |
| 217.73.192.22 | www2.rambler.ru | 0:0 ... | 1532 | - | 217.73.192.22 |
| 217.73.192.23 | www3.rambler.ru | 0:0 ... | 2664 | - | 217.73.192.23 |
| 217.73.192.24 | www4.rambler.ru | 0:0 ... | 882 | - | 217.73.192.24 |
| 217.73.192.25 | www5.rambler.ru | 0:0 ... | 901 | - | 217.73.192.25 |
| 217.73.192.26 | www6.rambler.ru | 0:0 ... | 911 | - | 217.73.192.26 |
| 217.73.192.27 | www7.rambler.ru | 0:0 ... | 981 | - | 217.73.192.27 |
| 217.73.192.28 | www8.rambler.ru | 0:0 ... | 902 | - | 217.73.192.28 |
| 217.73.192.29 | www9.rambler.ru | 0:0 ... | 992 | - | 217.73.192.29 |
| 217.73.192.30 | mail1.rambler.ru | 0:0 ... | 971 | - | 217.73.192.30 |
| 217.73.192.31 | mail2.rambler.ru | 0:0 ... | 831 | - | 217.73.192.31 |
| 217.73.192.32 | mail3.rambler.ru | 0:0 ... | 741 | - | 217.73.192.32 |
| 217.73.192.33 | mail4.rambler.ru | N/R | N/R | - | N/R |
| 217.73.192.34 | mb1.rambler.ru | N/R | N/R | - | N/R |
| 217.73.192.35 | mb2.rambler.ru | 0:0 ... | 891 | - | 217.73.192.35 |
| 217.73.192.36 | mb3.rambler.ru | 0:0 ... | 751 | - | 217.73.192.36 |
| 217.73.192.37 | mail5.rambler.ru | N/R | N/R | - | N/R |
| 217.73.192.38 | mb4.rambler.ru | 0:0 ... | 992 | - | 217.73.192.38 |
| 217.73.192.39 | top100-win.rambler.ru | 0:0 ... | 971 | - | 217.73.192.39 |
| 217.73.192.40 | top100-koi.rambler.ru | 0:0 ... | 1001 | - | 217.73.192.40 |

Фрагмэнт справаздачы па сканаваньні ай-пі дыяпазону з 217.73.192.20 па 217.73.192.40 (Рамблер). Бачныя імёны хастоў, час адказу

такія праграмы, якія дазваляюць з аднаго кампутара кіраваць працай другога. Іх зараз ня так ужо і мала, аднак, на мой погляд, увагі заслугоўваюць толькі дзьве - Remote-Anything ад TWD Industries (http://twd-industries.com) і Back Orifice 2000 ад хак-групы *Культ мёртвай каровы* (http://www.cultdeadcow.com). Мэханізм працы праграм такога кшталту вельмі просты - на кампутар ахвяры (калі не дачытаеш гэты артыкул, можаш сам зрабіцца гэтай ахвярай!) засылаецца сэрвэрная частка (да прыкладу, у Remote-Anything яна складае ўсяго 56 кілябайтаў, да таго ж адным файлам). Закінуць гэты файл да ахвяры звычайна досыць проста - напрыклад, у якасьці фатаздымка. Для кампутараў зь Він 95, 98 і Міленіюм гэта праходзіць проста цудоўна. Справа ў тым, што гэтыя сыстэмы не дазваляюць ажыцьцяўляць поўны кантроль над працэсамі, і таму знайсьці гэтую праграму складана, бо, вядома ж, яна вельмі добра схаваная, і вонкавых прыкметаў яе працы не існуе, хаця на самой справе яна стартуе кожны раз з запускам апэрацыйнай сыстэмы. Як жа засьцерагчыся ад такой небясьпекі? Адказ - пастаў антывірус! Кожны нармальны антывірус на сёньняшні дзень распазнае большасьць такіх траянцаў - ва ўсялякім выпадку, Back Oriffice (дарэчы, у свой час гэта была досыць вясёлая забаўка, хаця і сёньня яшчэ рана яе сьпісваць з рахункаў ;).

Дык вось, акрамя сэрвэрнай часткі, якой кіруюць, патрэбная кліенцкая частка, зь якой кіруюць. Далей усё проста (ня толькі тэарэтычна, але і практычна ;) - дастаткова далучыцца кліенцкай часткай да сэрвэрнай, і - вуаля! - можна спакойна "працаваць"! Ну, праўда, ёсьць праблема вызначэньня ай-пі адрэсы, аднак яна досыць лёгка вырашаецца...

```
Date: Tue, 20 Nov 2001 12:48:07 +0200
Message-ID: <redirect-3552247@tut.by>
X-Original-Return-Path: <studumka@tut.by>
Received: from [194.158.216.161] (account studumka HELO Iryna)
  by tut.by (CommuniGate Pro SMTP 3.4.8)
  with ESMTP id 3549046; Tue, 20 Nov 2001 11:58:29 +0200
X-Original-Message-ID: <001201c171a9$f579daa0$a1d89ec2@Iryna>
From: "Studumka" <studumka@tut.by>
X-Original-Date: Tue, 20 Nov 2001 11:54:09 +0200
Organization: Studenckaja Dumka
MIME-Version: 1.0
Content-Type: multipart/alternative;
        boundary="----=_NextPart_000_0007_01C171BA.1092DAC0"
X-Priority: 3
X-MSMail-Priority: Normal
X-Mailer: Microsoft Outlook Express 5.00.2417.2000
X-MimeOLE: Produced By Microsoft MimeOLE V5.00.2314.1300
```

Фрагмэнт загалоўка мэйла з пазначаным імём хаста і ай-пі адрэсай, а гэтаксама паштовай праграмай



## Спосаб #2.

Калі папярэдні спосаб абавязваў закідаць на кампутар ахвяры нейкую праграму, то гэты спосаб якраз адваротны - гэтым разам мы нічога ня ведаем пра кампутар, пра апэрацыйную сыстэму і г.д., аднак у нас маецца нейкі нахабнік, які дазволіў сабе адправіць электронны ліст зь вірусам альбо ганебнае паведамленьне на нашую Аську. Што ж, трэба ведаць, на каго наяжджаць! Мы ж ня нейкія там простыя чувакі, мы ж канкрэтныя пацаны, і ў мастацтве сеткавай бясьпекі нам няма роўных! Таму пачнем.

Для пачатку высьветлім ай-пі адрэсу нахабы. Адразу зазначу, што ня ў кожным разе гэта магчыма. Да прыкладу, калі гэты разумнік скарыстаўся проксі-сэрвэрам, які зацірае ай-пі адрэсу, то гіблая наша справа (што, аднак, не замінае нам даслаць пару ласкавых словаў у ягоны адрас ;). Калі ж гэты піпл аказаўся не такім разумным, то ў нас ёсьць 99,9% упэўненасьці, што яму не пашчасьціць. Не забывайся - мы ж канкрэтныя пацаны (і Сярожа тожа)! Дык вось, як нам высьветліць ай-пі? Напрыклад, ты атрымаў ліст. Калі ён адсылаўся з сэрвэру, то мы можам толькі пашкадаваць, што ў чалавека на паштовую праграму не знайшлося грошай... Але калі праз паштовую праграму, то там, верагодней за ўсё, будзе пазначаная ай-пі адрэса і імя хаста (кампутара). У такім разе трэба паглядзець, да якога правайдэра адносіцца дадзены кампутар, і пэрыядычна сканаваць увесь дыяпазон, пакуль ня знойдзецца тое, што шукалі. Калі ж у лісьце пазначаная толькі ай-пі адрэса, і да таго ж ён быў адасланы тыдзень таму (а так - у большасьці выпадкаў) - можна пашкадаваць пра гэта і скарыстацца Спосабам #1, бо немагчыма знайсьці сярод вялізарнай колькасьці кампутараў правайдэра пэўны кампутар, ня ведаючы імя хаста. Агавару(ся) - гэта для выпадкаў, калі карыстальнік пасьпеў адлучыцца ад інэту і зьмяніць свой ай-пі (справа ў тым, што пры дазвоне да правайдэра кампутар атрымлівае нейкую часовую адрэсу - ай-пі, - што дазваляе яму кантактаваць з астатнімі кампутарамі ў Інтэрнэце. Адрэсы кожнага правайдэра абмежаваныя нейкім дыяпазонам, і таму ў 99% выпадкаў пры наступным падключэньні карыстальніка да правайдэра яго ай-пі будзе адрозным ад таго, якім ён быў пры папярэднім падключэньні). Калі ж карыстальнік не адключаўся ад правайдэра - што ў выпадку зь e-mail, а тым больш на нашых сетках проста неверагодна, - то ўсё добра, і можна ісьці на штурм!



Аська

Вакно праграмы для аддаленага адміністраваньня Remote-Anything

І яшчэ адзін нюанс - вызначэньне ай-пі адрэсы ў Аську. Гэтаксама, як і ў папярэднім выпадку з поштай, няма стоадсоткавай верагоднасьці посьпеху. Справа ў тым, што, акрамя проксі-сэрвэраў, чалавек можа лезьці праз лякальную сетку, а ўсе вядомыя мне праграмы для вызначэньня ай-пі адрэсы праз ICQ паказваюць менавіта гэтую адрэсу. Але адкінем гэтыя сумныя развагі і пяройдзем да справы. Праграмаў для, як выказаўся мой нямецкі сябар, "рабленьня гадасьці з дапамогай Аські" вельмі шмат. Гадасьці мы рабіць ня будзем: мы ж, да ўсяго, пацаны мірныя, справядлівыя і "з паняціямі". Але ай-пі адрэсу таго, хто на нас наехаў, высьветлім. Усе праграмы для вызначэньня ай-пі маюць зразумелы інтэрфэйс і просты прынцып дзеяньня - яны здабываюць усю неабходную інфармацыю прама з праграмы-кліента ICQ, для чаго яна і павінна працаваць. Спасылкі ёсьць на шмат якіх сайтах - да прыкладу, на той жа Astalavista (www.astalavista.com).

**To be continued...**

У студзеньскім нумары: Супраць лому няма прыёму: ZoneAlarm Pro, Sygate Personal Firewall і Agnitum Outpost Firewall - вартаўнікі твайго кампутара. Будзь у бясьпецы!

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ЦЭНТАР КАНТАКТНАЙ КАРЭКЦЫІ ЗРОКУ

# “БЕЛОФТООПТИКА”

**КАНТАКТНЫЯ ЛІНЗЫ**
*АЙЧЫННЫЯ І ІМПАРТНЫЯ*

**СРОДКІ ДОГЛЯДУ ЗА ЛІНЗАМІ**
*ШЫРОКІ ВЫБАР*

*вул. Сурганава, 54 ..............232-51-94*
*пр. “Известий”, 3 .............270-20-47*
*вул. Броўкі, 7.......................232-25-27*

СТУДЭНТАМ І ШКОЛЬНІКАМ - ЗЬНІЖКІ

**КАНСУЛЬТАЦЫІ ПА ПРАФІЛАКТЫЦЫ ХВАРОБАЎ ВАЧЭЙ**
**231-48-22**

Ліц. №16 ЛТ ад 24.12.1999 да 24.12.2004

# Памер гэтага аўтамабіля паказвае колькасьць грошай, якія вы можаце згубіць.




Памер гэтага аўтамабіля паказвае колькасьць грошай, якія вы выдаткуеце, каб застрахавацца.*

● Страхаваньне ад няшчасных выпадкаў і мэдычнае страхаваньне тых, хто выяжджае за мяжу, у тым ліку і ў выглядзе комплекснага страхаваньня ● Страхаваньне адказнасьці аўтаперавозьнікаў і экспэдытараў (на ўмовах Канвэнцыяў CMR і TIR) ● Страхаваньне адказнасьці ● Страхаваньне грамадзянскай адказнасьці ўладальнікаў аўтатранспарту ● Страхаваньне каско транспартных сродкаў і каско паветраных судоў ● Страхаваньне маёмасьці прадпрыемстваў і арганізацый ● Страхаваньне грузаў ● Страхаваньне фінансавае рызыкі ● Страхаваньне касаў ● Страхаваньне хатняе маёмасьці ● Страхаваньне будынкаў грамадзянаў

**БРОЛЛИ**
СТРАХАВАЯ КАМПАНІЯ

**220030, Менск, вул. Ульянаўская, 31**

* Падрабязна пра ўмовы зьдзелак Вы зможаце даведацца, патэлефанаваўшы нам: **(017) 222-47-45, 222-48-73. Факс (017) 222-47-46**

Ліц.: №000507 ад 15.08.2001, №000503 ад 15.08.2001, №000565 ад 30.10.2001, №000304 ад 20.10.2000, №000203 ад 27.03.2000, №000504 ад 15.08.2001, №000478 ад 20.07.2001, №000285 ад 08.09.2000, №000136 ад 30.04.1999, №000484 ад 27.07.2001, №000420 ад 02.04.2001, №000586 ад 02.11.2001, №000144 ад 25.06.1999.



*“ДААС” - аўтарызаваны дылер кампаніі LEXMARK*

*4 ГАДЫ АПТЫМІСТЫЧНАГА ПАДЫХОДУ ДА "РС" - МІСТЫЧНЫХ ПРАБЛЕМАЎ*

Тэл/факс
*269-10-50, 266-95-61*
*268-38-20, 285-61-71*

*www.daascom.com*
*E-mail: Daas@daascom.com*

DaaS computers



## *Кампутары*

Самыя надзейныя кампутары, сабраныя адмыслова для ВАС - зыходзячы з ВАШЫХ патрэбаў і не забываючыся на ВАШЫЯ магчымасьці. ВЫ можаце мадэрнізаваць ВАШ кампутар і быць у курсе апошніх тэхнічных навінак.

## *Камплектуючыя*



Самыя “сьвежыя” камплектуючыя па самых даступных коштах ад вядучых вытворцаў Intel, AMD, 3Com, US Robotics і інш. У нас шмат чаго ёсьць!



## *Маніторы*

Маніторы на любы густ, самыя апошнія мадэлі ад Samsung, ADI, SONY, ProView. Парадуйце вока добраю выявай!

## *Друкаркі* LEXMARK



Надзейныя і практычныя мадэлі струмянёвых і лазэрных друкарак! Ніколі яшчэ друк ня быў такі эканамічны !




## *Выдатковыя матэрыялы*

Картрыджы, тонэры, запраўкі. Аднаўленьне і запраўка лазэрных і струмянёвых картрыджаў Lexmark, HP, Canon і інш.

## *Кампутаровая мэбля*



Надзейнасьць, практычнасьць, прыгажосьць, камфорт - фірмовы стыль “Даас”. Геніяльныя думкі прыходзяць у галаву, калі зручна сядзіш!

- ☑ Індывідуальны падыход да кліента
- ☑ Бескаштоўныя тэхнічныя кансультацыі
- ☑ Вырашэньне любых “кампутаровых” пытаньняў
- ☑ Бескаштоўная дастаўка

*Гарантыя якасьці*

# Студэнтам % зьніжкі



*“ДААС” - аўтарызаваны дылер кампаніі LEXMARK*

Ліц. №17509 ад 12.09.2000